29 верасня 2017 | № 36 (550)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Куды прывядзе «Зорны шлях»?

стар. 19





# Міраслаў Лазоўскі: «Мова — гэта не стары бабульчын збанок»



Алесь КІРКЕВІЧ

З ключавым фігурантам «Справы патрыётаў», якому следства ўпарта гатавала ролю правадыра міфічнай «узброенай арганізацыі», колішнім сябрам неіснуючага ўжо «Белага Легіёну» Мірaславам Лазоўскім мы вырашылі пагутарыць зусім не пра палітыку, а пра гісторыю, літаратуру ды... асабістае жыццё.

Будучы публічнай персонай яшчэ напярэдадні арыштаў па «Справе патрыётаў», хаця б у кантэксце беларускага кніжнага гандлю альбо «легіянерскага» мінулага, Мірaслаў заўсёды знаходзіўся нібыта ў цені. Пра яго глыбокае веданне гісторыі і спрыянне розным гістарычным праектам ведала не так багата людзей, пра асабістае жыццё — яшчэ меней.

Таму ў размове мы адмыслова не закранаалі ані акалічнасцяў «Справы патрыётаў», ані абставінаў адсідкі, ані палітычных момантаў. Затое пагутарылі пра любімых аўтараў, палкаводцаў, сувязь паміж кніжным рынкам і нацыянальнай бяспекай, урэшце, даведаліся пра таямніцу даты шлюбу Мірaслава і Святланы Лазоўскіх, што адбыўся зусім нядаўна.

## «Чым больш ездзіў у Расію, тым больш любіў Беларусь»

***— Вы — намеснік дырэктара выдавецтва «Кнігазбор». Як прыйшлі да гэтага, маючы адукацыю інжынера, раней працаваўшы экспедытарам?***

— Я працаваў не проста экспедытарам, а інжынерам па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні. І паколькі шмат контрагентаў было ў Расіі, я займаўся экспедыцыямі. Умоўна кажучы, каб усе былі спакойныя, у Расію я матаўся сам.

***— То бок гэта паездкі ў Расію паўплывалі на цікавасць да «беларускага слова»?***

— У тым ліку. Чым больш я ездзіў у Расію, тым больш любіў Беларусь (*смяецца*). Падчас крызісу 2011 года я звольніўся з папярэдняй працы, ездзіў на будоўлю... Пасля апынулася, што выдавецтва «Кнігазбор» шукае чалавека, які будзе займацца ў тым ліку і кнігараспаўсюдам. Зараз я памочнік кіраўніка «Кнігазбору», я ў раз'ездах, а дырэктар — у офісе.

Нашы партнёры — кампанія «Будзьма беларусамі» і Саюз беларускіх пісьменнікаў — праводзілі шэраг дабрачынных акцыяў па забеспячэнні беларускімі кнігамі раённых бібліятэк, якія маюць праблемы з грашыма на закупку. Мне дужа падабаецца ездзіць у камандзіроўкі па Беларусі. Дзякуючы гэтай працы я, пэўна, за выключэннем 4–5 раёнаў аб'ездзіў усю краіну. Таму, калі з'явілася ад пачатку такая прапанова па працы, я зразумеў, што, нягледзячы на розныя фінансавыя нюансы, гэта — маё.

## Марціновіч, Станкевіч і... малюнкі ў дзіцячых кніжках

***— Ці ўспрымаеце распаўсюд беларускага слова таксама як элемент патрыятычнай працы?***

— Безумоўна. Калі звярнуцца да гістарычнага досведу, то пасля разгрому Паўстання 1863–1864 гадоў палякі зрабілі для сябе адпаведныя высновы. Яны ўцямілі, што калі нацыя шляхецкая, то колькі ты ні падымай на паўстанне, гэтыя 10% насельніцтва ніколі нічога не вырашаць. Тады ў іх пачаўся этап «арганічнай працы», калі з «народу хлопскага» яны рабілі народ польскі. Як? Праз культуру, найперш, праз кнігі. Патрэбна было, каб кожны, хто жыве ў Польшчы, усвядоміў сябе найперш палякам, а не халопам кагосьці.

Мне здаецца, што ў нас падобная сітуацыя, і беларуская нацыя можа сфармавацца адно на падставе шырокай культурніцкай працы.

> **Беларуская нацыя можа сфармавацца на падставе шырокай культурніцкай працы**

***— Але зараз кажуць, што час масавай кнігі ўжо прайшоў. Ці варта параўноўваць нашы рэаліі з другой паловай XIX стагоддзя?***

— Калі казаць пра гэта параўнанне, то тады людзі масава яшчэ не чыталі, зараз — ужо не чытаюць. Безумоўна, тэлебачанне і інтэрнэт адцягваюць шмат увагі ад чытання, наклады жахліва ўпалі. Яшчэ 20 гадоў таму наклады на беларускім рынку сягалі 10–50 тысяч асобнікаў. Зараз нават у дзяржаўных выдавецтвах гэта 1–2 тысячы. Тое ж з недзяржаўнымі выдавецтвамі: 1000 — гэта вельмі добры наклад, больш — гэта паспяховы праект. Абсалютная большасць выдаецца яшчэ меншымі тыражамі: 200–300–500...

***— А самі паспяваеце чытаць кнігі, якія распаўсюджваеце?***

— Канешне, не ўсе. Па-першае, у нас ідзе салідны ўпор на дзіцячую літаратуру. Там я разглядаю малюнкі (смяецца). Вельмі люблю Віктара Марціновіча, якога мы выдаем. «Сфагнум», «Мова»... Апошнюю кнігу — «Возера радасці» — да таго, як трапіў у СІЗА, не паспеў прачытаць, а зараз часу няма. Таксама чытаю Юрыя Станкевіча, яго выдаюць «Галіяфы» — на жаль, не мы.

## «Беларускае кнігавыданне — гэта не бізнес, а гуманітарная місія»

***— Усё ж такі, што мае адбыцца, каб беларусы пачалі чытаць кнігі па-беларуску? Ці не позна?***

— Усё магчыма, нічога незваротнага няма. Ёсць досыць шмат прыкладаў з найноўшай гісторыі, калі народы амаль з нуля адраджалі сваю мову.



Працяг на стар. 6 »

# Заробак у 1000 рублёў мала хто ўбачыць

**Сярэдні заробак да канца года можа дасягнуць тысячы рублёў, але народ будзе абурацца: «Падманулі!». Фінансавы аналітык патлумачыў, у чым парадокс сітуацыі.**




Старшы аналітык «Альпары» Вадзім Іосуб мяркуе, што, улічваючы рост эканомікі, у снежні намінальная налічаная сярэдняя зарплата рэальна можа дасягнуць тысячы рублёў. Нагадаем, такі памер сярэдняй зарплаты патрабаваў замацаваць да канца года Лукашэнка.

— Трэба ўлічваць адзін важны нюанс: звычайна сярэдняя зарплата ў снежні за кошт выплаты гадавых-паўгадавых прэмій здзяйсняе скачок. Гэты скачок бывае каля 10–15% да заробку лістапада, — растлумачыў Вадзім Іосуб. — Пасля чаго ў студзені зарплата правальваецца зноў на 10–15%, а то і больш.

На думку эксперта, узровень сярэдняй зарплаты 1000 рублёў замацаваны не будзе. У лепшым выпадку, да яго можна будзе вярнуцца вясной наступнага года.

Вадзім Іосуб падкрэслівае, што зарплата, якую насельніцтва атрымлівае на рукі, — гэта іншыя лічбы.

— Трэба вылічыць як мінімум 14%. Калі мы гаворым пра асаблівасці зарплаты па рэгіёнах, то ў сталіцы яна вышэй за сярэдні ўзровень, а за межамі Мінска, за выключэннем некалькіх раёнаў, — ніжэй за сярэдні.

Парадокс сітуацыі ў тым, што пераважная большасць жыхароў краіны тысячу рублёў сярэдняй зарплаты не ўбачыць. Органы дзяржаўнай статыстыкі палічаць сярэднюю налічаную зарплату і здадуць справаздачу: атрымайце, што абяцалі. Народ будзе абурацца, што яго падманулі, бо людзі ніякіх тысяч у руках не трымалі, — заключае суразмоўца.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Бронекамізэлькі, аўтаматы…

Сяргей ПУЛЬША

**Актывісты анархісцкага і зялёнага руху, у якіх адбыліся ператрусы, правялі прэс-канферэнцыю.**

Як паведаміла калегам журналістка Марына Кастылянчанка, ператрус у яе пачаўся каля сямі раніцы. У дзверы грукалі настойліва і папярэджвалі, каб яна не даводзіла справу да «як тады». «Як тады» — гэта напярэдадні 25 сакавіка, калі ў яе таксама правялі ператрус, пры гэтым выбіўшы дзверы.

Калі Марыне паказалі пастанову на правядзенне следчых дзеянняў, яна адразу звярнула ўвагу на два моманты. Першы — што яны праводзяцца ў сувязі з падпалам рэкламнага білборду ў Івацэвічах, і што ёсць падазрэнне, нібы ў хаце, дзе яна жыве, могуць знаходзіцца зброя і выбуховыя рэчы. Другое — што яна асабіста там ніяк не пазначана. Пастанова была на правядзенне вобшуку менавіта ў кватэры, а не ў яе.

Следчыя правялі ў яе дома паўтары гадзіны. Пры гэтым адзін з іх ужо быў у яе ўвесну. «Было нават цікава: там, дзе ў мяне зваленыя старыя рэчы, іншая трасца, да якой не дакранаюся гадамі, той чалавек толькі паглядзеў і сказаў сваім калегам, што там няма нічога цікавага. Такі вось быў ператрус», — адзначыла Кастылянчанка.

У яе забралі літаратуру, тэлефон, кампутар. Што таксама выклікала здзіўленне: усе гэтыя рэчы ўжо вымаліся ў яе падчас вясноўага вобшуку, прайшлі праз экспертызу, вернутыя ёй і зараз — вынятыя ў другі раз.

У прыватным доме, дзе жыве выканаўчая дырэктарка ГА «Экадом» Марына Дубіна, усё было значна цікавей. Да яе таксама завіталі а 7-й раніцы, аднак адкрыццця дзвярэй не асабліва чакалі. Ледзь Марына паспела яе прыадчыніць, як у хату ўварваліся ўзброеныя аўтаматамі байцы ў масках. Яны паклалі ўсіх прысутных на падлогу, прайшліся па іх ботамі, і толькі потым за імі ўвайшлі следчыя.

Падстава для ператрусу тая ж — падпал у Івацэвічах. Хто абвінавачваецца ці падазраецца — зноў невядома. Падазраецца дом, у якім зноў шукаюць выбухоўку. Шукаюць выбухоўку, але забіраюць — літаратуру, кампутары, тэлефоны.

Пры гэтым у доме, акрамя Дубінай, знаходзіліся яшчэ чатыры чалавекі, адна з іх — грамадзянка Германіі. «Затрыманых» гаспадароў сагналі ў асобны пакой, а «падазроныя рэчы» агулам аднеслі на кухню. На заўвагі і прапановы перапісаць хаця б тое, дзе чые рэчы, які кампутар каму належыць і дзе чый мабільны тэлефон, следчыя не рэагавалі — зносілі ўсё ў агульную кучу са словамі: «Там разбярэмся».

У агульную кучу паклалі і грошы сябра Марыны Ігара Труханові ча. Прычым, калі іх вымалі, грошы пералічылі пры панятых — было 1550 еўра. Калі ж пачалі складаць канчатковы акт выняцця, аказалася, што запісалі — 1055 еўра. «Кіраўнік следчай групы пры нас запытаўся ў следчых, хто пералічваў грошы. Яны не прызналіся. Ён запытаўся, ці лічылі іх увогуле. На гэта я і паняты адказалі — так, лічылі. Было 1550 еўра», — расказвае Ігар.

Сацыяльнай актывістцы Анісіі Казлюк на момант ператрусу дома не было, але была яе суседка. Суседка была ўражаная: да яе таксама завіталі людзі ў поўнай экіпіроўцы: у бронекамізэльках, балаклавах, з аўтаматамі, молатам і ломам. Бачна, рыхтаваліся выбіваць дзверы. Калі суседка папрасіла следчых хаця б прадставіцца, ёй адказалі: «Вы што, фільмаў пераглядзелі?» А калі гэтая суседка пачала настойваць, то ёй паабяцалі прыкаваць кайданкамі да батарэі.

Забралі тэхніку, носьбіты інфармацыі, флэш-карту з фотаапарата і нататнікі Анісіі.

Пра прычыны ператрусаў іх фігуранты, хутчэй, гадалі. Магчыма, гэта звязана з іх актывізмам у анархісцкім ды «зялёным» руху, і тое не факт — Анісія Казлюк, напрыклад, не мае дачынення ані да «зялёных», ані да анархістаў. Магчыма, невыпадкова ператрусы прайшлі ў тых, у каго яны ўжо праходзілі перад 25 сакавіка. Магчыма, такім чынам улады імкнуцца «нешта накапаць» напярэдадні восеньскіх акцый пратэсту. А магчыма, папросту спрабуюць запалохаць. Аднак усё гэта — толькі «магчыма».

# «Кожны з нас будзе працягваць служыць Радзіме»

**Як вядома, 21 верасня працягнуты тэрмін вядзення следства па «Справе патрыётаў». Шасці месяцаў было недастаткова, каб следчым органам пераканацца ў абсурднасці самога з'яўлення крымінальнай справы. З гэтай нагоды 15 фігурантаў «Справы патрыётаў» прынялі заяву.**

## Заява фігурантаў «Справы патрыётаў»

«Паўгода прайшло з моманту ўзнікнення «Справы патрыётаў», першыя затрыманні па якой адбыліся 21 сакавіка гэтага года. Мы спадзяваліся, што зацікаўленым дзяржаўным структурам хопіць шасці месяцаў, каб разабрацца і зразумець: падстаў для ўзбуджэння крымінальных справаў па артыкулах 293 ч. 3 ды 287 не было і няма.

Так, справа па артыкуле «аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў» (арт. 293 ч. 3) была спыненая, але замест асэнсавання памылковасці ўзбуджэння згаданых справаў, за гэты час ні з адной асобы па справе «аб незаконным узброеным фармаванні» не было знятае абвінавачванне, і 21 верасня тэрмін следства па арт. 287 зноў працягнуты.

Так, мы ўсе — фігуранты «Справы патрыётаў» — сёння знаходзімся на свабодзе, адпушчаныя пад падпіску аб нявыездзе і неразгалошванні, але справа не спыненая. І непрыемным «сюрпрызам» стала нядаўняе пазбаўленне ліцэнзіі Ганны Бахцінай, адваката ключавога фігуранта справы Мірaслава Лазоўскага, якога следства спрабавала прадставіць лідарам міфічнай «узброенай арганізацыі».

Відавочна, такое рашэнне ў дачыненні да аднаго з найбольш вядомых адвакатаў краіны палітычна матываванае, вытрыманае ў духу помсты за сумленнае выкананне Ганнай Віктараўнай сваіх прафесійных абавязкаў у якасці юрыста і адваката. Спадзяемся, што падобная практыка не будзе прымененая да іншых адвакатаў, а несправядлівае рашэнне ў дачыненні да Ганны Бахцінай будзе адмененае.

Мы па-ранейшаму заяўляем аб сваёй невінаватасці і перакана免ныя: як самі арышты, так і надуманыя абвінавачванні ў крымінальных злачынствах, што сталі падставай для «Справы патрыётаў», — гэта цалкам палітычнае рашэнне, якое не мае фактычных падставаў і звязанае з няздольнасцю дзяржаўных структураў справіцца з узніклай агульнай напружанай палітычнай і сацыяльнай сітуацыяй у краіне ў лютым-сакавіку 2017-га.

Як трапна адзначыў Аляксей Абрамаў: «Ва ўмовах пошуку дзяржчыноўнікамі магчымасці падоўжыць час свайго знаходжання на пасадах, яны спрабуюць любым чынам прыцягнуць знешнія рэсурсы для фінансавання стабільнасці сістэмы. У гэтым «шпагаце» паміж Усходам і Захадам, у шахматнай партыі з нябачнымі нам гульцамі, мы апынуліся ўцягнутымі ў гамбіт, дзе атрымалі ролі пешак, якімі без ваганняў ахвяравалі для дасягнення ўяўных мэтаў».

Пры гэтым, абвінавачанні ў спробе арганізацыі «масавых беспарадкаў», а пасля — у «стварэнні незаконнага ўзброенага фармавання» не маюць нічога агульнага ані з колішняй дзейнасцю ўжо даўно не існуючай спартова-патрыятычнай арганізацыі «Белы Легіён», ані з персанальнай дзейнасцю і жыццём кожнага з нас, хто з-за палітычных гульняў трапілі пад рэпрэсіі.

«Я ніколі не думаў, што любоў да Радзімы, а таксама выхаванне і заахвочванне падобных якасцяў у іншых, можа трактавацца як злачынства. Дзяржава прапагандуе і спорт, і здаровы лад жыцця, і службу ў войску… — усё тое, што папулярызую і я асабіста, і мае сябры. Дык за што з нас робяць злачынцаў — за падтрымку дзяржаўнай палітыкі ў гэтых накірунках?» — адзначае Віктар Данілаў.

«Як сведчыць гісторыя, асабліва ў крытычныя для краіны часы менавіта патрыёты ставалі найкаштоўнейшым рэсурсам дзяржавы. А ганьбаванне і перакручванне на негатыўны лад самога паняцця «патрыёт» супярэчыць базавым інтарэсам любой дзяржавы», — лічыць Мірaслаў Лазоўскі.

Мы хочам падзякаваць усім, хто не паверыў дзяржаўным СМІ, якія спрабавалі зрабіць з нас крымінальнікаў, а таксама ўсім арганізацыям, ініцыятывам і асабіста кожнаму, хто аказваў дапамогу і падтрымку і нам, і нашым сем'ям, ахвяруючы сваім спакоем і дабрабытам.

«Калі б не людская хвала салідарнасці і дапамогі, аб'ектыўнае асвятленне і пільная ўвага з боку журналістаў незалежных выданняў, разуменне і падтрымка міжнароднай супольнасці, найперш прадстаўнікоў амбасадаў замежных краін, імаверна, мера стрымання дагэтуль не была б зменена, і годныя людзі заставаліся б за кратамі. І мы верым, што такая хвала салідарнасці дапаможа паставіць апошнюю кропку ў гэтай надуманай справе — спыніць яе з-за адсутнасцю складу злачынства», — падкрэслівае Ніна Шыдлоўская, грамадскі прадстаўнік фігурантаў «Справы патрыётаў».

На жаль, былі і спробы спекуляцый на нашай бядзе. Таму мы вымушаныя звярнуцца з перасцярогай: любое пазіцыянаванне сябе якімі-колькек асобамі як чальцоў «Белага Легіёна», дзейнасць ад імя гэтай ужо не існуючай арганізацыі, збор грошай як быццам бы на патрэбы «арганізацыі» альбо яе чальцоў просім лічыць формай махлярства, якое мяжуе з правакацыяй. Нагадваем, што «Белы Легіён» ужо працяглы час як спыніў існаванне, а колішнія яго ўдзельнікі не мелі і не маюць намеру аднаўляць падобныя структуры.

Мы, фігуранты «Справы патрыётаў»,

- падкрэсліваючы сваю невінаватасць перад законам,
- адзначаючы палітычную матываванасць узнікнення такой справы,
- маючы падставы для сумнеў у аб'ектыўнасці вядзення следства, і таму не ўяўляючы, як доўга нашы асабістыя лёсы і лёсы нашых сем'яў будуць выкарыстоўваць у палітычнай гульні,

сцвярджаем наступнае:

Нягледзячы ні на што, кожны з нас будзе працягваць справу нашага жыцця — служэнне Радзіме праз развіццё беларускай культуры, пашырэнне беларускай мовы, умацаванне нацыянальнай ідэнтычнасці, адстойванне нацыянальных інтарэсаў усімі законнымі спосабамі дзеля ўмацавання і абароны канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь.

*Фігуранты «Справы патрыётаў»: Абрамаў Аляксей, Бяляўскі Андрэй, Данілаў Віктар, Дундукоў Андрэй, Зімніцкі Аляксандр, Кавальчук Іван, Комлік-Ямацін Андрэй, Лазоўскі Міраслаў, Мароз Віктар, Новік Дзмітрый, Пашкевіч Цімур, Румянцаў Уладзімір, Стрыбульскі Сяргей, Юдаха Алесь, Фёдараў Уладзімір*

**26.09.2017 г.»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Эканоміку выратуе палітыка?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нас працягваюць радаваць лічбамі. Дабрабыт беларусаў расце, сярэдні заробак «брунднымі» за традыцыйна «дэпрэсіўны» жнівень, у якім шмат народу знаходзілася на вакацыях, склаў 844,4 рубля (каля 435 долараў), паведамляе Белстат.**



Фота www.cyplive.com

У параўнанні з ліпенем заробак вырас на 16,9 рубля, у доларавым эквіваленце ў ліпені ён складаў $423, падкрэсліваe ведамства. Нібыта, канешне, добра, але што такое сярэдні заробак? Як сярэдняя тэмпература па бальніцы…

Зразумела, такі рост у жніўні нечым абумоўлены. У нашым выпадку ён абумоўлены «бітвай за ўраджай». Менавіта падчас яе лепшыя заробкі атрымліваюць механізатары, трактарысты і камбайнёры. Але, зарабіўшы «ў сезон» па тры-чатыры сваіх звычайных аклады, у кастрычніку і лістападзе яны зноў падсядуць на звыклыя 200 рублёў. Хіба гэта можа радаваць?

І, да таго ж, трэба глядзець, у каго гэты заробак павысіўся. А тут статыстыка зусім не суцяшае.

За паўгода ў Беларусі звольнілі амаль 100 тысяч работнікаў. У студзені-жніўні прадпрыемствы больш звальнялі, чым прымалі на працу новых супрацоўнікаў. Па дадзеных таго ж Белстата, з пачатку года звольнілі 94,4 тысячы работнікаў, у той час як прынялі на працу на 7,6 тысячы менш. Больш за ўсё ў працэнтных адносінах звальнялі ў арганізацыях, якія аказваюць паслугі па часовым пражыванні і харчаванні (-27,3%), а таксама ў адукацыі (-24,6%) і горназдабываючай прамысловасці (-23,3%).

Асабліва непакоіць тут адукацыя і горназдабываючая прамысловасць (чытай, «Беларуськалій»). Праблемы ў апошняга са скарачэннем працоўных месцаў азначаюць, што адна з асноўных крыніц валюты пачынае адчуваць нейкія складанасці. А ад яе працы залежаць, найперш, нашы выплаты па знешніх пазыках. Усім вядома, што мы набралі процьму крэдытаў у каго толькі можна, а як іх аддаваць — незразумела. І, калі ў горназдабываючай прамысловасці будуць праблемы, гэта можа павярнуцца да нас якім-небудзь тэхнічным дэфолтам.

Праблема з кадрамі ў адукацыі яшчэ цікавейшая. Усе скардзяцца, што школам проста не хапае настаўнікаў, а дзіцячым садкам — выхавацеляў. І на гэтым фоне адукацыя з'яўляецца адным з лідараў па звальненні супрацоўнікаў. Як такое можа быць? Вельмі проста — звальняюць пенсіянераў, а новыя людзі настаўнічаць не прыходзяць. І нават не таму, што гэта не прэстыжна альбо кепска аплачваецца. Справа ў тым, што школа настолькі зарэгуляваная, а настаўнікі выконваюць столькі лішняй працы па запаўненні нікому не патрэбных папераў, што на само настаўніцтва часу не застаецца.

Што павінна насцярожыць яшчэ? Скарачаюцца ў нас не толькі «беларускія» працоўныя месцы. За год на трэціну скарацілася і колькасць замежных работнікаў. Калі ў 2015-м у нас працавалі 28,4 тысячы замежнікаў, то ў 2016-м — 17,8 тысячы.

Такі адток, канстатуе Белстат, адбыўся за кошт работнікаў з краін СНД: у 2015-м годзе іх у нас у краіне было 17 тысяч, а ў 2016-м засталося 7,6 тысячы. Больш за ўсё за год паменшала ўкраінцаў (-54,8%) і узбекаў (-64,1%).

Найбольш у Беларусі ў 2016-м працавала кітайцаў — 7,5 тысячы і ўкраінцаў — 6,3 тысячы. На трэцім месцы з вялікім адставаннем — 2,1 тысячы — ідуць расіяне.

Большая частка працоўных-імігрантаў — 55,6% — займаюць рабочыя спецыяльнасці. Да прыкладу, в'етнамцы часцей за ўсё ўладкоўваюцца ў Беларусі на прадпрыемствы ў сферы абслугоўвання і гандлю, таджыкі, узбекі і ўкраінцы ідуць рабочымі, а палякі — кваліфікаванымі спецыялістамі.

Падавалася б, добра: чым менш у нас працуе замежнікаў, тым больш працоўных месцаў застанецца для карэннага насельніцтва (звыклая рыторыка розных ультраправых на Захадзе). Але, калі зірнуць глыбей, гэта не можа нас не турбаваць.

Калі ўкраінцы, якія беглі ў Сінявокую ад вайны, вяртаюцца дадому — гэта азначае, што ў ваюючай Украіне заробкі лепшыя, а тавары таннейшыя, чым на «выспе стабільнасці». У нас няма ваяўнічых скінхэдаў, і збольшага народ ставіцца да людзей іншай нацыянальнасці і колеру скуры памяркоўна. Калі нас пакідаюць узбекі, гэта выключна эканоміка. І азначае гэтая эканоміка, што ў нас сітуацыя горшая, чым у іх родным Узбекістане.

Калі задумацца, то рост сярэдняга заробку аж на сем долараў — паказчык маласуцяшальны.

Сапраўдная квінтэсенцыяй «развіцця беларускай эканамічнай мадэлі» з'яўляецца банкруцтва Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода, якое было юрыдычна афармлена на тыдні.

У ходзе судовага пасяджэння была выяўлена наяўнасць у прадпрыемства не выкананых фінансавых абавязацельстваў у суме 68 мільёнаў 280 тысяч дэнамінаваных рублёў, што складае 83% кошту актываў прадпрыемства. За першае паўгоддзе 2017 года чыстыя страты завода склалі звыш 850 тысяч рублёў. Прадпрыемства з'яўляецца ўстойліва неплацежаздольным, таму і падало на банкруцтва.

Ведаеце, у краіне, якая стала змагаецца за першае месца па спажыванні алкаголю ў свеце, збанкрутаваць лікёра-гарэлачнаму прадпрыемству — гэта трэба ўмець. Да таго ж не абыякому прадпрыемству, а з даволі вядомым брэндам, з устойлівым паняццем якасці прадукцыі і якое ўваходзіць у склад найбуйнейшага алкагольнага холдынгу «Мінск Крышталь Груп». І ў той жа час завод, атрымліваючы чыстыя страты, з'яўляецца другім па велічыні падаткаплатнікам у Магілёўскай вобласці!

Як можа збанкрутаваць другі па велічыні падаткаплатнік у цэлай вобласці — гэта, шчыра скажу, для мяне ўвогуле загадка.

Але ў нас ёсць шанец усё выправіць. У беларускім Цэнтрвыбаркаме, паведамляе БелТА, адбылася нарада з работнікамі ўпраўленняў арганізацыйна-кадравай работы аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама, падчас якой былі разгледжаны некаторыя аспекты падрыхтоўкі выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў 28-га склікання.

Нагадаем, што бліжэйшыя выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў павінны адбыцца ў Беларусі не пазней за 20 лютага 2018 года. Цэнтрвыбаркам прапанаваў правесці іх 18 лютага.

Зазвычай аснову выбарчых камісій складаюць настаўнікі — значыць, іх колькасць павінна павялічыцца. А ў час галасавання і пасля яго на выбарчых участках адбываюцца банкеты. Можа, такім чынам мы выратуем Клімавіцкі завод?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Вольга Нікалайчык



**Рэжысёрка і грамадская актывістка, вядомая сваімі перформансамі на акцыях пратэсту, вырашыла з'ехаць з краіны. Пакуль часова.**

За ўдзел у шматлікіх акцыях Вользе Нікалайчык рэгулярна налічваюць штрафы, якія яна аплаціць не ў стане. Зараз, па яе словах, яна павінна заплаціць каля 7500 долараў. У той жа час судовыя выканаўцы наклалі арышт і на дом актывісткі.

Як паведаміла Нікалайчык, зараз яна гэты дом прадае. «Дом і так збіралася прадаваць, бо там патрабуецца сур'ёзны рамонт, і гэтую зіму мы з мамай ужо не перажылі б. А на рамонт фінансаў, натуральна, няма. Таму жыллё ў цэнтры сталіцы прададзім і купім нешта больш таннае за горадам па лініі, дзе ходзяць электрацягнікі. Думаю, застанецца грошай, каб яшчэ і штрафы аплаціць. А я вырашыла, што еду ва Украіну на працу», — паведаміла Нікалайчык.

Але назаўсёды пакідаць Беларусь яна не збіраецца, і кажа, што з'язджае не ў эміграцыю, а на заробкі. «Проста ў Кіеве працаваць больш свабодна, там цікавейшае жыццё. Буду спакойна пісаць сцэнары і ведаць, што сёння ці заўтра да мяне ў кватэру не пагрукаюць, не арыштуюць, не забяруць кампутар. Судовыя приставы, дарэчы, ведаюць, што я збіраюся з'язджаць, але перашкод на выезд з нагоды запазычанасцяў чыніць не будуць. Калі я прадам дом, вымушана буду аддаць грошы за штрафы, бо без гэтага не будзе зняты арышт на продаж. Таму прадам дом і разлічуся», — сказала Нікалайчык.

Пры гэтым яна абяцае «рэгулярна прыязджаць у Мінск, калі тут будуць праходзіць нейкія значныя палітычныя падзеі».

## Мікалай Статкевіч



**Экс-кандыдату ў прэзідэнты, ініцыятару акцый пратэсту, які зараз адбывае адміністрацыйны арышт у мінскім спецпрыёмніку-размеркавальніку, «накінулі» яшчэ пяць сутак арышту.**

Нагадаем, што на 15 сутак Статкевіч быў асуджаны за акцыю 3 ліпеня, у афіцыйны Дзень незалежнасці. Затрыманы ён быў 22 верасня. А 26 верасня суд Ленінскага раёна Мінска ў адсутнасць Статкевіча (яго на суд нават не прывезлі) прысудзіў палітыку яшчэ 5 сутак арышту за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі 8 верасня на Кастрычніцкай плошчы Мінска.

Акцыя 8 верасня праводзілася ў знак пратэсту супраць беларуска-расійскіх ваенных вучэнняў «Захад–2017» і была прымеркавана да неафіцыйнага Дня беларускай вайсковай славы.

Падчас самой акцыі ніхто з яе ўдзельнікаў затрыманы не быў. Аднак за ўдзел у ёй пазней былі асуджаныя апазіцыйны палітык Уладзімір Някляеў і магілёўскі актывіст Станіслаў Паўлінковіч. Някляеў правёў сямісуткавы арышт у Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў, адкуль вызваліўся 22 верасня, Паўлінковіча пакаралі штрафам у 460 рублёў.

Вядома, што пратаколы за ўдзел у акцыі 8 верасня таксама складзеныя на Вячаслава Сіўчыка, Яўгена Афнагеля, Алеся Макава, Паўла Севярынца, Алену Талстую і Ніну Багінскую.

## Аляксандр Глеб



**Вядомы беларускі футбаліст, паўабаронца, які ўзняў скандал з нагоды таго, што яму не далі «прыгожа завяршыць сваю кар'еру», насамрэч, яшчэ думае, ці завяршаць яе ўвогуле.**

У 36-гадовага беларускага футбаліста няма клуба з вясны, калі ён пайшоў з самарскіх «Крылаў Саветаў». Журналіст тэлеканала СТВ пацікавіўся, ці праўдзівыя чуткі, што Глеб можа перайсці ў адэскі «Чарнаморац». «Я цяпер у сям'і, — адказаў Глеб. — Займаюся. У бліжэйшы час вызначуся. Буду раіцца з жонкай, як для дзіцяці лепш. Таму будзе сямейнае рашэнне».

Глеб абяцаў да 1 кастрычніка абвясціць, закончыць ён кар'еру або працягне яе.

Нагадаем, што нядаўна Глеб спрабаваў уладкавацца ў БАТЭ, хацеў згуляць у Лізе Еўропы ў матчы БАТЭ з «Арсеналам», «нават бясплатна», каб у гэтым матчы «прыгожа завяршыць сваю кар'еру», але атрымаў адмову. Клуб вырашыў, што ў паслугах Глеба патрэбы не мае.

# Чаму ў заняпадзе партыйная сістэма Беларусі

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

**Праз паўгода, то бок дзесьці ў студзені-лютым 2018 года, у Беларусі павінны адбыцца выбары ў мясцовыя Саветы. Ва ўсім свеце менавіта партыі з'яўляюцца галоўнымі суб'ектамі палітыкі, асноўнымі ўдзельнікамі выбарчых кампаній. І толькі ў нас усё інакш.**

ПАРТЫЯ БНФ

АФІЦЫЙНА ЗАЯЎЛЯЕМ ГРАМАДА




КХП БНФ

СПРАВЕДЛИВЫЙ МИР

ОБЪЕДИНЕННАЯ ГРАЖДАНСКАЯ ПАРТИЯ

## Крыху гісторыі

Але так было не заўсёды. За чвэрць стагоддзя незалежнага існавання партыйная сістэма Беларусі прайшла пэўную эвалюцыю. Фармаванне партыйнай сістэмы ў краіне можна падзяліць на некалькі перыядаў.

**1990–1991 гады** — першыя партыі ствараліся ва ўмовах існавання камуністычнага рэжыму. Іх асаблівасцю было тое, што гэта былі партыі ідэі — г.зн. аб'ядноўвалі прыхільнікаў пэўнай ідэалогіі. За імі яшчэ не стаялі ў поўным сэнсе слова канкрэтныя сацыяльныя слаі, інтарэсы якіх яны адлюстроўвалі б, паколькі сацыяльныя інтарэсы яшчэ не сфармаваліся. Так паўсталі партыі ідэі нацыянальнай (БНФ), ліберальнай (Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі), хрысціянскай (Беларускі хрысціянска-дэмакратычны саюз), сацыял-дэмакратычнай (Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада), камуністычнай (Партыя камуністаў Беларусі).

**1992–1993 гады** — з пачаткам руху да рынку з'явіліся першыя прыкметы расслаення грамадства, вычляненне сацыяльных груп са сваімі спецыфічнымі інтарэсамі. З іншага боку, пасля краху камуністычнага рэжыму за стварэнне партый узяліся прадстаўнікі дзяржаўнай і гаспадарчай наменклатуры. З прычыны гэтага пачалі ўзнікаць арганізацыі, якія ўмоўна можна назваць партыі-лобі. Гэта партыі прагматыкаў, што ставілі канкрэтныя мэты і задачы, для якіх ідэалогія насіла другаснае значэнне. Так паўсталі Партыя народнай згоды, якая аб'яднала рэфармацкую частку дзяржапарату, Аб'яднаная аграрна-дэмакратычная партыя (пазней перайменаваная ў Аграрную партыю), створаная старшынямі калгасаў і дырэктарамі саўгасаў, Беларускі навукова-вытворчы кангрэс, які аб'яднаў дырэктараў прамысловых прадпрыемстваў і інш.

**1994–1995 гады** — прэзідэнцкія і парламенцкія выбары стымулявалі бурны працэс стварэння партый. Іх колькасць хутка павялічвалася. У травеньскіх выбарах 1995 года ў Вярхоўны Савет бралі ўдзел 29 палітычных партый, а ў лістападаўскіх-снежаньскіх — ужо 34. Іх прадстаўнікі склалі 65% кандыдатаў у дэпутаты і крыху больш за 50% дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Дзейнічалі тры экалагічныя партыі, тры хрысціянскія, тры рэспубліканскія, дзве нацыянальныя, дзве спартыўныя. Гэты перыяд быў кульмінацыяй у развіцці беларускай шматпартыйнасці. У краіне пачала складвацца партыйная сістэма, якая нагадвала еўрапейскія мадэлі.

**З лістапада 1996-га па цяперашні час**. Пасля сумна знакамітага рэферэндуму, змянаў у Канстытуцыі і палітычнай сістэме, у краіне стварыўся жорсткі аўтарытарны рэжым. У выніку гэтага ўмовы для дзейнасці партый рэзка пагоршыліся. Згодна з судовымі рашэннямі, звыш дзесяці партый былі ліквідаваныя па прычыне адсутнасці прыкмет іх існавання. Іншыя не прайшлі перарэгістрацыю пасля прыняцця новага закона аб партыях і грамадскіх аб'яднаннях у 1999 годзе.

## Рэйтынг ніжэй за калена

Афіцыйна сёння дзейнічаюць 15 партый. У рэальнасці ж функцыянуюць — г.зн. маюць працуючыя структуры на месцах і ўдзельнічаюць у палітычнай барацьбе — не больш за палову з іх. Ужо 17 гадоў новыя партыі ў Беларусі не рэгіструюцца Міністэрствам юстыцыі. Відавочна, такая палітычная ўстаноўка існуе ад кіраўніка Беларусі.

Уплыў палітычных партый на цяперашняе грамадскае жыццё Беларусі нязначны. Іх рэйтынг у Беларусі сёння — «ніжэй за калена». Нават менш, чым у міліцыі.

А. Лукашэнка падчас выступу на 5-м Усебеларускім народным сходзе заявіў: «Партыі ў нас не сфармаваныя — трэба абапірацца на тое, што ёсць. На маладзёжныя, ветэранскія арганізацыі, на саюз жанчын, на нашы прафсаюзы. Трэба іх выкарыстоўваць для таго, каб вырашаць тыя праблемы, якія вырашала калісьці камуністычная партыя. Пакуль не сфармаваўся «партыйны рынак» — трэба партыі замяніць дзеючымі арганізацыямі, якія выступаюць за суверэнітэт і развіццё нашай краіны».

Кіраўнік дзяржавы выклаў досыць распаўсюджаны пункт гледжання. Партыі не лае сёння хіба што лянівы. Дзяржаўныя і недзяржаўныя СМІ абвінавачваюць партыі і іх лідараў ва ўсіх смяротных грахах. Яны, маўляў, адарваліся ад народа, не хочуць ісці да людзей, варацца ва ўласным соку і інш.

Галоўны лейтматыў гэтай антыпартыйнай прапаганды складаецца ў тым, што ў сваім цяперашнім гаротным становішчы вінаватыя самі партыі, прычыны іх слабасці тлумачацца галоўным чынам уласнымі пралікамі ў дзейнасці. І калі б яны паводзілі сябе па-іншаму, не ленаваліся б ісці «ў народ», то і іх роля ў грамадстве адразу ж узрасла б. Гэтыя міфы носяць устойлівы характар, іх з дня на дзень распаўсюджваюць праз СМІ лідары грамадскай думкі.

## Справа не ў партыях

На самай справе, фундаментальныя прычыны слабасці палітычных партый Беларусі палягаюць зусім у іншым. У краіне адсутнічаюць умовы, неабходныя для функцыянавання партый. Інакш кажучы, цяперашняя слабасць партый — вельмі важная прыкмета, якая сапраўды адлюстроўвае сутнасць палітычнай сістэмы.

Беларусь уяўляе сабой нерэфармаванае посттаталітарнае грамадства. Яго самаарганізацыя знаходзіцца ў зачаткавым стане. Элементы грамадскага самакіравання толькі зараджаюцца ва ўмовах моцнага праціздзеяння з боку дзяржавы. У краіне адсутнічае паўнавартасная сацыяльная база для фармавання партый і груп інтарэсаў. У грамадстве, дзе каля 70% уласнасці належыць дзяржаве, насельніцтва не структураванае і, значыць, не дыферэнцыраванае ў сацыяльна-палітычным плане. Сацыяльныя пласты і групы са сваімі спецыфічнымі інтарэсамі толькі пачынаюць складвацца. Большасць насельніцтва не ўсвядоміла сваіх інтарэсаў і кіруецца пераважна палітычнымі інстынктамі і ідэалагічнымі прыхільнасцямі.

Другой прычынай слабасці партый з'яўляецца адсутнасць у Беларусі публічнай палітыкі, г.зн. барацьбы розных грамадскіх сіл за ўплыў на прыняцце палітычных рашэнняў. У краіне адсутнічае механізм рэальнай палітычнай канкурэнцыі. Калі звярнуцца да гісторыі, то ўзнікненне палітычных партый было абумоўлена з'яўленнем двух грамадскіх інстытутаў: парламенту і выбараў. Толькі ў рамках існавання прадстаўнічых органаў улады і дэмакратычных выбараў партыі могуць нармальна функцыянаваць і выконваць адведзеную ім ролю ў грамадстве. Пры адсутнасці гэтых умоў партыі перастаюць выконваць ролю інструмента палітычнага прадстаўніцтва і ўплыву на прыняцце ўладных рашэнняў, аказваюцца на перыферыі грамадскага жыцця, ператвараюцца ў маргінальныя структуры. Менавіта ў такім становішчы апынуліся беларускія партыі, паколькі ў нас няма ні рэальных прадстаўнічых інстытутаў, ні выбараў. Ёсць толькі іх сурагаты.

Дзяржава актыўна супрацьдзейнічае развіццю партыйнай сістэмы і грамадзянскай супольнасці. Неабходна падкрэсліць, што беларускія ўлады ўпарта супраціўляюцца ўвядзенню прапарцыйнай выбарчай сістэмы, у рамках якой галасаванне адбываецца за партыйныя спісы. Такая сістэма дзейнічае ва ўсіх суседніх краінах. У выніку там роля палітычных партый рэзка ўзрасла. Менавіта гэтага і не жадае наша палітычнае кіраўніцтва. Улады штучна ствараюць усялякія перашкоды для дзейнасці партый.

## Не партыі, а клубы

У выніку ўсе партыі выштурхнутыя з легальнай палітычнай барацьбы і ператварыліся ў палітычныя клубы. Прычым, у такім становішчы апынуліся як апазіцыйныя партыі, так і праўладныя. (Вельмі знамянальна, што цяпер у Палацы прадстаўнікоў наогул няма фракцый ні партыйных, ні пазапартыйных.) Улады заблакавалі асноўныя каналы камунікацыі паміж партыйнымі арганізацыямі і насельніцтвам. Апазіцыйныя структуры загнаныя ў гета, у якіх яны вымушаныя варыцца ва ўласным соку. Таму, хутчэй, трэба здзіўляцца, што партыі ўсё яшчэ існуюць. Бо ў створанай у краіне палітычнай сістэме яны даўно сталі лішнім звяном.

У ходзе выбарчых кампаній палітычныя партыі выцясняюцца на іх узбочыну. Асноўным суб'ектам палітыкі ў нас застаюцца арганізацыі, створаныя ўладамі (пра што казаў А. Лукашэнка на Усебеларускім народным сходзе), неарганізаваныя групы грамадзян (збор подпісаў) і ў замаскіраваным выглядзе працоўныя калектывы, якія жорстка кіруюцца ўладнай вертыкаллю.

Лідары партый кажуць, што яны выкарыстоўваюць выбары для пашырэння колькасці прыхільнікаў, прапаганды сваёй праграмы. Аднак за многія гады прыхільнікаў і папулярнасці ў іх не дадалося. Сэнс удзелу партый у выбарчых кампаніях складаецца ў самавыхаванні, трэнінгу, дэманстрацыі выбаршчыкам сваёй прысутнасці ў палітычнай прасторы. Бо калі вы не бераце ўдзелу ў выбарах, то вас папросту няма. Напрыклад, ёсць такая партыя КХП-БНФ імя Зянона Пазьняка. Яна байкатуе ўсе выбары. У выніку гэтая палітычная партыя ператварылася ў грамадскую арганізацыю па захаванні і ўшанаванні Курапат. Важная місія, але гэта не функцыя палітычнай партыі.

Таму без трансфармацыі існуючай палітычнай сістэмы цяперашняе маргінальнае становішча партый у грамадстве змяніць немагчыма. Толькі аднаўленне ўмоў для публічнай палітыкі, аднаўленне паўнавартаснага парламента і дэмакратычных выбараў можа вярнуць партыі ў сістэмную палітыку. А ўмацаванне партый, аднаўленне іх дзеяздольнасці стане важным фактарам дэмакратызацыі грамадства і дзяржавы.




**Львіная доля «разборак» наконт «дармаедскага падатку» павінна праходзіць на ўзроўні мясцовых уладаў. І «мясцовыя» павінны самі вызначаць, хто ў іх дармаед, а хто не, каго, па словах Лукашэнкі, «трэба за руку прывесці на працу, а каго проста нахіліць». Менавіта таму барацьба супраць адыёзнага дакумента можа стаць «фішкай» мясцовых выбараў**

# Дэкрэт №3: не ў час

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Усе «дармаеды», журналісты, праваабаронцы і іншыя зацікаўленыя асобы застылі ў чаканні. Яны прагнуць пабачыць абноўлены дэкрэт №3 пра дармаедаў, тэкст якога павінен быў быць дапрацаваны да 1 кастрычніка — дэдлайну, прызначанага Аляксандрам Рыгоравічам для падрыхтоўкі гэтага дакумента.**

Пераказваць гісторыю скандальнага акту, напэўна, няма патрэбы. Задуманы, як сродак кампенсацыі непрацуючымі грамадзянамі выдаткаў на сацыяльныя гарантыі, ён змяніў шмат канцэпцый. Ад «кампенсацыі шкоды» да спробаў «легальнага працаўладкавання», ад «выхаду непрацуючых з ценю» да «заахвочвання да працы», ад агульнарэспубліканскага дакумента да надання мясцовым уладам магчымасці самім вырашаць, дзе дэкрэт працуе, а дзе не. І нават ад спробаў вытрасці грошы з насельніцтва да адваротнага эфекту — высвятлення тых, каму патрэбная дзяржаўная дапамога. Неаднаразова было, што людзі, якія ішлі ў мясцовыя выканкамы за палёгкай у сплаце падатку, раптам высвятлялі, што дзяржава, наадварот, павінна аказваць ім дапамогу ў «складанай жыццёвай сітуацыі».

Але ўсім «пачакунам» давядзіцца расчараваецца. Пра спрэчны дэкрэт размова будзе цягнуцца яшчэ доўга, ён будзе заставацца «пудзілам», якое трымае ў напружанні грамадства. Але рэальнае дзеянне ён набудзе не хутка. А можа, і не набудзе ўвогуле. Прынамсі, не зараз.

## Нічога апроч шкоды

Можна шмат казаць пра заганы дэкрэту №3, недапрацоўкі, нявызначанасць статусу «дармаеда» і гэтак далей. Але апроч таго, што ён не патрэбны ўвогуле, ён папросту па часавым паказчыку разбегся з асноўнымі фінансавымі дакументамі краіны.

Асобныя беларускія дэпутаты пра тое, што бюджэт–2018 будзе «збалансаваным, накіраваным на развіццё эканомікі, павышэнне інвестыцыйнай і інавацыйнай дзейнасці, на выкананне асноўных абавязацельстваў» і гэтак далей, казалі ўжо ў маі гэтага года. То бок, праца над бюджэтам вялася ўжо тады, калі спрэчкі пра трэці дэкрэт яшчэ былі ў самым разгары, а Мінфін разам з падатковай вырашалі, што рабіць з ужо сплачанымі грашыма «дармаедскага падатку». У выніку грошы вырашылі вярнуць, але не ў тым справа.

Сёння асноўны фінансавы дакумент краіны ўжо сфармаваны, і дэпутаты павінны прыняць яго на восеньскай сесіі, якая пачнецца 2 кастрычніка. Канешне, нельга казаць, што народныя абраннікі прымуць бюджэт на наступны перыяд імгненна, у першы ж дзень пасяджэння. Але, тым не менш, гэта азначае, што ў бюджэт наўрад ці закладзеныя зборы дакумента, толькі праект якога павінен з'явіцца за дзень да адкрыцця сесіі. А праект трэба яшчэ абмеркаваць, прыняць, падпісаць...

Больш за тое, 16 жніўня, разважаючы наконт бюджэту на пасяджэнні Саўміна, прэм'ер Андрэй Кабякоў зазначыў: у частцы падатковай палітыкі прапануецца не мяняць склад і колькасць падатковых плацяжоў. Паводле яго слоў, падатковая нагрузка на эканоміку не павінна расці.

То бок, калі ў абноўленым дэкрэце №3 лайдакоў і ўтрыманцаў зноў абавяжуць плаціць падатак — як гэтыя грошы патрапяць у бюджэт? Карацей, увод у дзеянне абноўленага дэкрэту №3 — зноў галаўны боль, перш за ўсё, для ўлады: падатковых, Мінфіна, дэпутатаў, урада, і ўсіх, хто паўгода карпеў над бюджэтам Беларусі–2018. З-за аднаго дэкрэту давядзецца выкідаць у сметніцу ўсю працу?

## Несупадзенне жаданага з сапраўдным

На карысць далейшай «замарозкі» дэкрэту сведчаць яшчэ некалькі аргументаў.

Аляксандр Лукашэнка 3 жніўня канстатаваў, што «ўжо завершана падрыхтоўка новай рэдакцыі дэкрэта №3», але ў той жа час ён бы хацеў «грунтоўны даклад на гэтую тэму». «Я спадзяюся, што апроч урада гэтым пытаннем сур'ёзна зоймуцца дэпутаты. Гэта іх хлеб. Ухіляцца ад гэтай праблемы дэпутату нельга», — дадаў тады кіраўнік краіны.

Прызначаючы новых кіраўнікоў мясцовай вертыкалі, 14 верасня Лукашэнка зноў вярнуўся да тэмы. Ён падкрэсліў, што дэкрэт №3 ніхто не адмяняў, і патлумачыў новым вертыкальшчыкам: «Гэта будзе ваш дакумент. Вы на месцы павінны вызначаць, хто ў вас не працуе, а павінен працаваць, і прымусіць іх усіх працаваць. У гэтым будзе асноўная сутнасць дакумента. Не з Мінска трэба кіраваць гэтымі працэсамі».

Што мы маем у выніку? Нейкая грунтоўная нарада альбо даклад па гэтым пытанні зробленыя не былі. Прынамсі, пра гэта не было нічога чуваць. Інакш кажучы, новая рэдакцыя дакумента нават прынцыпова не ўхвалена кіраўніком краіны.

Што ж тычыцца дэпутатаў, то ў плане іх працы на восеньскую сесію сапраўды прапісаны разгляд дэкрэту ад 29 чэрвеня 2017 года №3 «Аб змяненні дэкрэта». Аднак дакумент паступіў у Палату прадстаўнікоў 4 ліпеня 2017 года. І, нягледзячы на тое, што яго планавалася разгледзець аж у другім чытанні, яго «бягучая стадыя», як пазначана на сайце ППНС, — «падрыхтоўка да разгляду».

То бок, гэта зусім не той дакумент, які павінен быў быць распрацаваны да 1 кастрычніка.

## Цягнуць валынку

Апазіцыя распрацавала альтэрнатыву «дэкрэту №3». Асноўная тэза прапаноў — скасаваць дакумент увогуле. Дэпутатка Ганна Канапацкая падкрэслівала, што дэкрэт аб дармаедах не адпавядае беларускай Канстытуцыі і міжнародным нормам, а таксама не вырашае тых пытанняў, для якіх ён ствараўся. Больш за тое, нават такога паняцця, як «сацыяльны ўтрыманец», у беларускім заканадаўстве няма.

На замену яму, паводле меркавання распрацоўшчыкаў альтэрнатыўнай канцэпцыі, павінны прыйсці звышліберальныя (у эканамічным сэнсе слова) працэдуры, тры новыя рэжымы аказання сацыяльных, адукацыйных і медыцынскіх паслуг.

«Першы рэжым — адрасная сацыяльная падтрымка на падставе стану бягучых даходаў, а таксама назапашаных зберажэнняў, рэсурсаў і стану здароўя. Другі рэжым — фінансаванне пачатковай сярэдняй адукацыі з дапамогай адукацыйных ваўчараў, то бок рэалізацыя прынцыпу «бюджэтныя грошы ідуць за вучнем». Трэці рэжым — увядзенне інстытута індывідуальнага медыцынскага страхавання сродкам адкрыцця кожнаму грамадзяніну страхавога медыцынскага назапашвальнага рахунку», — распавядалі арганізатары на прэс-канферэнцыі па альтэрнатыве трэцяму дэкрэту.

Гэта якраз ёсць спроба зрабіць дэкрэт непатрэбным, бо знікае яго аргументацыя — што беспрацоўныя і іншыя лайдакі, не маючы на гэта падстаў, карыстаюцца «бясплатнай медыцынай і адукацыяй».

Гэтыя прапановы былі перададзеныя ў Адміністрацыю кіраўніка дзяржавы і іншыя органы, якія «дапрацоўваюць» дэкрэт №3. Паколькі прапановы былі перададзеныя 12 верасня, то яшчэ не скончыўся месячны тэрмін для адказу на іх. Адпаведна, як мінімум на 12 кастрычніка яны павінны разглядацца. Калі, канешне, сапраўды будуць разглядацца.

Безумоўна, народныя абраннікі наўрад ці прымуць гэтыя прапановы — яны занадта радыкальныя і патрабуюць шмат зменаў у іншых заканадаўчых актах. Але, дзякуючы той жа Канапацкай, на профільнай камісіі разглядацца яны павінны. Што яшчэ раз выкліча спрэчкі, прапановы, абмеркаванні... А значыць, уваход у дзеянне абноўленага дэкрэту №3, натуральна, зацягнецца.

## Сацыяльныя наступствы

Як вядома, «дармаедскі дэкрэт» быў асноўным рухавіком вулічных пратэстаў вясны гэтага года. На 21 кастрычніка ў Мінску запланаваная новая акцыя такога кшталту.

Аднак уладу, насамрэч, хваляваць павінна не вулічная актыўнасць. Адначасна з абмеркаваннем абноўленага дэкрэту №3 пачнецца кампанія па выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь дваццаць восьмага склікання. Гэтыя выбары павінны прайсці не пазней за 20 лютага 2018 года.

А зараз узгадаем словы Лукашэнкі пра тое, што львіная доля «разборак» наконт «дармаедскага падатку» павінна праходзіць на ўзроўні мясцовых уладаў. І «мясцовыя» павінны самі вызначаць, хто ў іх дармаед, а хто не, каго, па словах Аляксандра Рыгоравіча, «трэба за руку прывесці на працу, каго перапрафіляваць, навучыць новым спецыяльнасцям, а каго проста нахіліць». Менавіта таму, паводле меркавання палітолагаў і аналітыкаў, барацьба супраць адыёзнага дакумента можа стаць «фішкай» мясцовых выбараў.

Скарыстаць гэтую «фішку» можа не толькі «тытульная апазіцыя». Вясновыя пратэсты вывелі на паверхню шмат мясцовых лідараў, відэаблогераў, актывістаў, прафсаюзных дзеячаў, фармальна сувязямі з «пятай калонай», як любіць называць яе Лукашэнка, не звязаных. І вось тут ужо ўладзе не пазайздросціш.

Карацей, зараз папросту не час аднаўляць дзеянне «дармаедскага дэкрэту».

29 верасня 2017 | № 36 (550) Новы Час

# Міраслаў Лазоўскі: «Мова — гэта не стары бабульчын збанок»

« Працяг.
Пачатак на стар. 1

Вось вам прыклад Каталоніі: за часамі Франка каталонская мова была цалкам пазбаўленая афіцыйнага ўжытку. Зараз амаль палова карыстаецца мовай каталуна, а рэшта ёсць яе прыхільнікамі. Рэнесанс мовы і слова магчымы.

Справа ў тым, што людзі карыстаюцца тым, што зручней. І калі з боку дзяржавы будзе палітыка не гвалтоўнага навязвання мовы, але здаровыя заходы на тое, каб зрабіць беларускую кнігу папулярнай, зручнай і моднай, сітуацыя зменіцца. Як мінімум, варта было б зменшыць падаткі кнігавыдаўцам, бо зараз яны нічым не розняцца ад падаткаў для рэшты бізнесу. Але беларускае кнігавыданне — гэта не бізнес, а гуманітарная місія. Добра было б, каб і дзяржава глядзела на гэта праз такую прызму: не як на чарговы бізнес, а як на працу па разбудове нацыі.

***— А што наконт вяртання мовы ў навучальныя ўстановы?***

— Натуральна, гэта таксама дапаможа кнізе выйсці з той сітуацыі, у якой яна знаходзіцца. Тут адно цягне другое: чым больш чытаюць, тым большыя наклады, тым больш дынамікі, тым вышэй мастацкая якасць прадукту. Да таго часу, пакуль беларуская мова будзе ўспрымацца як стары бабульчын збанок, маўляў, не выкінем, бо шкада, але паставім у кут падалей, нічога не будзе. Бабульчын збанок не выкідаюць, але нікому ён рэальна не патрэбны.

Калі так ставіцца да мовы, так ставіцца да культуры, то чаму насельніцтва мае па-іншаму ставіцца да дзяржавы? Калі мова і культура не патрэбныя, дык можа і незалежная дзяржава таксама?

***— Калі сыходзіць з такой логікі, то і мова, і культура — гэта пытанні нацыянальнай бяспекі?***

— У прынцыпе, так. Канешне, ёсць прыклад Швейцарыі, дзе ажно чатыры дзяржаўныя мовы, але там і гісторыя, і сучаснасць іншыя. Такі прыклад шматмоўнай краіны ў нас не спрацуе. Там сам генезіс дзяржавы быў цалкам іншы. У нашым рэгіёне мова — гэта нацыянальная, а затым і дзяржаўная ідэнтыфікацыя кожнай асобы.

## «Вайсковая гісторыя мужчынам падабаецца больш за ўсё»

***— Вы не толькі распаўсюджваеце кнігі, але і прымаеце ўдзел у іх стварэнні. Наколькі ведаю, так было з серыяй «Беларусь у войнах». Чаму такая тэматыка, а не вершы-казкі-раманы?..***

— Вайсковай гісторыяй я пачаў цікавіцца яшчэ ў дашкольныя часы. Не будучы першакласнікам, я ўжо меў «Кнігу будучых камандзіраў» і прымушаў бацькоў мне яе чытаць. Гэта была мая любімая кніжка. Таксама ў дзіцячай энцыклапедыі быў восьмы гістарычны том, дык я яго ледзьве не на памяць ведаў: калі цётка прыходзіла ў госці, яна была абкладзеная «падаткам» — пасядзець ды пачытаць мне ўслых пару гадзін (смяецца). Таму — гэта цікавасць праз усё жыццё.



Папяровая армія дакладна прамаляваных салдацікаў часоў Антычнасці, што рабілі Міраслаў Лазоўскі і яго сябры ў дзяцінстве



Міраслаў і Святлана Лазоўскія падчас вяселля

Калі пра «Беларусь у войнах», то першая кніга, якую мы выдалі, была працай Мікалая Плавінскага пра ўзбраенне нашых земляў у IX–XIII стагоддзях. Далей пайшло ў свет даследаванне Зміцера Мацвейчыка пра баявыя дзеянні ў 1863 годзе, пасля — бітва на Нямізе... Зараз рыхтуем працу па бітве пры Кірхгольме, а паралельна — выданне пра атрады лісоўчыкаў, што дзейнічалі ў Маскоўіі падчас рускай Смуты.

***— Я разумею, што кніжная серыя ідзе паралельна з «Цэхам жывой гісторыі», дзе ладзяцца лекцыі, то бок гэта агульны праект па папулярызацыі менавіта вайсковай мінуўшчыны Беларусі?***

— Так. І я лічу, што цікавасць ёсць. Калі казаць пра «Цэх», дзе пасяджэнні адбываюцца ў досыць вялікім памяшканні, то вольныя месцы ёсць, але зусім няшмат. Пры гэтым, аб'ектыўна вайсковая гісторыя мужчынскай частцы насельніцтва падабаецца больш за ўсё. Складана ўявіць сабе, скажам, семінар па старажытнай кераміцы, дзе б сабралася столькі хлопцаў.

Такая цікавасць была і будзе заўсёды, адно, што ў нас не хапае беларускіх акцэнтаў. Напрыклад, я разумею, што Суворaў — таленавіты генерал, але ў нас ёсць не менш значныя постаці. Пры гэтым Суворaў у нас на кожным кроку, нават на пакунках з кашай у краме, не кажучы пра вуліцы і вядомую вучэльню. А вайскоўцы, якія ваявалі за нашу старажытную дзяржаву, чамусьці не папулярызуюцца, іх слаба ведаюць.

Добра, што сітуацыя хаця б пакрысе змяняецца: ставяцца помнікі і нашым ваяводам, арганізуюцца рыцарскія фэсты, на дзяржаўных каналах з'яўляюцца адмысловыя гістарычныя стужкі. Так, гэта робіцца павольна: павольней, чым мне б хацелася. Але і свой сціплы ўнёсак у гэтую справу я па магчымасці раблю.

***— У вас ёсць улюбёныя персанажы з айчыннай вайсковай гісторыі?***

— Магу ўзгадаць Януша Радзівіла, які ў жахліва неспрыяльных умовах пачатку 13-гадовай вайны правёў кампанію 1654 года, звязаную з адступленнем. У гэтай сітуацыі ён паказаў сябе надзвычай годна, бо перавага ворага была ў 3–4 разы. А ён змог адступіць, захаваўшы ядро войска.

Гэты персанаж імпануе мне асабіста яшчэ і тым, што ён быў патрыётам Вялікага Княства Літоўскага: у войнах Януш дбаў менавіта пра інтарэсы нашай дзяржавы і гэтай тэрыторыі. Не дарма ў польскай гістарыяграфіі часоў класіцызму ён зарабіў мянушку «Януш-здрайца». Чаму? Бо яго не цікавілі інтарэсы Польшчы, ён заўсёды рабіў так, як будзе лепей для ВКЛ. Калі б я быў палякам, я б таксама на яго крыўдзіўся, але я не паляк, таму Януш мне падабаецца.

## «Я не апантаны калекцыянер, а рэліквіі маюць быць у музеях»

***— Ваш любімы перыяд, як я разумею, усё ж такі часы Напалеона, чаму?***

— Гэтым перыядам я зацікавіўся яшчэ ў дзяцінстве. Магчыма, таму, што салдацікі былі аж занадта прыгожымі. Усе гэтыя гусары, уланы, кірасіры, грэнадзёры, султаны, ківера... прыгажосць і рамантыка! Гэта вам не перапэцканыя брудам хлопцы ў хакі (смяецца).

Тады яшчэ, у савецкія часы, я са здзіўленнем даведаўся, што войска ВКЛ удзельнічала ў напалеонаўскіх войнах як у 1812 годзе, так і пазней. То бок уся напалеонаўская эпапея мае да нас наўпроставае дачыненне.

***— Здаецца, зараз вы дапамагаеце ў аднаўленні гэтай памяці, прынамсі на музейным узроўні?***

— Так, у свой час да мяне дайшла інфармацыя пра знойдзеную накладку, якая мацавалася да бляхі рэменя, з выявай «Пагоні». Побач былі знойдзеныя пашкоджаны ківерны ромб і гузікі ад французскага мундзіра.

Я не з'яўляюся апантаным калекцыянерам. Мне, канешне, прыемна мець такую рэліквію, але больш карысці яна прынясе, калі зойме пачэснае месца ў экспазіцыі Нацыянальнага гістарычнага музея: неўзабаве планую перадаць туды гэты артэфакт. Калі паманіторыць аўкцыёны, то падобных «Пагоняў» знойдзены ў нас не адзін дзясятак, але ўсе яны трапляюць у прыватныя калекцыі: у лепшым выпадку, у Беларусі, у горшым — іх вывозяць за мяжу.

***— А ў нашых музеях няма такіх рэліквіяў?***

— У калекцыі Нацыянальнага музея, як аказалася, такога матэрыялу няма. Нагадаю, да 30 000 беларусаў удзельнічалі ў той вайне на баку Напалеона, у складзе войска аднаўленага ўраду Літвы. Гэта фактычна апошняе войска Вялікага Княства. Сёння ёсць цэлыя мундзіры ўланаў ВКЛ у Коўні, Вільні, Варшаве, Маскве, але ў нашых музеях нічога пра гэта не нагадвае. Няма не тое, што экспанатаў, а нават стэндаў і копіяў.

Ёсць агульныя экспазіцыі па Вайне 1812 года, пра тое, як рускія біліся з французамі, а мы дзе? Беларусы ў гэтым кантэксце цалкам пазбаўленыя суб'ектнасці, маўляў, у нас зямля гаротная, спачатку адны вытапталі, пасля іншыя, а продкі нашы, нібыта, і не пры чым былі. Такі падыход мне не падабаецца.

Мяне таксама завочна пазнаёмілі з вядомым украінскім баталістам Анатолем Цяленікам. Па постсавецкай прасторы гэта адзін з найлепшых адмысловцаў. Мы дамовіліся, каб ён зрабіў якасныя рэканструкцыі мундзіраў нашых суайчыннікаў у складзе Войска Напалеона. Планавалася, што яны з'явяцца ў Нацыянальным музеі, калі там усё ж такі паўстане экспазіцыя, ці прынамсі стэнд, прысвечаны дадзенай тэме.

## «Дата шлюбу, пра якую нельга забыцца»

***— Пакінем гістарычную тэму ў баку. Наколькі вядома, вы нядаўна ажаніліся са Святланай...***

— Так, урэшце ажаніліся.

***— Я разумею, што гэта доўгая гісторыя?***

— Так, я даўно прапаноўваў (смяецца). Упершыню я прапанаваў шлюб недзе ў 2013-м, Святлана думала-думала, а пагадзілася ўжо толькі тады, калі я трапіў за краты. Больш за тое, яна пагадзілася на шлюб у СІЗА КДБ, але мой адвакат Ганна Бахціна была рашуча супраць, маўляў, не спяшайся, падумай пра дзяўчыну, у якой у пасведчанні аб шлюбе будзе напісана «СІЗА КДБ».

Так атрымалася, што дзякуючы шырокай хвалі падтрымкі ўсе мы выйшлі на волю, і тут я... скарыстаўся момантам, калі яна яшчэ не перадумала, а я ўжо на волі і магу дзейнічаць (смяецца). Пацягнуў яе ў ЗАГС, а там апынулася, што ёсць вольны дзень: 8 верасня (Дзень беларускай вайсковай славы. — рэд.). Усё склалася!

***— Дату самі выбіралі?***

— Нам прапанавалі некалькі вольных дзён, але, натуральна, мне найбольш спадабалася 8 верасня. Святлана слушна здагадалася, што зроблена гэта для таго, каб я ніколі не забыўся, у які дзень пабраўся шлюбам.

***— Ці плануеце «ваяваць» зараз на дэмаграфічным фронце?***

— Хацелася б паўдзельнічаць і ў выпраўленні дэмаграфічнай сітуацыі, канешне. Гэта ж таксама чыннік нацыянальнай бяспекі, праўда?

***— Здаецца, па выхадзе вы планавалі заняцца рамонтам, з'ездзіць у адпачынак. Ці здзейсніліся гэтыя планы?***

— Разумееце, ламаць хату і разводзіць будаўнічы бруд у сітуацыі, калі не ведаеш, ці гэты рамонт скончыш, няма жадання. Справа ж не закрытая, а зусім нядаўна яе працягнулі. Пры гэтым, адкладзеныя на рамонт грошы былі канфіскаваныя падчас вобшуку, аддаваць іх пакуль не спяшаюцца.

***— Наогул, што значыць жыць у падвешаным стане, калі вы на свабодзе, але пры гэтым справа не закрытая?***

— Гэта не дужа прыемна і не дужа зручна, але, улічваючы ўсю няпэўнасць і нявызначанасць, калі не можаш планаваць свой заўтрашні дзень, на волі ўсё ж такі значна лепш, чым там.

***— З-за дыскамфорту ці скавансі ў дзеяннях?***

— Пабытаваўшы ўмовы СІЗА КДБ дастаткова задавальняюча, пытанне ў іншым. Што ты там можаш рабіць? Сядзець. А тут, на волі, справаў багата. Гэтым воля ад няволі і адрозніваецца. Лепш галадаць на волі, чым смачна есці на нарах.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №9 (133)
(верасень)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест





**Абсалютна лагічным здаецца пытанне: а навошта патрэбны суд увогуле? Няхай бы той міліцыянт, які схапіў актывіста на мітынгу ці пікеце, і выносіў бы прысуд, калі гэты прысуд ужо вядомы. Зэканомілі б дзяржаўныя сродкі. Ну а прысутнасць адваката ў такой сітуацыі ўвогуле выглядае абсурднай.Зразумела, што размова ідзе пра стасункі ўладаў з апазіцыйна настроенай часткай грамадства. Хоць у іншых выпадках сітуацыя выглядае вельмі падобна. Навошта мяняць схему, калі гэтая цалкам задавальняе ўладу**

# Заява Сакратарыята ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»

**12 верасня кваліфікацыйная камісія Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь пазбавіла адвакацкай ліцэнзіі вядомую праваабаронцу, адну з найлепшых беларускіх юрыстак Ганну Віктараўну Бахціну. У дачыненні да яе была выкарыстана фармулёўка «недастатковая прафесійная кваліфікацыя».**



Сябры нашага творчага аб'яднання доўгія гады ведаюць Ганну Віктараўну як чалавека ўзорных прафесіяналізму, таленту і мужнасці. Яна годна прадстаўляла інтарэсы нашага старэйшага грамадскага аб'яднання ў працэсах Вярхоўнага суда, бліскуча адстойвала і адстойвае ў нашай краіне пастулаты праўды і справядлівасці. Дзякуючы яе адвакацкаму майстэрству і непахіснай прафесійнай пазіцыі ў 2007 годзе Саюз беларускіх пісьменнікаў, адзіны з некалькіх сотняў ліквідаваных па позве Міністэрства юстыцыі грамадскіх аб'яднанняў Беларусі, здолеў захаваць афіцыйны статус. У 2010 годзе Ганна Бахціна атрымала Ганаровую Грамату Міністэрства юстыцыі РБ за добрасумленную працу ў органах юстыцыі па абароне правоў і свабодаў грамадзян. У апошнія гады Ганна Віктараўна паспяхова вяла рэзанансныя справы Ірыны Халіп, Іллі Валавіка, Эдуарда Пальчыса.

Лічым, што пазбаўленне Ганны Бахціной права на адвакацкую практыку з'яўляецца палітычна матываваным рашэннем беларускіх уладаў, звязаным з абаронай Міраслава Лазоўскага, аднаго з ключавых фігурантаў самай гучнай палітычнай справы апошняга часу — «Справы патрыётаў».

Рашуча заклікаем Міністэрства юстыцыі перагледзець прынятае рашэнне ў дачыненні да аднаго з лепшых у нашай краіне абаронцаў правоў і свабодаў грамадзян.

**Мінск, 12 верасня 2017 г.**

# Вінаватыя?

**Адвакат — гэта асоба, прафесіяй якой з'яўляецца аказанне кваліфікаванай юрыдычнай дапамогі фізічным і юрыдычным асобам (арганізацыям), у тым ліку абарона іх інтарэсаў і правоў у судзе. А адвакатура як прафесія вядомая са старажытных часоў.**

Iсапраўды, прафесія адваката вядомая з часоў старадаўняга Рыму. Вядомая як прафесія. Ну а адвакат у прынцыпе быў заўсёды. Кожны, хто нейкім чынам абараняў таго, каго судзілі, і быў адвакатам. З'яўленне адваката як прафесіі папросту стала падвышаць кваліфікацыю гэтага чалавека. Сталі з'яўляцца вядомыя адвакаты, якія абаранялі людзей лепш, чым іншыя. Зразумела, што такія абаронцы былі больш запатрабаванымі, ну і, адпаведна, больш «дарагімі». Кліент, ён жа заказчык, і быў галоўным ацэншчыкам працы адваката. Здавалася б, усё тут проста і нічога больш прыдумваць не трэба. І гэтая схема становіцца прывабнай там, дзе галоўным у судовым працэсе лічыцца пошук праўды. Там, дзе суд зацікаўлены ў рэальнай ацэнцы віны падсуднага, каб вынесці яму максімальна справядлівы вырак або апраўдаць цалкам. Менавіта там і той, хто абараняе, і той, хто абвінавачвае, на роўных спаборнічаюць у зале суда. І да самага канца невядома, хто пераможа.

А вось там, дзе вырак вядомы яшчэ да таго, як пачаўся суд, прафесія адваката становіцца цалкам непатрэбнай. Мне, як праваабаронцу, даводзілася прысутнічаць на мностве судовых працэсаў. Большасць гэта былі адміністрацыйныя справы. І, тым не менш, людзі, якія першы раз траплялі ў залу суда як абвінавачваемыя, вельмі спадзяваліся на адваката. А вось тыя, хто ўжо быў раней знаёмы з сённяшнім беларускім правасуддзем, не лічылі патрэбным губляць на адваката час і грошы.

Ну і сапраўды… У дзевяноста дзевяці адсотках выпадкаў я і мае калегі, зыходзячы са свайго ўласнага досведу, з дакладнасцю прадказвалі, як будзе закончаны працэс і які будзе вырак. Мы нават ведалі прысуд яшчэ да пачатку судовага працэсу…

У такой сітуацыі абсалютна лагічным здаецца пытанне: а навошта патрэбны суд увогуле? Няхай бы той міліцыянт, які схапіў актывіста на мітынгу ці пікеце, і выносіў бы прысуд, калі гэты прысуд ужо вядомы. Зэканомілі б дзяржаўныя сродкі. Ну а прысутнасць адваката ў такой сітуацыі ўвогуле выглядае абсурднай.

Зразумела, што размова ідзе пра стасункі ўладаў з апазіцыйна настроенай часткай грамадства. Хоць у іншых выпадках, думаю, сітуацыя выглядае вельмі падобна. Навошта мяняць схему, калі гэтая цалкам задавальняе ўладу. І калі можна папросту ігнараваць усе довады адваката, то навошта такі інстытут увогуле?!

Але ж такі інстытут ёсць. Дык навошта ён патрэбны? Адказ на гэтае пытанне прыходзіць толькі адзін: адвакат у Беларусі патрэбны выключна дзеля таго, каб мы хоць знешне нейкім чынам былі падобныя на людзей. Маўляў, у нас так, як і ў іншых краінах. Ёсць нават адвакаты.

І тут адвакат ужо набывае зусім іншае значэнне. Ён як інстытут існуе дзеля падману. Дзеля таго, каб пыл пускаць у вочы іншым. Толькі вось у такой сітуацыі трэба, каб адвакаты былі цалкам ручнымі. Цалкам залежнымі ад улады, кантралюемыя і кіруемыя ёй. Таму ў Беларусі не кліент ёсць галоўным ацэншчыкам працы адваката, а ўлада. Менавіта яна праз, прыкладам, міністэрства юстыцыі праводзіць праверку адвакатаў і прызначае пераатэстацыі.

А кваліфікацыя адваката вызначаецца зусім не колькасцю выйграных спраў. Да таго ж выявілася, што не ўсе адвакаты ў Беларусі ведаюць сваё месца. Ёсць і такія, хто вельмі сур'ёзна ставяцца да сваёй місіі і спрабуюць рэальна абараняць сваіх кліентаў, нават калі тыя — прадстаўнікі апазіцыі…

І вось ужо ідуць чарговыя і пазачарговыя пераатэстацыі. І вось ужо адмоўную атэстацыю атрымлівае вядомая адвакатка Мінскай гарадской калегіі адвакатаў Ганна Бахціна. І вось ужо ўсім зразумела, што не яна апошняя. І вось ужо Беларусь рэальна набліжаецца да таго моманту, які раней можна было ўбачыць толькі ў вельмі камедыйных фільмах, калі адвакат падымаўся і казаў пра падсуднага толькі адно слова: «Вінаваты!»

**Віктар Сазонаў,**
**літаратар, праваабаронца,**
**racyja.com**

# Прэмія імя Наталлі Арсеневай

**Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі ПЭН-цэнтр і Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» абвесцілі пра заснаванне літаратурнай Прэміі імя Наталлі Арсеневай за найлепшую кнігу паэзіі.**



Прэмія заснаваная ў памяць пра знакамітую беларускую паэтэсу, зорку літаратуры Заходняй Беларусі ды беларускай эміграцыі, аўтарку знакавага верша «Магутны Божа». Пасля вайны Н. Арсеневა апынулася ў выгнанні-замежжы, дзе працягвала займацца беларускай справай, удзельнічала ў культурнай і асветніцкай дзейнасці.

Першая прэмія будзе ўручаная ўжо сёлета за кнігу паэзіі, напісаную на беларускай мове і выдадзеную ў 2016 годзе. Пераможцу вызначыць журы, у склад якога ўваходзяць Ірына Багдановіч, Лявон Баршчэўскі, Уладзімір Глазаў, Вальжына Морт і Ціхан Чарнякевіч.

Літаратурная Прэмія імя Наталлі Арсеневай заснаваная пры спрыянні Фонда культуры і адукацыі Орса-Рамана і Харытатыўнага фонда Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі.

Правам намінавання на Прэмію валодаюць выдаўцы, творчыя аб'яднанні, аргкамітэт Прэміі, сябры журы і самі аўтары. На іх «ляжыць» абавязак прадставіць да 1 кастрычніка на разгляд журы Прэміі электронныя pdf-версіі выданняў і, калі кніга выходзіла ў папяровым выглядзе, два папяровыя асобнікі кніг. Папяровыя асобнікі прымаюцца па адрасе Саюза беларускіх пісьменнікаў (Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, дом 31, офіс 906), электронныя варыянты — на адрас: paezija@gmail.com.

Сачыць за абнаўленнямі можна на старонцы Прэміі ў фэйсбуку і на сайтах арганізатараў.

**Аргкамітэт прэміі**

# Суперкніга пра Біла з Болаю

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выпусціў унікальную дзіцячую кнігу «Суперкніга пра Біла з Болаю» пра маленькую дзяўчынку з абмежаванымі магчымасцямі.**




Гэта першая кніга па-беларуску, дзе пранікнёна і рэалістычна распавядаецца пра сям'ю, у якой расце незвычайнае дзіця. У хлопчыка Біла з'яўляецца маленькая сястрычка Бола — нагода для радасці, весялосці і гонару. Але час ідзе, і паступова сям'я пачынае разумець, што з Болай адбываецца нешта не тое, яна зусім не размаўляе. Кніга ў вершаванай форме распавядае пра жыццё маленькай дзяўчынкі, якая ніколі не будзе «як усе». Пра звязаныя з гэтым радасць і гора, надзею і роспач. Пра тое, наколькі мы гатовыя жыць побач з тымі, хто не падобны да нас. Але найперш гэтая кніга пра любоў і здольнасць прымаць.

«Суперкнігу пра Біла з Болаю» пераклалі на беларускую мову Надзея Кандрусевіч і Алеся Башарымава, а Андрэй Хадановіч зрабіў так, каб пераклад загучаў напоўніцу: эмацыйна і кранальна. Аповед вядзецца ад імя Біла, брата Болы, з якім чытач разам перажывае ўсю гаму пачуццяў: і шчасце, і боль, і злосць, і замілаванне. І роздум...

Аўтарка кнігі — шведская пісьменніца Гуніла Бэргстрэм. З 1971 года яна напісала каля 40 дзіцячых кніг, якія сама і праілюстравала. Яна пісала гісторыю Біла і Болы са сваёй уласнай сям'і: у яе двое дзяцей, а ў малодшай дачкі аўтызм.

Кнігі пра Біла і Болу — класіка шведскай літаратуры, яны шырока чытаюцца ў каледжах і навучальных установах. Паводле іх знятыя анімацыйныя фільмы і зробленыя тэатральныя пастаноўкі. А ў 2012 годзе на кніжным кірмашы ў Гётэборгу Гуніле Бэргстрэм уручылі залаты медаль «за новы падыход у напісанні і афармленні дзіцячай кнігі з бездакорным адчуваннем дзіцячага светапогляду».

«Суперкніга пра Біла з Болаю» ўжо ў продажы...

# Два юбілеі

**Сёлета адзначаюцца два, хай сабе й не вельмі круглыя, юбілеі класіка польскага прыгожага пісьменства Баляслава Пруса: у жніўні споўнілася 170 гадоў ад ягонага нараджэння, а 29 верасня мінецца 130 гадоў ад пачатку першапублікацыі ягонага шэдэўра — рамана «Лялька».**

Баляслаў Прус (сапраўднае: Аляксандр Главацкі, 1847–1912) нарадзіўся ў Хрубешуве пад Люблінам і рана асірацеў. Пад уплывам апекуна, старэйшага брата Леона, шаснаццацігадовы юнак далучыўся да паўстанцаў 1863 года. У баі быў паранены, патрапіў у вязніцу, але з няволі яго выкупіла цётка.

Скончыў гімназію ў Любліне і паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Варшаўскай галоўнай школы, які іменаваўся тады Варшаўскі ўніверсітэт, але мусіў сыйсці з трэцяга курса праз матэрыяльную нястачу.

Зарабляў на жыццё разнастайнай працаю: быў гувернёрам, фабрычным рабочым, банкаўскім касірам, газетным рэпарцёрам.

Апавяданні, навелы, аповесці і раманы Баляслава Пруса з'яўляліся на старонках перыядычных выданняў, у якіх ён дэбютаваў у 1872 годзе. Адна з вяршыняў яго творчасці — культавы раман-меладрама «Лялька» — першапачаткова быў надрукаваны ў газеце «Kurier Codzienny» цягам 1887–1889 гадоў.

Раман «Лялька» — гэта меладрама на фоне эпічнай панарамы варшаўскага жыцця канца 70-х гадоў пазамінулага стагоддзя са шматлікімі рэмінісцэнцыямі з часоў нацыянальна-вызваленчых паўстанняў 1830–1831, 1848 і 1863–1864 гадоў. Сюжэт нібыта звычайны, а ў аснове яго — love story.

Дзякуючы жалезнай волі і працавітасці сын збяднелага шляхціца Станіслаў Вакульскі здолеў не толькі атрымаць універсітэцкую адукацыю, але і зрабіцца найзаможнейшым прамыслоўцам і купцом. Ён закахаўся ў збяднелую арыстакратку — Ізабэлу Ленцкую. Каханне актывізавала магутную энергію галоўнага героя, дадало яму сілы, і Вакульскі, па волі аўтара, зрабіўся такой багатай і ўплывовай асобаю, што самыя знаныя арыстакраты былі вымушаныя прымаць яго ў сваіх салонах. Ганарліўка панна Ізабэла, хоць пагарджала ім ды заставалася халоднай як парцалянавая лялька, усё ж пагадзілася выйсці за яго замуж...

Раман перавыдаваўся шмат разоў, а вось у перакладзе на беларускую мову выйшаў упершыню. Выйшаў якраз да сёлетніх Прусаўскіх юбілеяў у перастварэнні Галіны Жарко ды Міколы Хаўстовіча і ў аздабленні Міхаіла Драко ў выдавецтве Уладзіміра Сіўчыкава.

Вялікім поспехам у беларускіх гледачоў карысталася і кінаэкранізацыя (рэжысёр Войцах Хас, у галоўных ролях — Марыюш Дмахоўскі і Беата Тышкевіч) гэтага культавага твора польскага пісьменніка, а таксамааднайменны тэлевізійны серыял.

**Хрысціна Сіўчыкава**

# Тры колеры жыцця і смерці

**«Сваякі», графічны раман па аднайменным творы Васіля Быкава, выпускаўся адмыслова да дня нараджэння славутага аўтара Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Але й без гэтай нагоды варта было чакаць падобнае выданне: Васіль Быкаў надзвычай графічны...**

Калі ўявіць раскадроўку хоць якога твора Быкава, прыкладам, «Знака бяды», ці «Жоўтага пясочка», які б ні згадаўся, — вы ўбачыце цэнтральны прадмет, зазвычай сімвалічны, убачыце выразныя, быццам бы грубыя, але тым і дакладныя, рысы: твару, пейзажа, нацюрморта. Напрошваецца здагадка, што на манеру пісьма паўплываў той факт, што Быкаў меў мастацкую, хоць і незавершаную, адукацыю, а што найважней — талент графіка. Мяркуецца, што й сам ён найперш бачыў сцэну, а пасля ўжо апісваў яе. Адсюль дакладнасць, якая так уражвае, робіць тэксты Быкава сугестыўнымі, а ў спалучэнні з тэмай — гнятлівымі (не ў сэнсе заганы, вядома).

Ілюстрацыі да «Сваякоў» зрабіў Ян Жвірбля. Зрэшты, гэта кепская фармулёўка. Лепей сказаць (дый справядлівей) — намаляваў пісьмо. Перавёў твор з аднае мастацкай мовы ў іншую. Была вялікая рызыка, што атрымаецца альбо набор ілюстрацый да тэкста, а не цэласны твор, альбо нешта зусім старонняе, па матывах. Ян Жвірбля да гэтага быў вядомы, калі вы цікавіцеся графікай ці кніжнай ілюстрацыяй, работамі ў пэўным сэнсе жорсткімі. Напрыклад, у дзіцячых кнігах вы маглі бачыць персанажаў гратэскных, і калі яны мелі характар негатыўны, дык выклікалі непрыязнасць з першага погляду. У пэўным сэнсе гэтыя дзіцячыя ілюстрацыі насілі недзіцячы характар. Яны неслі ў сабе больш, чым звычайнае графічнае адлюстраванне персанажа. Мне як аднаму з чытачоў бачыцца выбар мастака надзвычай удалым. Хоць паглядзець іншыя мастацкія рашэнні датычна тых жа «Сваякоў» было б надзвычай цікава.

Галоўная заслуга Жвірблі перад тэкстам-арыгіналам — здольнасць адчуць суразмернасць чалавека і лёсу, драмы людзей і вялікай неабсяжнасці, безуважнасці прыроды. Безвыходныя сітуацыі, у якіх апынаюцца героі Быкава, таму й уражваюць так моцна, што на фоне заўжды бачныя поле, лясы, шырокае-шырокае неба... І ўсё гэта будзе існаваць без персанажа, усё застанецца на сваім месцы нават тады, калі чалавецтва зусім не стане. Як тут не згадаць, што Быкава называюць экзістэнцыялістам.

Першая ж старонка — нямая: на ёй ні слова, ні чалавека, толькі прызнак прысутнасці — дом (зноў жа, сімвалізм, калі хочаце). Аблокі плывуць, куды ім трэба. Дрэва расце. Зямля цямнее і чакае новай парЫ. Тут чалавеку няма месца. Адчуванне прасторы пераходзіць у трывожны стан пустаты. Псіхалагічны настрой падкрэсліваецца колерам: белым, чорным, зялёным. Прычым зялёны можна лічыць як балотным (колер ненажэрнай твані й безвыходнасці), так і вайсковым, пад колер заношанага шыняля. Вайна запоўніла ўсю прастору існавання чалавека.

Вайна (то бок, той самы брудна-зялёны) выступае фонам дыялогаў і пачуццяў герояў — сыноў і маці. Пераходзячы ад фону да героя, выключна важна сказаць колькі слоў пра эмоцыю. Як доўга працаваў мастак над героямі, мне невядома, але вынік заслугоўвае высокай ацэнкі. Асабліва — вочы. Нават прыбраўшы словы (дакладныя цытаты з Быкава, дарэчы), вы без цяжкасцяў зразумееце, што між героямі адбываецца і што адбываецца ў самім героі.

Пры гэтым разумееце: размеркаванне «колеравых плямаў» на старонках рамана найперш залежала ад законаў гармоніі, кампазіцыі. Але й пры тым дыялогі дакладна супадаюць з фонам фрагмента. Так, гнеў паліцая не толькі ў яго вачах, але ў цемры за плячыма. Спадзяванне і наіўнасць прыглушаюць зялёны бляск у вачах маці, акаляючы яе святлом, якое насамрэч — усяго толькі чысты ліст. Знакавыя рухі, крокі адзначаюцца буйным планам. А пераломны момант — чырвоным, колерам смерці. Прычым чырвань гэтая мае градацыі: густыя крывавыя наплывы, пырскі, два штрыхі, якія на кантрасце з асноўным шэра-зялёным выглядаюць да болю ярка, чытай — жудасна, як і мусіць быць.

А ведаеце, які апошні «кадр» рамана?..

Спакойная, ціхая вёска.

А можа — пустая і мёртвая.

Мяркую, якраз гэта — красамоўная мова мастацтва, яе вербальныя здольнасці, калі можна так сказаць, — і робяць твор Яна Жвірблі менавіта графічным раманам, а не коміксам паводле тэкста Васіля Быкава.

Дый што, як не суперажыванне, робіць літаратурны твор жывым? Школьнікаў цікавіць не пабудова грэблі, але трохкутнік Ганна-Васіль-Яўхім. Новае, экспрэсіўнае аблічча «Сваякоў» як бы канцэнтруе ў сабе ўсе пачуцці, змешчаныя ў тэкставым арыгінале. А Быкаў не тое каб дужа эмацыйны. Таму найбольшы патэнцыял графічнага рамана бачыцца мне ў школах. Замест падручніка па нудным белліце варта напачатку паказаць «Сваякоў» Жвірблі.

І вядома, гэтае нешараговае выданне папоўніць зборы бібліяфілаў.

**Наста Грышчук**



Фота Alex Zhernosek

# Узвышанец

## Леаніду Дранько-Майсюку — 60

**У юбілейны час майго аднакурсніка па Літаратурным інстытуце, таварыша па літаратуры і проста сябра прапаную кінаэсэ, якое было літаратурным штуршком (сцэнарыем) для стварэння дакументальнага фільма, што потым займеў канчатковую назву «Леанід Дранько-Майсюк. Бязмежнае»...**

Паэт Леанід Дранько-Майсюк, бадай, як ніхто з сённяшніх беларускіх літаратараў, у сваёй іпастасі арганічны ва ўсіх жыццёвых праявах.

Нават, калі гуляе з сабачкам. Ранкам і надвячоркам, як і належыць. Здаецца, звычайная для гарадскога жыцця карціна — што тут дзіўнага? Хіба што адбываецца гэта ў Верхнім горадзе, дзе і жыве Леанід, ды на набярэжнай Свіслачы, у адметных краявідах. Але гэта знешні фон. Самае істотнае, што падчас гэтых шпацыраў ён піша вершы для Хомкі, французскага бульдога, свайго малога сябра...

Свядома ўзгадоўваў свой стыль у жыцці Леанід Дранько-Майсюк ці ўжо з падлецтва і юнацтва адчуваў сябе паэтам? Адказу адназначнага няма. Хутчэй, як бывае ў жыцці, і тое, і тое. Як не адчуваць сябе паэтам, калі ў фуфайцы, у якой ідзеш берагам Гарыні на завод у Хабішчах за два кіламетры ад Давыд-Гарадка, падшытая маці ўнутраная кішэня, дзе ляжыць часопіс «Маладосць»? Калі пасля школы працаваў на гэтым заводзіку слясарна-мантажнага інструменту ўпакоўшчыкам, часу пачытаць не было. Але неўзабаве перавёўся ў грузчыкі, у вольную хвіліну хаваўся пад лесвіцу і чытаў «Маладосць» ды беларускія кнігі.

А тут ужо і верш надрукаваны ў «Чырвонай змене», і перспектыва вучыцца ў Літаратурным інстытуце ў Маскве з дабраслаўлення Лідзіі Абухавай, рускай пісьменніцы з Давыд-Гарадка. Дарэчы, якраз яна сказала юнаку: «Лёня! Толькі пішыце па-беларуску!» Як не расправіць плечы?

Па сканчэнні вучобы ў Літінстытуце, якое адбылося пасля службы ў войску, Леанід пабраўся шлюбам з Вольгай, дачкой Валянціны Шчадрыной, прыхільніцы і перакладчыцы беларускай літаратуры. Але застацца ў Маскве нават думкі не было. І Вольга ні кроплі не сумнявалася, што трэба ехаць у Беларусь. Больш таго, іхняга сына Васіля яна нараджала не ў Мінску, дзе жылі, а на радзіме мужа. Так і стаіць у пашпарце ў менчука Васіля месца нараджэння: Давыд-Гарадок.

Каханая жонка, сын. Але ў нейкі момант з'яўляюцца вершы для А. Іх напісана шмат, калі быць дакладным, шэсцьдзясят два. Цэлая кніга, уступ да якой — невялікі празаічны тэкст «Інтрадукцыя».

...Я жыву поўным жыццём тады, калі з'яўляецца жанчына...

Хто ж такая гэтая загадкавая А? Жанчына-абстракцыя ці рэальны персанаж? Дранько-Майсюк як сапраўдны паэт ёсць і містыфікатарам, але ж дыму без агню не бывае. Мо цяпер (гадоў то пайшло!) і прыадкрыецца таямніца, але відавочна адно — праспяваны магутны гімн каханню.

У свой час сталася неспадзяванкай дэкларацыя Дранько-Майсюка аб тым, што вершы можна пісаць толькі да сарака гадоў. Бо смак віна ўжо не той, і ад цыгарэты няма задавальнення, але, галоўнае, позірк жанчыны хвалюе не так, як раней. Ён сапраўды так думаў, і пэўны час вершаў не пісаў, але жыццё паставіла на сваё. Яно вышэй і больш справядлівае за нашыя рацыянальныя заключэнні, асабліва для паэта. Немагчыма ім стаць у нейкі пэўны момант, немагчыма і перастаць ім быць.

Тым больш перастаць быць паэтам, калі ты жывеш на вуліцы Першага пацалунку. Насамрэч вуліца гэтая называецца вельмі празаічна і прыкра-архаічна: Леніна. Але ўсё падуладна паэту, вуліцу перайменаваць не самае складанае...

Ёсць у паэта самы любімы куточак — Паўночны завулак.

«Вельмі люблю Мінск, люблю блукаць па мінскіх завулках. Непадалёку ад Тэатра музкамедыі ёсць мой любімы Паўночны завулак. Дарэчы, незамужнім дзяўчатам магу параіць жыццёва неабходны маршрут — з вуліцы Сухой выйдзіце праз лагчыну да Транспартнага завулка. Там на ўзвышшы па-над Нямігай стаіць дом з верандай і бярозай. Адтуль адкрываецца прыгожы краявід на Тэатр музычнай камедыі. Калі дужа хочацца выйсці замуж, дачакайцеся таго часу, калі на тэатр упадуць зоркі ў выглядзе фіялетавых вішань. І ўжо заўтра вы сустрэнецеся са сваім жаніхом!»

А ў паэта Дранько-Майсюка Паўночны завулак стаў месцам сустрэч са спадарыняй Эл. Ад гэтых сустрэч нарадзіўся «Нервовы раман». І ўвогуле, цэлая «Кніга для спадарыні Эл». Зноў жа, таямніца. Былі вершы для А, цяпер спадарыня Эл. Чарговая паэтычная містыфікацыя ці водгулле рэальнага сюжэта? Адно зразумела, як сцвярджае сам пісьменнік:

«Вочы бачаць тое, што ёсць, а душы, як і заўсёды, хочацца большага, таму паэзія шукае ў рэчаіснасці свой нерэчаісны змест...»

Ужо больш дзесяці гадоў Леанід Дранько-Майсюк афіцыйна нідзе не працуе, жыве літаратурнай работай. На вольным хлебе, як гавораць. Неад'емным складнікам такога жыцця з'яўляюцца творчыя сустрэчы паэта з чытачамі. Якраз тут можна пачуць вершы ў выкананні аўтара (калі не лічыць прачытанае адзінаму слухачу Хомку). Але галоўны момант тут — аўтографы прыхільнікам (больш прыхільніцам) яго паэзіі. У гэтым сэнсе паэт не мае сабе роўных. Ніводзін аўтограф (а іх бывае некалькі дзясяткаў пасля сустрэчы) не паўтараецца, шмат рыфмаваных. Уявіце, як прыемна такое чалавеку, пасля гэтага нязмушана палюбіш беларускую літаратуру. Унікальная з'ява. Да прыкладу, аўтографы Уладзіміру Марозу:

*«Валодзечка, з табою мы*
*Не згубім лёгкага дыхання*
*Сярод вясны, сярод зімы,*
*Сярод віна, сярод кахання»*
*(у кнізе «Тут», 1990);*

*«Валодзечка! Ва ўсе часы*
*Нам будзе мроіцца і сніцца:*
*Дзявочай чыстае красы*
*Нас не пакіне таямніца»*
*(у кнізе «Проза радасці», 1991);*

*«Валозя родны, дарагі!*
*Будзь першы скрозь, а не другі!»*
*(у кнізе «Анёлак і я», 2009).*

*І, нарэшце, у апошняй па часе «Кнізе для спадарыні Эл» (2012):*

*«У творчасці Мароза Ўладзіміра,*
*Прызнаюся, заўважыў я даўно:*
*Ў ягоных фільмах не сціхае ліра,*
*А ў вершах майго сябра Ўладзіміра*
*Заўсёды бачу яркае кіно!»*

...Як гаварыў Міхась Стральцоў, кожнаму прыстойнаму паэту не зашкодзіла б кніга прыстойнай прозы. Леанід Дранько-Майсюк піша і прозу, як і належыць класічнаму пісьменніку-ўзвышанцу. Адзін з калегаў-літаратараў назваў апавяданне «Анёлак і я» найлепшым у беларускай літаратуры. Сапраўды, гэта вельмі шчымлівы твор, дзе хлопчык ловіць у Іслачы стронгу. І верыць, што калі зловіць рыбіну, то вернецца яго маці, якая з'ехала недзе за мяжу. Каб спраўдзілася нясцерпнае чаканне хлопчыка, аўтар апавядання запускае ў раку хлебных рыбак. Зразумела, рыбкі з мякіша не плаваюць, але тут яны паплылі, хлопчык злавіў рыбу, і маці вярнулася. Зразумела, гэта толькі фабула, а само апавяданне вельмі сумна-шчымлівае, нягледзячы на шчаслівы канец...

Але не варта заставацца ў мінулым, жыццё не спыняецца, нават калі некаторыя матэрыяльныя знакі яго знікаюць. Іншы наадварот — узнаўляюцца. І матэрыяльна, і духоўна. Як родная беларусам Вільня. Леанід Дранько-Майсюк лічыць, што Вільня з'яўляецца працягам духоўнага жыцця кожнага сапраўднага беларускага пісьменніка. Таму невыпадкова, што ўжо цягам некалькіх гадоў ён ездзіць у нашу старадаўнюю сталіцу, нястомна працуе ў архівах. Вынікам будзе кніга «У Вільні і больш нідзе», шмат раздзелаў з якой ужо надрукавана ў часопісах і газетах. Гэта дакументальна-эсэістычная проза аб дваццатых гадах мінулага стагоддзя, аб выбітных дзеячах беларушчыны.

Аб Вільні Леанід гаворыць захоплена. Вось адзін з куточкаў старога горада. Прачысценскі сабор, найстаражэйшы праваслаўны храм. Насупраць — дом, дзе жыў Рыгор Шырма, і шыльда памятная вісіць. Шырма даў грошы на першую кнігу Максіма Танка «На этапах». Далей — касцёл Святога Міхала, пабудаваны Львом Сапегам, дзе ён і пахаваны. Помнік Міцкевічу, знакаміты касцёл Святой Ганны. Здаецца, вядома ўсё. Але тут жа нечаканы нюанс: у вежах касцёла побач са Святой Ганнай рабочыя перахоўвалі частку накладу канфіскаванай польскімі ўладамі кнігі «На этапах». І адразу ты робішся далучаным да яшчэ адной таямніцы беларускай Вільні.

Леанід Васільевіч часта згадвае «Узвышша», літаратурнае аб'яднанне ў савецкім Менску. Лічыць, што ад яго пайшла ўся беларуская літаратура — ад Уладзіміра Дубоўкі, Кузьмы Чорнага... Сам вучыцца ў класікаў. У прыватнасці, і таму, каб узбагачаць беларускую літаратурную мову, уводзіць новыя словы. Мала хто ведае, што Дубоўкавы і Глебкавы «мілагучны», «мэтазгодны», «адлюстраваць», «дабрабыт», «цемрашальства», «навучэнец» у свой час былі наватворамі. Будзем спадзявацца, што і словы Дранько-Майсюка «далькажык» (мабільны тэлефон), «асветар» (кампьютар), «словасвет» (інтэрнэт), «выхóд» (прынтар) стануць з часам шырока ўжыванымі. Аб гэтым у яго і верш — «Хвалебная песня навасловам».

Шкада адно, што па далькажыку не затэлефануеш бацькам у Давыд-Гарадок — няма іх ужо на гэтым свеце. Толькі родныя магілы на могілках, радзінны дом ды родны гарадок, якому аддадзена даніна тэкстам і дакументальным фільмам «Горад Боны і Давыда». Мястэчка сапраўды адметнае, непаўторнае, аб кожным куточку горада паэт можа распавядаць падоўгу. Жыццё не спыняецца, але постаць паэта на могілках, на гарадоцкіх вулках самотная.

Не саб'ецца шчымлівы настрой нават яркай песняй «Полька беларуская». Тэкстаў песень Леанід Дранько-Майсюк напісаў шмат. Але згаданая — самая вядомая.

«Чуў у Мінску, Маладзечна, Брэсце... На гармоніку ў вёсках людзі граюць яе на вяселлях... Калі чытаю «Польку беларускую», як верш, то слухачы здзіўляюцца: «Гэта вы напісалі?» Новую кнігу, у якой сабраў песенныя вершы, я так і назваў — «Полька беларуская». Мне хочацца, каб людзі больш ведалі маю кнігу «Стомленасць Парыжам», аднак жа больш ведаюць «Польку беларускую»!»

О, гэтая стомленасць Парыжам! Твор з такой назвай Дранько-Майсюка выклікаў у свой час у літаратурнай грамадскасці вялікі розгалас. Гэта роздум аб творчым шляху, аб наканаванасці лёсу, аб пошуках высокіх сэнсаў. Адным з галоўных персанажаў эгаэсэ быў французскі паэт з беларускімі каранямі Гіём Апалінэр (маці яго з роду Кастравіцкіх). Кожны свой парыжскі дзень Леанід прыходзіў у невялія прысады каля абацтва, дзе стаяў помнік Апалінэру работы яго сябра Пабла Пікаса. Тэкст пісаўся ўжо ў Мінску, і трэба было знайсці нечаканы фінал. Пісьменнік прыдумаў, што ў апошні прыход помніка Апалінэру на месцы не было — яго скралі! Але самае дзіўнае, што творчая фантазія аказалася прарочай. Калі праз амаль дзесяць гадоў Дранько-Майсюк зноў трапіў у Парыж, помніка Апалінэру сапраўды не было, знік (мо і сапраўды скралі на каляровы метал). А нядаўна адзін яго калега, які быў у Парыжы, засведчыў, што помнік зноў стаіць на сваім месцы. Дзіўная гісторыя, якую наўмысна не прыдумаеш, якая дае нечаканую сюжэтную лінію. Але справа не толькі ў помніку. Леанід Дранько-Майсюк лічыць, што кожны паэт павінен пабываць у Парыжы. Яшчэ парадаксальна лічыць (аб гэтым таксама напісана эсэ), што Еўропа — гэта не стары свет, як мы звыклі думаем. Наадварот, яна ёсць маладосцю свету. І мае на гэты конт свае аргументы.

Парыжскі эпізод зачэпіць сваім крылом «Полька беларуская» — і гэта ўсё будзе ў суладдзі, як арганічная ў розных праяўленнях асоба паэта Леаніда Дранько-Майсюка...

**Уладзімір Мароз**

# Дзед і ўнук



Вінцэсь МУДРОЎ

**Янка Дудок, шасцідзесяцігадовы дзіцячы пісьменнік, сядзеў на канапе і глядзеў на кніжную паліцу. А калі казаць больш дакладна — на невялічкі, у палец даўжынёй, шыхт напісаных ім кніг. Кнігі стаялі на самым прыметным месцы, — паміж зборам твораў Дастаеўскага і чатырохтомнікам Біянкі, — і на тле брудна-зялёных тамоў лагодзілі вока сваімі рознакаляровымі карэньчыкамі. Пісьменнік, аднак, глядзеў на тыя карэньчыкі з пакутай і нават з прыкрасцю.**

Амаль трыццаць гадоў ураб'ляў Янка Дудок айчынную літаратурную ніву. Быў час, калі ягонае прозвішча — у справаздачным пераліку — згадвалі старшыні пісьменніцкага звязу, калі творчасць ягоную аналізавалі прафесійныя крытыкі, а дырэктаркі дзіцячых бібліятэк пісалі яму, ад імя юных чытачоў, лісты падзякі за тую асалоду, якую зазналі, чытаючы напісаную ім кніжку, а ў апошніх радках выказвалі спадзяванне, што пісьменнік яшчэ парадуе аматараў роднага слова новымі таленавітымі творамі. «Ды хопіць ужо вам, далібог», — з робленым дакорам і з ноткамі шчасця ў голасе прамаўляў Янка Дудок, прабягаючы вачыма эпістолі. І хаця ў душы адчуваў, што шкаляры ягоныя наўрад ці чытаюць, аднак атрымліваць такія лісты, хай і напісаныя па абавязку службы, было прыемна. Магчыма, Янка і да гэтай пары ўрабляў літаратурную ніву, але тут пачалася славутая Перабудова, а разам з ёю скончылася ўсё тое, што было дарагім пісьменніцкаму сэрцу: і ганарары, і пуцёўкі ў пісьменніцкі Дом адпачынку, і калектыўныя п'янкі, якія называліся выязнымі паседжаннямі Бюро прапаганды мастацкай літаратуры.

Янка Дудок ужо даўно нічога не пісаў, але зрэдзьчасу, прыкладна два разы на год, небараку апаноўваў пісьменніцкі сверб. Сэрца пачынала парывіста біцца, дрыготкія рукі шукалі асадку, а ў галаве нараджаліся новыя сюжэты ды мастацкія вобразы. І тады ён сядаў за стол (камп'ютарам карыстацца так і не навучыўся), колькі часу сядзеў у рашучай паставе, маракуючы — што б такое напісаць, — нарэшце, па прыкладзе Уладзімера Караткевіча, поўніў наліўную асадку чорным атрамантам і пазначаў старонку крэйдавай паперы сваім імем ды прозвішчам. На гэтым творчае натхненне згасала, і творца, скамячыўшы ліст, з цяжкім уздыхам, а бывала і са стогнам, плюхаўся на канапу, уключаў тэлевізар і з гідлівай агіды на твары глядзеў перадачу «Клуб рэдактараў» альбо шоў Леаніда Закашанскага.

Акурат гадзіну таму Янку Дудку прынеслі першую пенсію, і пералічыўшы тры разы запар цупкія, навылёт прапахлыя друкарскай фарбай дэнамінаваныя грошы, дзіцячы пісьменнік фізічна адчуў, як на душу легла свінцова-шызая хмара. «Ці можна пражыць на такую пенсію?» — прашаптаў навасьпечаны пенсіянер, вымольна зірнуў на жонку, і тая, нічога не сказаўшы, пайшла на кухню гатаваць абед.

Трэба, аднак, сказаць, што творца да гэтага часу працаваў: вартаваў цэглу ды іншыя матэрыялы на будаўніцтве офіса «Аграпрамбанка». Уладкаваў яго на працу калега — пісьменнік-публіцыст Здзіслаў Бубовіч. Той ужо пяць гадоў як перакваліфікаваўся з публіцыстаў у вартаўнікі.

І вось, калі Янка Дудок глядзеў на кніжную паліцу, з ім здарыўся чарговы творчы прыпадак. Аднак гэтым разам ён не мармытаў пад нос: «Я ім такога напішу, што ўсім млосна стане», не поўніў асадку чорным атрамантам і нават не сядаў за стол. Пісьменнік узлез на ўслон, адчыніў антрэсоль і стаў выцягваць адтуль тоўстыя, з ладным слоем пылу, тэчкі са сваімі чарнавікамі ды недапісанымі творамі. Антрэсоль месцілася пад самай столлю, і нечакана на галаву творцы пасыпаліся ўсе шэсць тамоў даведніка «Беларускія пісьменнікі». Даведнік на верхатуру, употай ад мужа, усперла жонка. Мела такую паганую звычку: выцягваць кніжкі з паліцаў і распіхваць па цёмных кутах, наракаючы, што ад кніжнага пылу яна нажыла хваробу бронхаў.

— І калі ўжо выкінеш свой хломазд? — выдыхнула жонка, прачыніўшы кухонныя дзверы, і муж мацюкнуўся ў адказ.

Шосты, самы важкі том, патрапіў дакладна ў цемя і злёгку аглушыў Янку. Ці не таму творчае натхненне адразу ж згасла, да таго ж тасёмкі пыльнай тэчкі ніяк не развязваліся, і творца ўзяўся развязваць іх шасцю ацалелымі зубамі.

У першай тэчцы месціўся рукапіс аповесці пра піянера-героя. Некалькі старонак — там якраз апісвалася, як піянер-герой шпурляў у гітлераўцаў гранату, — былі перакрэслены сінім андрэеўскім крыжам. Прычым, там-сям на перакрыжаванні аловак прадзёр паперу.

...Аповесць пра піянера-героя была свойчас напісаная і аднесеная ў рэдакцыю, але тут, як на грэх, з творчай камандзіроўкі вярнуўся Здзіслаў Бубовіч. Калега наведаў якраз тыя мясціны, дзе піянер падарваў апошняй гранатай сябе і зграю гітлераўцаў. Ну і пачуў ад мясцовых, што хлопец той ніякіх немцаў не ўзрываў. Папросту нёс у атрад, на пару з дзедам, каністру самагонкі, пачаў, падпіты, выцягваць з кішэні гранату і выпадкова тузануў за чаку. А тут на «У-2» маскоўскі журналіст прыляцеў. Ён і прыдумаў гісторыю з апошняй гранатай. У Бубовіча язык без клею меле: адразу ж распавёў пра тое ў рэдакцыі. У выніку замоўленую і начыста перадрукаваную аповесць рашуча перакрэслілі. Яны з Бубовічам потым, у фае Дома пісьменнікаў, горача пагаманілі. Ледзь не пабіліся. Здзіслаў, у якасці кампенсацыі, уладкаваў яго ў Бюро прапаганды мастацкай літаратуры. Балазе тады месца вызвалілася: аднаго з чальцоў белая гарачка скруціла.

...Пісьменнік чхнуў і паволі, з суворым выглядам, падзёр на шматкі апошнюю старонку аповесці, а астатнія ціха зляцелі на падлогу. Пальцы падхапілі яшчэ адну, куды больш тоўстую і пыльную тэчку, пазначаную размашыстым надпісам «Вартавыя граніцы». Гэта была яшчэ адна аповесць — пра тое, як піянеры лавілі іншаземных шпігуноў, — і ў гэты момант у кватэру пазванілі.

— Ваня прыйшоў! — крыкнуў пісьменнік.

Гэткім часам да іх заходзіў трынаццацігадовы ўнук, які жыў на суседняй вуліцы і пасля школы завітваў на абед.

— Якраз крупнік паспеў, — прамовіла ад парога жонка, грукнуўшы дзвярыма.

Унук, не распранаючыся, з насунутым на лабешнік капюшонам курткі, стаў пасярод калідора. У руцэ Ваня трымаў нейкую пляскатую штуковіну, а твар быў асветлены злавесным фіялетавым святлом.

— Чаму не здароўкаешся? — спытаў дзед, і ўнук, не адрываючы вачэй ад штуковіны, няўважна кіўнуў.

— Што там у цябе? — пісьменнік з крэканнем злез з услона.

— Ты што, дзед, не бачыш? Айфон!

— Бачу, што айфон, — буркнуў дзед, хаця і не надта ўяўляў — чым той айфон розніцца ад мабільніка. — Бацька, відаць, прывёз? — Зяць ужо другі год працаваў будаўніком у Маскве і надоечы прыехаў на пабыўку.

— Давай, дзетухна, распранайся. Ды есці ідзі, — падала голас бабуля, і ўнук, перахапіўшы айфон з рукі на руку, з неахвотаю скінуў куртку.

— І што ты там усё пальцам тыцкаеш? — у голасе дзедавым з'явіліся ноткі незадаволенасці.

— «Змаганне з цмокамі-2», — паведаміў унук, і твар ягоны пазначыла злавесная чырвань. — Цмок, відаць, дыхнуў агнём з усіх трох пашчаў.

— І доўга будзеш змагацца з тымі цмокамі?

— На трэці ўзровень перайшоў.

Дзед дакорліва паківаў галавой.

— А колькі ўсяго ўзроўняў?

Унук адказаў не адразу. Хвіліну засяроджана вадзіў пальцам па айфоне — відаць, узніклі цяжкасці ў змаганні з пачварамі, — нарэшце гучна выпаліў:

— Дванаццаць!

— Так цэлы дзень і будзеш пальцам тыцкаць? Ты хаця б кніжку якую прачытаў, — ужо з абурэннем прамовіў дзед.

— Што ты прычапіўся да ўнука? Сам чытай свае кніжкі. Усё жыццё мне імі атруціў, — з нервовай дрыготкай у голасе прамовіла жонка і ўжо лагодным тонам дадала: — Пайшлі, унучак, абедаць. Астыла ўсё.

...На кухні мерна бразгала лыжка аб талерку і чулася нетаропкая гамонка.

— Колькі ж каштуе гэтая твая цацка? — пыталася бабуля.

Унук не адказаў. Відаць, моўчкі таргануў плечукамі.

— А для чаго яна наогул патрэбная? У гулі гуляць?

— Бабуля! — унук вытрымаў дакорлівую паўзу. — Тут процьма розных функцый. Ну, напрыклад... — замоўк, і ў тую ж хвіліну ў пакоі заспяваў мабільны тэлефон.

Дудку даўно ніхто не званіў, таму ён імпэтна падхапіўся з фатэля, пабег, ляпаючы заднікамі пантофляў, да тэлефона і, кераханўшы, пастаўленым голасам выдыхнуў: — Алё-о!

— Дзядуля, гэта я, Ваня! — пачуўся адначас з кухні і з мабільніка вясёлы ўнукаў голас.

Дзядуля ціха вылаяўся, плюхнуўся ў фатэль і зноў утаропіўся ў шыхт рознакаляровых карэньчыкаў. Ягоны калега, Здзіслаў Бубовіч, яшчэ летась вынес з хаты сваю хатнюю бібліятэку. Казаў, адразу дыхаць лягчэй стала. Ды і не ён адзін вынес. Ідучы па двары каля смеццевых кантэйнераў, Янка Дудок часцяком бачыў звязаныя аборкай стосы кніг. Аднойчы нават пацікавіўся — якую літаратуру людзі выносяць з хат. Першай кнігай мятровай даўжыні стоса быў раман «Майстар і Маргарыта». «Вось табе і маеш», — з уздыхам падумаў тады дзіцячы пісьменнік, згадаўшы, як у сярэдзіне сямідзясятых атрымаў на ноч той раман. Нават не кніжку, а размытыя, перазнятыя на капіравальнай машыне «Эра» лісткі.

— Давай, бабуля, я цябе сфатаграфую, — выгукнуў, сёрбаючы крупнік, унук.

— Я, Ваня, не прыбраная. Ты лепш, — голас жончын прыкудліва пацішэў, — дзеда здымі... на чарговы зборнік.

Пісьменнік аддзьмуўся, хацеў быў размяць астэахандрозную спіну, ды тут яза знерухомеў ад зыркай успышкі: унук сфатаграфаваў яго на айфон.

— Зірні, дзед, на сябе!

Дзед глянуў на экран і сам сябе не пазнаў. На яго глядзеў стары корч з шызым носам, заплюшчанымі вачыма і пляшывай галавой, на якой кусціліся рэшткі сівых валасоў.

— Ты, Ваня... гэта... выдалі здымак. Тут я не вельмі ўдала атрымаўся, — прамармытаў дзед, прылашчваючы рэшткі валасоў на галаве і разглядаючы з усіх бакоў айфон.

Штуковіна была прыемная навобмацак і, як ні дзіўна, даволі лёгкай.

— Ну а ёсць тут... — пісьменнік прымружыў вочы, маракуючы — чым бы азадачыць штуковіну, — ...ёсць тут радыё?

— Вядома, ёсць. Навушнікі падключаеш ды слухаеш...

Унук падхапіў айфон.

— А ў цябе, дзед, у дзяцінстве было радыё?

Пісьменнік, пачуўшы такое, напачатку спахмурнеў, але нечакана ў вачах бліснулі гарэзлівыя ясці.

— Было! Зараз яго пакажу!

Дудок з дзіўным для яго імпэтам кінуўся ў спальню.

— Слухай, у нас не захавалася драўляная шпуля ад нітак? — запытаўся ў жонкі, якая якраз сядала да швейнай машынкі.

— Іх ужо даўно не выпускаюць. Але адна, здаецца, захавалася, — паведаміла жонка, поркаючыся ў швейным бардачку.

Схапіўшы шпулю і доўгую нітку, пісьменнік пабег на кухню, знайшоў пустую пушку запалак, прабіў у ёй відэльцам дзірку. Пусціўшы канец ніткі ў дзірку, ён прывязаў з адваротнага боку запалку, а другім канцом ніткі перахапіў шпулю няшчыльнай пятлёй.

— Усё, Ваня, гатова. Мы гэтую штуку «радзівам» называлі. Прыцісні пушку да вуха і слухай.

Дзед нацягнуў нітку, стаў круціць пальцамі шпулю.

— Ну, чутна што?

Унук няўцямна закапыліў вусну.

— А ну, дай я паслухаю, а ты шпулю круці.

У дзяцінстве пустая пушка адзывалася гучным трэскам, а тут толькі ціха шамацела.

— Зразумела, — прамармытаў пісьменнік, не адрываючы пушку ад вуха. — Раней іх са шпону рабілі, таму і добры быў рэзананс. А цяпер з кардону робяць. Таму нічога і не чуваць, — дзед з пакутаю ўздыхнуў. — І этыкеткі былі прыгожыя. Я іх, дарэчы, збіраў. І дагэтуль памятаю запалкавыя фабрыкі, — дзедаў голас прыкметна пажвавеў, — «Пралетарскі Сцяг», горад Чудава, «Гігант», горад Калуга, «Перамога», горад Ніжні Ломаў, Балабанаўская эксперыментальная запалкавая фабрыка...

Пералік спыніла жонка. Убачыўшы, што муж прыціскае да вуха пушку запалак, спрабуючы там нешта пачуць, яна з інтанацыяй панікі вымавіла:

— Зусім стары здзяцінеў.

— А ў цябе, бабуля, было радыё? — запытаў унук.

— Якое там радыё... у нас электрычнасць з'явілася, калі я ў трэці клас пайшла.

— А ў вас што... і інтэрнэту не было? — цяпер ужо з інтанацыяй панікі выгукнуў унук.

Дзед з бабай пераглянуліся.

— Хрушчоў у пушку ад запалак напхаем і слухаем, як яны шкрабаюць. Вось гэта мы «радзівам» і называлі. Маці, памятаю, паглядзіць і жартам пытаецца: «Ну што там кажуць? Новага касманаўта не запусцілі?»

Журлівая ўсмешка збегла з бабіных вуснаў.

— А чаго ты тут папер накідаў? Ці не збіраешся свой хломазд выносіць?

Янка Дудок адчуў раптам лёгкую млосць, і ў яго задрыжэлі рукі. Ён паглядзеў на перакрыжаваную сінім алоўкам старонку, і ў яго ўзнікла палкае жаданне перакрэсліць, — вось так, тлустым крыжам, — усё сваё мінулае жыццё. Пісьменнік падняўся, адсунуў убок жонку, якая стаяла ў праёме дзвярэй, і палез у кладоўку. Доўга там поркаўся, нарэшце выцягнуў вялізны поліэтыленавы мех і рушыў да кніжных паліц.

Першымі ў мех паляцелі дзіцячыя кніжкі, якія ён калісьці напісаў.

— Божухна, нарэшце! — са стогнам прамовіла жонка. — Колькі ж можна дыхаць гэтым пылам?

— Ды памаўчы ты... — не павярнуўшы галавы, азваўся пісьменнік.

Тым часам унук усяго гэтага не чуў і не бачыў. Разявіўшы рот, ён цюкнуў пальцам на айфон, спрабуючы знішчыць трохгаловага базылішка, які ляцеў над зямлёй і пякельным агнём пляжыў навакольле.

# Іржа
## Паэма-гратэск



Юрка ГОЛУБ



Малюнак www.wordpress.com

### Пралог

*Яшчэ не зведалі галечы,*
*Хапала чараў і чарніл,*
*А светлай памяці Гілевіч,*
*Іржы агучваў вырак, Ніл.*

*Паэт, вучоны і аратар*
*Яшчэ і ў «Сказе пра... Гару»*
*Ён праўду нёс, як нёс араты,*
*Або вышэй бяры — Пярун!*

*Іржа за жабры мову брала:*
*Як не пад'южвалі знарок.*
*А кодла ў мовы неба крала*
*Маўляў, а наша хата з краю,*
*І не ў пашане быў прарок.*

*Не дзезерцір. Дабраахвотнік!*
*Да мовы скурай прыкіпеў.*
*Са словаў складваў ён дрывотню:*
*Агонь з яе — іржы капец!*

*Шкада, што нешта не збылося,*
*А тое трапіла ў затор...*
*Вось так па шчэбню ходзіць босы,*
*Пакуль падэшвы не працёр.*

*У нас крадуць усё з размахам:*
*І што ляжыць, і што плыве.*
*Тады ж дае зладзюга маху,*
*Калі без клёпкі ў галаве.*

*Але агулам сцібрыць мову? —*
*Які б знайшоўся б тарбахват?!*
*А тая торба — мабыць, змова?*
*Народ у змове вінават!*

*І гэты тэзіс бонзы неслі*
*Да ўсёй грамадскасці вакол.*
*Асіну выбралі, каб цеслям*
*Часаць з яе вядомы кол.*

### Званары

*Зляталі з неба зоркі чохам*
*І парушалі тым ліміт.*
*Набілі з коптурам панчоху*
*І атэіст, і варажбіт.*

*Сядзяць, як ворагі карупцый,*
*Худы маёр і тоўсты зэк.*
*І толькі піянеру рупіць*
*Падкінуць зернятка ў сусек.*

*На скрыжаванні спрэчак Пленум*
*Зладзеям морды надзіраў.*
*Махаў з трыбуны Бос паленам,*
*А Цэрбер зіркаў пры дзвярах.*

*— Панове! Будзем з аптымізмам*
*Ганяць блыху, знішчаць смурод! —*
*Крычаў прысутным ростам з мізэр,*
*Але грувасткі Калаўрот.*

*— Куды табе з авальным брухам*
*Угнацца следам за блыхой! —*
*Аспрэчыў Дзед і рэзкім рухам*
*Пачэсна рыпнуў на спакой.*

*— Выдатна! — Пляснуліся ладкі*
*Сукенкі з вольным дэкальтэ. —*
*Навошта мне пячы аладкі*
*(На іх, нябось, з вас кожны падкі!)*
*Я зачыняю свой вертэп!*

*Ускочыў Коцік (ён рэдактар):*
*— А на храна змагацца тут?!*
*Вось нашрайбуем па трактату,*
*З трактатам выскачым на тракты,*
*Панішчым такты і кантракты,*
*Пасядзем на траскучы трактар —*
*І бац! Карупцыі капут!*

*Службіст адвечны пры Мамоне,*
*Прамовіў Творца спадцішка:*
*— Карупцыя... Бадай... Адмоўна...*
*Ды ў нас жа тонкая кішка...*

*Прыняў спрасонку за знявагу*
*Прамоўцы слоўны вінегрэт,*
*Узняў свой водгук, як стальвагу,*
*І залу Ёлупень агрэў.*

*— Такім, як Творца, ахламонам*
*Даваць бы выспятка пад зад!*
*Яны ж — хаўрусьнікі Мамоны,*
*І з ёй ім разам адпаўзаць!*

*Ды з крэктам рэкнуў мондры Саўка.*
*Найпачай Гомля прадстаўнік:*
*— Была б карупцыі падстаўка,*
*Калі б рубель раптоўна знік!*

*Дуэтам тэзіс падтрымалі*
*Вінцук з Прынук і Ян з Ашмян:*
*— Даўно мы хабар не каралі —*
*Круты на тое маем план.*

*Заткнуў бы вушы свенты Езус:*
*Ён свет ахвярна ратаваў.*
*Тым планам «гомо грандыёзус»*
*Не толькі б нары шліфаваў!*

*— Зусім забыліся пра дзевак! —*
*Паддзыгнуў Жвавы, нібы ртуць. —*
*Яны ж бандзюгаў без прыпеваў*
*За ноч да ніткі абдзяруць!*

*Змікіціў тут і госць партэра —*
*У чым загвоздка — Генерал.*
*Маўляў, ратуюць свет гетэры*
*За адпаведны ганарар.*

*Убок адсунуцца салдаты:*
*Што возьмеш сёння з маладых...*
*І Генерал (ці не паддаты?)*
*Слязу пусціў амаль услых.*

### Злачынцы

*Тым часам плакала й прырода*
*І нёс зямляча церпкі груз.*
*«Зварот дактрыны для народа»*
*Прыняў карупцый прафсаюз.*

*У пункце «А» — даўжэзны пропуск.*
*У пункце «Б» — задачаў лес.*
*У пункце «В» — звычайна: «Просім...»*
*У пукце «Г» — «Да нас не лезь!»*
*На сходзе экстра-прафсаюза*
*Сябе маркотна пачуваў*
*Вунь той, сілком пасланы Музай —*
*Цярпі цяпер сярод пачвар.*

*Ён выняў зношаны нататнік*
*І дробным почыркам адбіў:*
*«Жыву, братове, дзень астатні,*
*Бо веру ў ісціну згубіў».*

*PS паставіў і дабавіў:*
*«Усё адно куды сыйсці —*
*Туды, дзе з Музай ночку бавіў,*
*Ці рыбку вудзіў у трысці...»*

*І палічыў, што склаў тэстамент:*
*А ты, паскудны часе, згінь!*
*Тут зала, як адзін, паўстала, —*
*Ваяцкі заспявала гімн.*

*«Жыцця хаўрусы — нашы планы.*
*І мы — бы цвёрды маналіт!*
*Як самабранкі, нам паляны*
*Накрые веку нампаліт.*

*Стаяць уверссе страху хмары,*
*Ды з намі час, за намі газ.*
*Па нафце пасвяцца пажары,*
*А наш пажар даўно пагас.*

*Зачысцім мы краіны куфры,*
*Адчынім свой «Таемны» банк.*
*І правадыр залатакудры*
*Залезе на бясшумны танк.*

*Нагострым у патрэбе лёзы,*
*Арда няўлоўных і бамбіз.*
*Паходняй стане новы лозунг:*
*«Цынізм! Цана! Дэцэнтралізм!»*

### Баль

*...А па-за гімнам на пачосты*
*Схапілі тосты ўраз кураж.*
*Тасцілі босы, потым госці —*
*Навідавоку раж і стаж.*

*Успаміналі краты й страты...*
*Праз пень-калоду разам з тым*
*Запісваў тое ў свой нататнік*
*Вышэй названы Ананім.*

*А першым мовіў Еч, патомны*
*Прайдоха, зух не па гадах,*
*І асцярожна ўсім напомніў:*
*«За тайну вып'ем, гаспада!»*

*Узнік з загадкай-тостам Рэбус.*
*(Мянушцы ўстык адпавядаў.)*
*«Сабе цішком лічу я рэбры...*
*Дык хляснем, бык яго бадай...»*
*І ў Трутня слова засвярбела*
*(Лайдак чужое, пэўна, згроб.)*
*— Кульнём за ўсё, што набалела... —*
*І безнадзейна ўшчэнт захроп.*

*— Уздымем чаркі супраць року:*
*Не спыняць цюцькі караван! —*
*У бутлю ўпёрся Шулер вокам,*
*А тосцік вытрас з рукава.*

*Няздольны цалкам пагаліцца,*
*Да тостаў яўна не прывык,*
*Са смакам вылаяўся Гіцаль*
*І прыкусіў сабе язык.*

*Ды Гіцля выручыў Тутэйшы:*
*Адно відно, што не з гразі.*
*Яго бяры ў Савет Старэйшын —*
*І там ён будзе на мазі.*

*Дык вось узяў Тутэйшы келіх,*
*Прыцішыў кашаль і па-а-нёс:*
*— Навошта нам, панове, кельмы*
*У час для нас на грош пякельны?*
*У нас рэжым амаль пасцельны.*
*Навошта трацічца на знос?*

*Я тост, як люльку, доўга нянчыў.*
*Скажу — нарэшце даканаў.*
*Давайце вып'ем — не іначай! —*
*За ўсёй карупцыі фінал!*

*Распусцім сённяшнія штаты:*
*Каго ў замежжа, хто ў турму...*
*Бо нашы штаты ўжо кашлаты,*
*Дый, відавочна, сам пампу.*

*І не маркоцьцеся, панове,*
*Маўляў, які ён быў мудак!*
*Лаўлю сябе на чэсным слове —*
*На лес глядзіцца маладняк!*

### Вынік

*... Грымела вусцішная ціша...*
*А дворнік зоркі падмятаў.*
*З інфарктам пляснуўся кілішак,*
*Дзе людцы «гінуць за метал».*

*А лёс былога Ананіма*
*Ці ў рамку ўклеіла «Звязда»?*
*Ды не!*
*Прабег балесны міма*
*І ў банк «Таемны» булу здаў.*

*А лёс карупцыі? Трывалы!*
*Як плот, даляр і дурап'ян!*
*Яе рашуча падтрымалі*
*Нябёсы.*
*Мора.*
*І ў ААН.*

# Светлая элегія



Васіль ЖУКОВІЧ



## 1. Чырвовая Дама

Напрадвесні 1971 года ў Менску, у рэдакцыі адной з рэспубліканскіх газет з'явіўся новы літкансультант Максім Жаваронак, дваццацівасьмігадовы чалавек, высокі, стройны, з сінімі вачыма, пшанічнаю шавялюраю і з чорнымі, быццам падфарбаванымі, бакенбардамі.

Чымсьці ён, гранічна сціплы і далікатны, прывабліваў прыгажуняў. І не толькі тады, як асталяваўся ў сталіцы, а й нашмат раней, калі яшчэ вучыўся ў сельскай школе побач з векавечнаю дубровай. Многія дзяўчаты пры спатканні з ім чамусьці густа чырванелі. У школе ён, васьмікласнік, падабаўся дзесяцікласніцы Валі Рэзьнічак. Яе сяброўства з яго старэйшаю сястрой Янінай давала магчымасць ёй часта прыходзіць да Жаваронкаў. Аднаго разу, калі яна завітала да іх, дома быў толькі Максім. Валя ў яго папрасіла дазволу дачакацца Яніну, а калі прымасцілася ў крэсле каля стала, то звярнула ўвагу на альбом, які ляжаў на стале. Максім узрадаваўся, што яна зацікавілася ягоным альбомам, бо не ведаў, пра што з ёю гаварыць. Хлопец падаў ёй у рукі па сутнасці самаробны, аздоблены малюнкамі і фатаграфіямі зборнік упадабаных ім вершаў, цытатаў знакамітых творцаў і любімых песняў. Валя ўважліва чытала альбом, назвала яго змястоўным і прапанавала занесці туды сваёю рукою словы песні, якая часта гучала ў выкананні Клаўдзіі Шульжэнка. Дзяўчына пастаралася вельмі проста заінтрыгаваць юнака:

— Прачытаеш, калі я пайду дамоў.

Увечары Максім прачытаў песню і перачытаў радкі першага куплета «Но глаза твои большие // Не дают покоя мне» ды апошняга: «С этим что-то делать надо, // Надо что-то предпринять». Намёк яму быў зразумелы.

Наступная сустрэча з Валяю, нечаканая і мімалётная, адбылася перад званком на ўрок у школьным калідоры. Тады, загадкава ўсміхаючыся, яна сказала:

— Ты сёння так падобны на Кадачнікава!..

Максім ведаў: Павел Кадачнікаў, той самы, што спявае пра «милые сердцу глаза», — яе любімы артыст... Юнак саромеўся старэйшае за сябе дзяўчыны, таму ніяк не адказаў на яе намёкі.

А новае спатканне з Валянцінай аказалася незвычайнае. Калі яна прыйшла ўвечары да Яніны, Максім ужо сабраўся ісці на поле да сцірты па салому, — пасылала маці. І тут сястра ўгаварыла яго ўзяць з сабою сяброўку, маўляў, смялей і весялей будзе...

Надзіва цёплы ўдаўся той месячны вераснёўскі вечар, але настрой у хлопца быў зусім не рамантычны. Не таму што ён ішоў па салому, а таму што ведаў (па ўсёй школе імгненна пракацілася пагалоска): Валю заманіў школьны дырэктар, жанаты, пажылы, пузаты, які ў вачах юнака здаваўся пачвараю. І тое, што яна легла пад тую тушу, ён успрыняў не толькі як факт амаральны, а яшчэ і як здраду яму, Максіму, каму яна, хоць і намёкамі, не так даўно прызнавалася ў каханні... Ён не разумеў, як яна пасля падзення ідзе з ім, бы нічога і не здарылася. Крочыў моўчкі па даволі высокай пожні. Абуты быў у рабочыя боты, у якіх хадзіў у лес па грыбы, а што ў яе на нагах, ён не глядзеў. Валя старалася не адставаць ад Максіма, ды ўсё ж крыху не паспявала.

— Чаму ты, Максімачка, маўчыш? — ласкава пыталася яна.

— Такі ўжо ўдаўся маўклівы.

— Мо які настаўнік пакрыўдзіў? — дапытвалася.

— Не, — буркнуў ён, хоць і хацеў сказаць, што пакрыўдзіў дырэктар, каб яна зразумела, што ён ведае пра ганьбу...

Калі падышлі да сцірты, Максім паклаў на зямлю вяроўку і збіраўся з ходу скубці салому, але Валя, як бы не разумеючы яго раздражнёнасці, папрасіла:

— Я стамілася, давай трошкі пасядзім.

Яны прыселі каля сцірты. Даволі ярка на небе свяціла поўня.

— Як ты думаеш, Макс, — нечакана спытала Валя, — ці хутка паляцяць касманаўты на іншыя планеты, напрыклад, на Месяц?

— А што там рабіць?

— Што ты, Макс! — здзівілася яна. — Гэта не толькі цікава, а і карысна. Касманаўтыка — навука перспектыўная.

Яна ўсміхалася, і ззянне вачэй пры месячным святле, і завіточкі русых валасоў вакол твару, і ямачкі на шчоках, і высокія грудзі, — усё нібыта гаварыла: «Бяры мяне, бяры! Я ўся твая!» Адно вусны сказаць такое не змаглі. А ведала б яна, як у хлапечых жылах кіпіць кроў ад жадання звездаць тое, чым так хваляцца сэрцаеды, і тое, як часта па начах яму сняцца дзяўчаты, то, пэўна, сама пачала б яго цалаваць, лашчыць. І тады ён бы забыўся на цяжкую крыўду і быў бы ўцягнены ў вір, з якога нялёгка выбрацца... Магчыма, не так ужо й марыў бы спаткаць каханую, бо прывык бы забаўляцца ёю, маладзічкаю. А мо і пакахаў бы яе, хто ведае...

Ад сцірты яны ішлі разам толькі да сяла. Разышліся і больш ніколі не спаткаліся. Так сталася, што назаўтра хата Рэзьнічкаў згарэла, і сям'я неадкладна выехала кудысь далёка да блізкіх родзічаў. Зрэшты, у школе прайшла чутка, быццам выехалі пагарэльцы ў Расію, і Валя там выйшла замуж за лётчыка.

У дзясятым класе прыязныя ўзаеміны ў Максіма завязаліся з аднакласніцай Нінай Жыгалковіч. Яна яго вучыла граць на гітары, а ён яе — у шахматы. Ніна, чыстагалосая і эмацыйная, любіла спяваць народныя песні і рамансы. Смелая на сцэне, сціплая і стрыманая ў адносінах да людзей, яна падабалася Максіму, ды ён не ведаў, як назваць пачуццё да такой прыемнае дзяўчыны. Узрадаваўся, калі ў Адама Міцкевіча знайшоў радкі, якія выказвалі аналагічную няпэўнасць стасункаў паміж хлопцам і дзяўчынаю: «Czy to jest przyjaźń? Czy to jest kochanie?». Максім нярэдка бавіў час у Ніны, то паказваючы ёй эфектныя камбінацыі ў шахматных кампазіцыях і партыях, то слухаючы яе спевы і пад гітару, і акапэльна, то любуючыся, як яна прыбірае ў хаце, як чыста мые падлогу, завіхаецца ля пліты... Іншы раз ён сам не заўважаў, як затрымліваўся ў яе ўтульнай хаце дапазна. І ніколі з яе боку не было аніякіх намёкаў на тое, што час позні і развітвацца пара. Можа, Ніна чакала ягоных абдымкаў ды пацалункаў? Мо нават і аддалася б, каб да сэрца прыгарнуў, прылашчыў. Але Ніна была круглая сірата, і ён баяўся яе пакрыўдзіць: жаніцца да вучобы ў інстытуце яму было рана...

А ў інстытуце ў адной групе з ім вучылася Ярына Бохан. З шасці аднагрупнікаў-арлоў ёй у сэрца запаў адзін — Максім Жаваронак. Яна дзівавалася, чаму ён не звяртае ўвагі на яе, такую ж сінявокую, як і ён сам. Гэтую недарэчнасць яна надумала рашуча выправіць і паклікала яго ў парк на спатканне. Хтосьці іншы неадкладна скарыстаў бы такі зручны момант: заманіў бы дзяўчыну ў ложак ці ў лес. Хтосьці, але не Максім. Блізкія адносіны з дзяўчынаю ён па-ранейшаму дапусціў бы толькі пры ўзаемным каханні. Аднаго Ярынінага кахання тут аказалася мала — ён, чырванеючы больш за дзяўчыну ад хвалявання, адмовіў ёй ва ўзаемнасці. Нібыта ведаў, што неўзабаве ў гэтым жа інстытуце спаткае Любу, закахаецца і ажэніцца.

Але каб дайсці да шлюбу, ён мусіў паклапаціцца пра заробкі. Пакуль не перавёўся на завочнае аддзяленне і не ўладкаваўся на працу ў рэдакцыю раёнкі, разгружаў вагоны... А пасля вяселля маладажоны жылі на прыватнай кватэры. Нездарма людзі кажуць: «Закаханым рай і ў будане». Люба хутка зацяжарыла. Нарадзілася дачка.

Неўзабаве яму далі аднапакаёўку, можна сказаць, дапатопную, без паравога ацяплення, са старою грубкаю, якая за зіму з'ядала не адну тону вугалю, затое — амаль у цэнтры горада. Калектыў рэдакцыі падарыў на ўлазіны круглы стол і чатыры крэслы. Шафу Максім купіў сам, халадзільнік выйграў па латарэйным білеце, і жыццё яму часта пачынала здавацца ледзь не раем.

А працавалася Максіму цяжка. Сельгасаддзел, які ён узначальваў, з'яўляўся галоўным. Даводзілася ў кожны нумар здаваць па пяцьсот і болей радкоў. А што да ягоных заробкаў, то іх бракавала яго маленькай сям'і нават на харчы і на пялюшкі для дзіцяці. Ды якраз у гэты час у яго адкрылася другое дыханне: вечарамі, а часам і начамі ён пачаў ствараць вершы, пісаць нарысы, рэцэнзіі, артыкулы; яго паэтычныя і крытычныя творы, а тым больш журналісцкія рэчы ўсё часцей з'яўляліся і ў абласным, і ў рэспубліканскім друку. Яму тэлефанавалі з рэдакцыяў газет і часопісаў, сёе-тое замаўлялі — чакалі новых твораў. Адусюль ішлі ганарары, імя набывала вядомасць, поспехі падбадзёрвалі і натхнялі. Сенсацыйнай з'явілася ягоная кніга паэзіі: вядомыя паэты і крытыкі выступілі з рэцэнзіямі на яе. І ўсе высока ацанілі неардынарнае выданне, яго змест. Многія з іх прапанавалі аўтару свае рэкамендацыі для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў. Праз пару месяцаў ён быў прыняты ў пісьменніцкую творчую суполку.

Максіму Жаваронку пачало ўсё болей шанцаваць: у тым жа годзе, калі дачка пайшла ў школу, ён у новым доме атрымаў двухпакаёўку і быў запрошаны працаваць на студыю тэлебачання. Не прайшоў і год, як ім зацікавілася сталіца... У Менску адразу даў абвестку пра абмен свайго жытла ў абласным цэнтры на аднапакаёўку ў сталіцы, часова пасяліўся ў кватэры жончынае цёткі, уладкаваўся на працу і з першага дня, закасаўшы рукавы, узяўся за справу. Хоць галоўны рэдактар і паставіў умову: плаціць кожны месяц будзе не больш як за сто дваццаць лістоў-адказаў аўтарам, новы спецыяліст ажывіў рэдакцыйную пошту настолькі, што акрэсленую лічбу перавышаў удвая і нават больш. Пры гэтым не дапускаў абыякавага стаўлення нават да самых слабых літаратараў-пачаткоўцаў, а цярпліва тлумачыў ім, чаму пакуль немагчыма надрукаваць прапанаваныя творы, заўсёды знаходзіў і называў найбольш удалыя радкі. Ён увёў у практыку рэгулярную публікацыю аглядаў паэтычнае пошты. З лепшых вершаў рыхтаваў да друку літстаронкі і літаратурныя куткі. У выніку ўвачавідкі рос ягоны аўтарытэт.

Да Максіма ўсё часцей пачала падыходзіць у кабінет сімпатычная, з густам апранутая супрацоўніца з пытаннямі, якія датычыліся, як правіла, вершаскладання, формы вершаў. То яе цікавіла, што такое рандо, то ёй карцела даведацца пра тэрцыны. Літкансультант не пытаўся, навошта ёй гэта патрэбна, а спакойна стараўся задаволіць ейную дапытлівасць. Чырвовая Дама, як ён яе ўпотай акрысціў, кожны раз яму дзякавала з усмешкаю на вуснах і ў вачах. А аднаго разу, пры падобнай сустрэчы, запрасіла ў госці на абед.

Максім пайшоў з загадкаваю Чырвоваю Дамаю. Дом, у якім яна жыла, знаходзіўся пабач з рэдакцыяй, на адзіным тады ў горадзе праспекце. Дзверы ім адчыніў гаспадар, які выглядаў гадоў на дваццаць пяць старэйшым за гаспадыню. Поціск яго потнай рукі Максіму падаўся вялым, як, зрэшты, і голас. Пакуль мужчыны знаёміліся, мылі рукі, праходзілі ў залу, увішная гаспадыня хутка застаўляла стол багатымі стравамі, напоямі, садавінай.

За полуднем гаспадары цікавіліся працаю госця ў рэдакцыі, увогуле яго жыццём, сям'ёю, распавядалі коратка пра сябе. Аказалася, што ў сямейнае пары няма дзяцей. Як толькі гаспадыня адлучылася на кухню, каб прыгатаваць каву, яе муж збянтэжана звярнуўся да сумоўцы:

— Мы хочам мець дзіцё. Разумееце? — І, умольна гледзячы

госцю ў вочы, дадаў: — Нам патрэбны мужчына... Разумееце? Яна ўпадабала... вас.

Максім імгненна заліўся чырванню. Тое, што ён пачуў, магло з'явіцца сном ці эпізодам з рамана, эратычнага фільма або спектакля. Аднак гэта была рэальнасць: мужчына прасіў памагчы яго жонцы зацяжарыць. Сямейная пара не ўяўляла, што зусім нечаканая прапанова аніяк не стасавалася з жыццёвымі перакананнямі Максіма, з яго мараллю і эстэтыкай.

Максім Жаваронак чалавек быў занадта далікатны, каб з ім абмяркоўваць такую гарачую праблему, толкам нават не пазнаёміўшыся. І ў той жа час ён, чулае маючы сэрца, спачуваў людзям, асабліва жанчынам. І калі б яму паступова, пры новых сустрэчах, муж газетчыцы ўводзіў у вушы трывожную думку, што для ягонае жонкі страшная пакута і трагедыя — не мець дзіцяці, ды яшчэ каб прыдумаў, быццам з прычыны яго бяздзетнасці справа даходзіць да разводу (не выключана, што так яно і насамрэч было), то Максім пранікся б жалем да нешчаслівае сям'і і, магчыма, зрабіў бы рашучы мужчынскі крок... А можа быць, муж і не павінен быў паказваць госцю на вочы, з'ехаў бы кудысьці з дому... А ў тую хвіліну Максім успомніў пра жонку і дачку, падумаў з пяшчотаю: «Як яны там?» І пакуль гаспадыня прынесла каву, за яе гасцінным сталом наступіла развязка: госць папрасіў прабачэння ў чалавека, абцяжаранага складанаю задачай, і развітаўся.

Надышла вясна. Хутка сышоў снег. На дрэвах з'явіліся пупышкі, а на рынку — пяшчотныя пралескі. Са зменай у прыродзе супалі змены ў Максімавым жыцці: адзін яго ўплывовы зямляк памог яму пасяліцца ў інтэрнаце, у цэнтры сталіцы, а сваю пасаду літкансультанта Максім змяніў на пасаду выдавецкага рэдактара...

## 2. Ларыса

Звычайна па суботах ён пакідаў сталіцу, сваё новае месца працы, каб пабыць з сям'ёй у родным горадзе. Вельмі даспадобы яму было кожны раз пасля начнога цягніка спаткаць на парозе кватэры і абняць ласкавую і цёпленькую — з пасцелі — жонку і палюбавацца соннаю дачушкаю, яе чорнымі вейкамі, раскрыленымі брывамі і светлымі, амаль аўсянымі валасамі. Не мог ён доўга не бачыць іх — непрывычна было, сумна. Калі ў яго бракавала грошай, браў у знаёмага студэнта пасведчанне, купляў ільготны квіток. У свае амаль трыццаць Максім выглядаў як юнак і не выклікаў падазрэння не толькі ў праваднiцы, а і ў суровых кантралёраў, калі іншы раз яны з'яўляліся.

Тая субота сталася выняткам з правіла: Максім дамоў не паехаў, бо, згодна з графікам, ён павінен быў у панядзелак здаць у карэктарскую рукапіс аповесці аднаго маладога аўтара. Твор аказаўся недасканалы, бедны моваю і багаты памылкамі, стылявымі агрэхамі, неахайнасцю пісьма, што вымагала шмат карпатлівай рэдактарскай працы. Словам, яму не хапіла яшчэ двух дзён. Таму папку з аповесцю ўзяў з сабою ў інтэрнат. Цэлы суботні дзень даводзіў да кандыцыі сыры твор. А пад вечар, калі расслабіўся на ложку і ўжо ледзь не задрамаў, раптам пачуў, як па калідоры зацокалі абцасікі і як іх цоканне, набліжаючыся, узмацнялася, пакуль не замёрла ля дзвярэй ягонага пакоя. У той жа момант загадкавая асоба рашуча пастукала чучкаю ў дзверы.

— Калі ласка, — выразна сказаў Максім, падхопліваючыся з ложка і прыгладжваючы шавлюру.

У пакой увайшла юная мілавідная бландзінка, такая маларослая, што яе слаба выручалі высокія абцасы модных ботаў.

Дзяўчына апынулася ў спакойным святле сонца, якое, ідучы да ліній гарызонту, зазірнула ў вакно і кінула развітальныя промні аж на дзверы пакоя. Яна павіталася. Шчырая ўсмешка ўзмацніла бляск яе вялікіх блакітных вачэй і на імгненне паказала роўныя белыя зубы. Яе кароткая прыталеная ружовая сукенка падкрэслівала зграбную постаць, агаляла вышэй каленяў стройныя ножкі.

Максім пасля жаніцьбы, заняты сямейнымі і творчымі клопатамі, працяглы час увогуле не бачыў дзяўчат, а падобнае красуні не даводзілася бачыць ні ў кінафільмах, ні ў сваіх даволі частых каляровых снах. Ён узрадаваўся нечаканым спатканнем, зацікавіўся незнаёмкай, падышоў да яе і ў адказ на вітанне сказаў:

— Будзем знаёміцца?

Яе маленькая і пяшчотная рука, падобная на дзіцячую, патанула ў яго шырокай мужчынскай далоні. Ён назваў імя сваё.

— Ларыса, — сказала яна з усмешкаю. Максім нейкі момант стаяў як загіпнатызаваны перад вечароваю госцяю: ён убачыў у ёй чыстае суладдзе. Да светлага твару і ясных вачэй пасавалі ў меру кучаравыя і ў меру пышныя залацістыя валасы. Штосьці анёльскае было ў дзявочым абліччы і голасе.

— Праходзьце і сядайце, — нарэшце сказаў Максім.

Ён не запытаў, што прывяло яе да яго.

Дзяўчына кароткімі, але энергічнымі крокамі прайшла да крэсла ля стала, размешчанага ў кутку пакоя, і села. Максім прысеў на краі ложка, насупраць юнае госці.

— О, мая стыхія! — усклікнула яна весела, паказваючы на друкавальную машынку, што стаяла на стале.

— Вы — машыністка?

— Яна самая, — гэтак жа весела адказала яна.

Максім, працягваючы знаёмства, даведаўся, што Ларыса год таму скончыла ў Валожыне школу і працуе машыністкаю ў абкаме камсамола. Завочна вучыцца на першым курсе ўніверсітэта. Любіць літаратуру і музыку.

Ён нахіліўся да дзяўчыны і пацалаваў яе ў вусны, пасля падхапіў на рукі, моцна прытуліў да грудзей, пакружыў яе, як дзіцё, зноў пацалаваў і пасадзіў на тое ж месца.

— Ну, што ж ты?..– з ноткаю непаразумення сказала яна; на яе шчочках успыхнуў пяшчотны румянец.

Максім не ведаў, што Ларысу пасялілі ў адным пакоі з дзвюма цэкоўскімі работніцамі, якія мянялі палюбоўнікаў часцей, чым мяняюць пальчаткі, і не саромеліся часам у яе прысутнасці познім вечарам задавальняць сябе з чарговымі кавалерамі. Не ведаў ён тады і пра тое, што падчас розных моладзевых фэстаў, урачыстасцяў гэты інтэрнат засялялі камсамольцамі і камсамолкамі, і тады вечарамі і начамі рытмічна скрозь парыпвалі ложкі, чуліся гучныя гамонкі, воклічы, салодкія стогны...

Пасля знаёмства з Ларысай Максім ведаў, што ў яе нікога, апроч яго, няма, і яму прыемна было бавіць з ёю вольны час, хоць такога часу выпадала малавата. Ён разумеў, што ёй, першакурсніцы, цікава з ім пагаманіць пра кнігі да іх аўтараў, пра фільмы і артыстаў, пра музыку і кампазітараў. Да таго ж ён памагаў ёй рыхтавацца да сесіі. Прытуліўшы сваёй бескарыслівай увагаю дзяўчыну да сябе, ён стараўся як даўжэй ахоўваць яе ад выпадковых інтымных сувязяў, ёй жа карцела хутчэй паспытаць забаронены плод. Аднаго разу, у дзень іх загараднага адпачынку, на ўскрайку лесу, калі з кроны старога дубу даносіўся салаўіны пошчак, дзяўчына абняла Максіма, стаўшы на дыбачкі, і сказала, як выдыхнула: «Я табе ўсё-ўсё аддам, толькі пачакай...»

Такі момант з'явіўся, калі Максім святкаваў дзень нараджэння. Запрошаная ім Ларыса падаравала яму раскошны букет ружаў. Лёгка чыталіся ў яе валошкавых вачах радасць і пачуццё адданасці. Выпітае за святочным сталом віно абодвух падштурхоўвала на грэх. Мімаволі Максім апынуўся з дзяўчынаю на ложку, лашчыў-мілаваў яе, распранаў, але яна сваёй пяшчотаю, маленькім ростам, залатымі пасмамі валасоў і нават голасам і смехам раптам нагадала ягоную дачку, і ён, як бы сваёй дачцэ, сказаў ціха: «Не спяшайся, дзетачка... Прабач, міленькая! Я табе жадаю шчасця».

Яна хутка падхапілася, нервовымі рухамі рук на маленькія грудзі нацягвала станік, зашпільвала лёгкую, як паветра, кофтачку... Максіма пакінула моўчкі.

На другі дзень Максім у інтэрнацкім калідоры сустрэў Ларысу не адну — яна вяла ў свой пакой капітана-вайскоўца. Твар у яе быў зхуднелы і бледны.

З той пары ён яе больш ніколі не бачыў.

Праз два тыдні яму ўдалося абмяняць сваю правінцыйную кватэру на менскую аднапакаёўку і перавезці ў сталіцу сваю сям'ю...

## Замiж эпілогу

Максім распавёў мне пра маладыя гады жыцця, пра ўсе гэтыя гісторыі, будучы ў сталым узросце, калі мы з ім пазнаёміліся і пасябравалі.

— Як бы хацеў я хоць на якую часінку вярнуцца ў маладосць! — сказаў ён, правёўшы даланёю хударлявае рукі па негустых валасах, — ды спаткацца з тымі дзяўчатамі і маладзіцамі, міма чыіх лёсаў прайшоў, — з Ларысай, Чырвовай Дамай, Ярынай, Валянцінай... ды й цяпер з вялікай радасцю спаткаў бы. Ведаць бы, што ўсе яны жывыя і што жыццё не зашмат біла кожную з іх! Цяпер усе яны мне мілыя.

Я ківаў галавою ў знак згоды. А ён прадоўжыў сваю гамонку з нечаканым паваротам:

— Зрэшты, можа, не так ужо й радасна было б убачыць іх пастарэлымі ды нямоглымі. Важна іншае... тое, што яны — не знічкі ў небе маёй памяці, а светлая мая элегія.

**2012, 2013 гады**

**Максім імгненна заліўся чырванню. Тое, што ён пачуў, магло з'явіцца сном ці эпізодам з рамана, эратычнага фільма або спектакля. Аднак гэта была рэальнасць: мужчына прасіў памагчы яго жонцы зацяжарыць. Сямейная пара не ўяўляла, што зусім нечаканая прапанова аніяк не стасавалася з жыццёвымі перакананнямі Максіма, з яго мараллю і эстэтыкай**



Ірына ДУБАШЫНСКАЯ

***

*Гавару на адной,*
*А тужу па другой.*
*Ужываю адну,*
*А надзею другой сустракаю.*
*І на ёй я, толькі на ёй,*
*На сваёй*
*Сваё шчасце гукаю, гукаю.*

***

*Надакучылі паўторы*
*Ў думках уласных і ў жыцці.*
*Як пасрэдныя акцёры*
*На прэм'ерным адкрыцці.*

*Хто зірне, а хто паўстане?*
*Нас, цярплівых, вельмі шмат.*
*Ці ж не зробім намаганне*
*Выбраць лепшы варыянт?*

***

*Няўдалае лета...*
*Дажджы ды вятры*
*З якога сусвету*
*Занесла сюды?*

*Ці нечыя стогны*
*Самотныя болю*
*Надзей верагодных*
*На скорую волю.*

*Няўдалае лета...*
*Дажджы ды вятры*
*З якога сусвету*
*Занесла сюды?*

***

*А ўсё ж такі застаўся след*
*ад гэтых бед.*
*Калі б не Боскае святло,*
*Хвораму б сэрцу не пражыць.*
*Яно дрыжыць: «Ці трэба жыць?»*

*«Напэўна трэба!» —*
*Адкажа Неба.*

*У кольких гора*
*Бясконца, мора.*

*Ды й лёгкім поступам, бадай,*
*Не ўвойдзеш ў Рай.*

*Прашу я Госпада:*
*«Руку мне дай!»*

***

*Я малюся, я малюся,*
*Бо маланкі я баюся.*
*Пасячэ, пасячэ.*
*І хутчэй, і мацней*
*Я малюся і журуся.*
*Моцы Божай я дзіўлюся.*
*Думачка хвалюе:*
*«А ці пашкадуе?»*

# Разумею, чаму — «шэдэўр»...

*Падайце мне руку, пакуль прашу.*
*Пачуйце дабрынёй, пакуль заву,*
*Пакуль мне думка светліць*
*галаву*
*І смутак узвышае мне душу.*
*І зрок лагодзіць зоркі і траву...*
*Заўважце вы мяне...*
*пакуль жыву...*
*на запаветным піку,*
*стаіць другі чалавек,*
*працягвае руку*
*і гаворыць:*
*«Вітаю цябе!*
*Я твой друг,*
*сапраўды верны друг.*
*Скончана твая адзінота».*

Янка Брыль натрапіў на гэты мой верш і сказаў Ірыне Жарнасек: «Прачытаў шэдэўр Марыі Баравік...». Ірына паведаміла мне. Я разумею, чаму — шэдэўр. І вось сёння сталі ў радкі словы:

*Дык няўжо даўно няма Брыля?*
*Не садзіцца побач ён, каля?..*

...Няўжо і Барадуліна, і Бураўкіна, і Гілевіча...

Знутры гаворыць Анатоль Ільіч Вярцінскі:

*Жылі-былі.*
*Словы гучаць эпітафіяй.*
*Жылі-былі.*
*І адышлі, адплылі.*

І засталіся ў слове, для прыгажосці... пры гожасці, годнасці, прыстойнасці. І каб слова ляцела ў будучыню. А слова не чытаюць?..

Сёння якраз агортвае «туга па прыгажосці» і па ўсім, што робіць чалавека чалавекам. «Пытаўся — не чуў адказу», — кажа Анатоль Ільіч. Ён не мараліст. Пры абсалютным разуменні з'яў, рэчаў застаецца стылёва-запытальным. Разумная філасофія душы адкрыта дакранальная. Паэт дзеліцца сваім уражаннем, уяўленнем, намерам — разуменнем.

*...Чалавек узнімаецца ўгору —*
*на жаданай вяршыні,*
*да запаветнага піку.*
*Нарэшце ўзняўся.*
*А на вяршыні,*

Той, хто раней падняўся, вітае сустрэчнага. І шчыра. Ён не думае, як спіхнуць з вяршыні, каб красавацца там аднаасобна. Бо аднаму і на вяршыні якая радасць? І што істотна: ва ўзяцці вяршыні неабходна добрая самасць, выпрабаванне сябе асабістай сілай, намаганнямі. «Марудна, але няўхільна, крок за крокам, ступенька за ступенькай». Пэўна без чужой рукі, якая дапамагае — усцягвае. Толькі тады сапраўднае задавальненне, радасць, плён. Ад перамогі. І першы, калі вітае, значыць, таксама ведае цану шляху...

У вершах Вярцінскага — мудрасць на ўсе выпадкі жыцця. І ўся яна пад знакам любові.

Для ратавання ад тугі — згадай верш «Выхад з тупіка», адвярніся ад сцяны ў сне... Спакой знайдзі ў цярпенні, пакуль не асядзе каламуць. У філасофіі паэта і Праметэй з Гефестам, і непраметэі, і разважанні пра ўкусы камароў, і пра тое, што сніцца курам, і пра малітву ў гасцях, і шмат-шмат пра што і пра каго ў жыцці. Пра ўсё на шляху, ахопленае тонкай, дасканалай аналітычнай думкай і ў аб'ёме пражытага і перажытага. З крэдам: знайдзіся ў святле, з дэвізам: давай уважліва глянем!..

Мне як жыць з «высокім небам ідэалу» ў Падсвіллі, калі не сказаць пра гэта бліжняму чытачу? Можа, ён не такі ўжо і дундук?..

**Марыя Баравік**

# З «Начных нататак»

## Дзіцячы катэхізіс

**Меў задавальненне і гонар паўдзельнічаць у складзе невялікай беларускай дэлегацыі ў канферэнцыі па праблемах дзіцячай літаратуры і культуры Балтыйскага рэгіёну. Арганізаваў і правёў мерапрыемства найперш Балтыйскі цэнтр пісьменнікаў і перакладчыкаў у горадзе Вісбі, што на шведскім востраве Готланд.**

Часам разумеліся з суседзямі досыць лёгка і прыязна, але бывала і так, што скандынавы нібыта экраніраваліся, усправалі нашыя праблемы і турботы дазіравана, толькі да пэўнай ступені. Затое дазналіся й мы пра некаторыя вельмі цікавыя інавацыі ды ініцыятывы.

Да прыкладу, палякі, а дакладней polькі, расказалі, раздалі шмат матэрыялаў (ліставак, брашур, кампакт-дыскаў), якія знаёмілі з агульнанацыянальнай праграмай «Cala Polska czyta dzieciom» («Уся Польшча чытае дзецям»). Сутнасць яе палягала ў тым, што бацькі мусяць знаходзіць мажлівасці і час, каб штодня ўголас чытаць сваім дзецям кніжкі хаця б па дваццаць мінут. Няцяжка ўявіць, як такое чытанне дапамагае ўмацоўваць сям'ю, наладжваць цёплыя і лагодныя адносіны паміж бацькамі і дзецьмі. Больш за тое, акцыю актыўна падтрымліваюць, прапагандуюць такое чытанне польскія знакамітасці — літаратары, дактары, палітыкі, спартоўцы, грамадскія дзеячы...

А вось адны з гаспадароў — Шведская Акадэмія дзіцячай кнігі разам са Шведскім Інстытутам прывезлі брашурку, выдадзеную на некалькіх мовах рэгіёна. Гэты своеасаблівы катэхізіс «Сямнаццаць прычынаў чытаць дзіцячыя кніжкі», аздоблены малюнкамі знакамітага пісьменніка і мастака Свэна Нурдквіста, дае вычарпальныя, часам ледзь іранічныя адказы:

1. Кніга — гэта ўцеха і прыгода. Яна можа прымусіць нас плакаць і смяяцца. Кніга можа суцешыць і падказаць выйсце са складанай сітуацыі.
2. Кніга развівае нашу мову, пашырае наш слоўнікавы запас.
3. Кніга абуджае нашу фантазію і вучыць мысліць вобразна.
4. Кніга спараджае ў нас новыя пытанні, над якімі варта задумацца.
5. Кніга развівае наша мысленне. З яе мы спазнаем паняцці, якія дапамагаюць нам мысліць, і новыя ідэі. Яна пашырае гарызонты нашага свету.
6. З кніг мы дазнаемся пра іншыя краіны, хто, дзе і як жыве, пра прыроду, тэхніку, гісторыю, — пра ўсё на свеце, што нас цікавіць.
7. Кніга вучыць нас суперажываць. Яна дазваляе нам адчуць сябе на месцы іншага чалавека і зразумець, што ён адчувае.
8. Кніга заахвочвае нас задумацца пра тое, што правільнае, а што памылковае, што добрае, а што кепскае.
9. Кніга вытлумачвае нам, як уладкаваны свет і як у ім усё знітавана.
10. Кніга адкрывае нам, што на адно пытанне можа быць некалькі адказаў і што любую праблему можна разглядзець з розных бакоў.
11. Кніга дапамагае нам зразумець саміх сябе. Ты больш упэўнены ў сабе, калі ведаеш, што ёсць людзі, якія думаюць і адчуваюць гэтаксама, як і ты.
12. Кніга адкрывае нам, што ўсе людзі розныя. Калі чытаеш кнігі, напісаныя ў розныя эпохі і ў розных культурах, ты робішся больш памяркоўным і вучышся пераадольваць забабоны.
13. Кніга — добры сродак ад адзіноты. Яе можна чытаць дзе заўгодна. Кнігі можна бясплатна ўзяць у бібліятэцы.
14. Кніга — частка культурнай спадчыны. Яна дорыць нам супольнасць уражанняў і ведаў.
15. Добрую дзіцячую кніжку хочацца чытаць уголас. Такое чытанне прыносіць радасць дзецям і дарослым. Кніга — гэта мост паміж пакаленнямі.
16. Дзіцячая кніга — вынік працы многіх людзей: пісьменніка, мастака, рэдактара, дызайнера, карэктара, фатографа, выдаўца, друкара, кнігагандляра ды іншых. Яна ўзбагачае культурны асяродак. Кніга ёсць важным прадметам культурнага экспарту і знаёміць іншаземцаў з нашай краінай.
17. Дзіцячая кніга — гэта першая сустрэча з літаратурай — бясконцым светам, які застаецца з намі на ўсё жыццё.

Прачытаць, асэнсаваць, засвоіць гэтыя прычыны варта не толькі дзецям, але і іхнім бацькам, а вывесіць гэты катэхізіс добра было б хаця б у дзіцячых бібліятэках.

# «Лупіце на трасянцы»?!

Аёечкі!

Нават на галоўным сталічным праспекце цяжка ўнікнуць абрыдлае трасянкі!

Проста крычма крычыць пры Кастрычніцкай плошчы афіша ўлюбёнага тэатра краіны, у якой «купалаўцы» запрашаюць на спектакль паводле знакамітай аповесці Барыса Васільева. Пастаноўка ў іх называецца пазнавальна і сціпла: «А зоры тут ціхія...» Кожны, хто чытаў літаратурную першакрыніцу, хто глядзеў аднайменны спектакль тэатра «На Таганцы» альбо экранізацыю Станіслава Растоцкага, засведчыць, што ў назве маецца на ўвазе світанкі, досвіткі, але зусім не зоры!..

На тым самым праспекце, але ўсё ж моўчкі пазірае зорка з абеліска Перамогі на кафэ «Бярозка». Тыя, хто так ахрысціў пункт грамадскага харчавання, відавочна, меркавалі, што на шыльдзе апаэтызаваная назва дрэва Betula alba (бяроза, бярэзіна, бярза, берка). Але, калі зазірнулі б яны ў слоўнікі, дык дазналіся б, што бярозка — гэта травяністая расліна сямейства бярозавых з павойным сцяблом і белымі ці ружовымі кветкамі, пустазелле, якое нярэдка можна пабачыць на бульбяных разорах.

З задавальненнем згадваю шэсць гадоў, якія адпрацаваў у часопісе для дзяцей і падлеткаў «Бярозка" пераважна намеснікам галоўнага рэдактара Вячаслава Адамчыка. Выдатны знаўца беларускае мовы нераз казаў пра недарэчную назву выдання, якую надалі камуністычныя функцыянеры, каб дагадзіць маскоўскаму малодшаму брату. Тады, напрыканцы 80-х–пачатку 90-х гадоў наклад часопіса сягаў 50 000 асобнікаў! Затое ідэйныя паслядоўнікі тых функцыянераў зрабілі ўсё мажлівае, каб фактычна знішчыць беларускае выданне. Сумнаю казкаю сталася тое, што 1001-ы нумар часопіса выйшаў адным з апошніх. Праўда, забівалі яго не наўпрост, а звыродліва: то аддавалі загад на ліквідацыю на Дзень дурня (!) 1 красавіка 2004 года, то далучалі да «Настаўніцкай газеты», то ўключалі ў холдынг «Літаратура і Мастацтва», то хавалі (і пахавалі!) пад вокладкаю часопіса «Маладосць»!

«Маладосць» разам з газетамі «Звязда», «Літаратура і Мастацтва» дый некаторымі іншымі выданнямі ўвайшла ў новаўтвораны Выдавецкі дом «Звязда». Цікава, чаму не «Зорка», а малапісьменнае трасянкавае «Звязда»?! Мабыць, назва такая больш даспадобы міліцэйскім дый ідэалагічным генералам...

Напэўна, у многіх рэдакцыях і выдавецтвах застаецца настольным «Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў» Міхася Клышкі. На жаль, ён састарэў, а сёння расчароўвае і таму, што ў многіх слоўнікавых гнёздах (сінанімічных радах) папера-дзе стаяць русізмы, словы, што супадаюць па форме з рускімі, «трасянкізмы» ды інтэрнацыяналізмы, а толькі потым падаюцца ўласнабеларускія лексемы (ды нярэдка з пазнакамі «ўстарэлае», «размоўнае» ці «абласное»). Да прыкладу: адуванчык, дзьмухавец; вяснушкі, рабаціння; водпуск, адпачынак, адгул, пабыўка; граніца, мяжа, рубеж, кардон; губы, вусны; дваранін <...> шляціц, шляхціч, шляхтун (зняважл.); канюшня, стайня...

З непаразуменнем і горыччу згадваецца заклік цяперашняга старшыні Таварыства беларускай мовы гісторыка Алега Трусава: «Лупіце на трасянцы!»

Ну дык і лупяць на радасць і яму на «трусянцы»!

**Уладзімір Сіўчыкаў**

# Роберт Фергюсан

**(1750—1774)**

## Эпістала містэру Роберту Фергюсану

*Ці гэта Алан з іншасвету*
*Спявае нам свае куплеты?*
*Дзядоўнік колісь быў апеты*
*Ім скрозь і побач.*
*Не — гэта Фергюсан-паэта*
*Стаў на крыло, бач!*

*Скажу па шчырасці, юнача,*
*Радок твой зухавата скача,*
*Бо што ні рыфма —*
*дык удача:*
*Гучыць дзівосна.*
*Няхай сусед цяпер паплача —*
*Яму ж зайздросна!*

*Калі кароль тут загуляў,*
*Спраўляў народзіны, маўляў,*
*Яму ты добра наваляў*
*У вершах кплівых,*
*Не на Парнасе ж бо куляў —*
*На родных нівах.*

*Ну, што ж, пясняр, жыві багата,*
*Дабра хай будзе поўна хата —*
*Каб пірагі ты еў і ў свята,*
*І ў дзень працоўны,*
*Каб выгляд меў ты зухаваты,*
*А куфаль — поўны.*

*Ці мо без славы ты знямог?*
*А я табе ўсё пра пірог,*
*Пра тое, каб узычыў Бог*
*Піва і хлеба...*
*Ды ёсць яна! І за парог*
*Хадзіць не трэба!*

*Гавораць і мальцы, і ўдовы:*
*Належна ты злучаеш словы.*
*Мы хвалім вершык твой мядовы*
*І думкі ўзлёт,*
*Сабраўшыся на вечаровы*
*Сяброўскі сход.*

*Вось дабяруся да сталіцы,*
*Ох, і пачнём мы весяліцца,*
*Ракою віскі будзе ліцца —*
*Збяруцца ўсе!*
*І свежых вустрыц маладзіца*
*Нам паднясе.*

*Табе ж пастаўлю я на від:*
*Гайда на наш цудоўны Твід!*
*А тут, як зоймецца на світ, —*
*Такі ласось!*
*Ці, можа, хоча наш пііт*
*Яшчэ чагось?*

*Збяруцца дзеўкі, юнакі,*
*І як затанчаць ля ракі —*
*Яны на гэта мастакі!*
*А нашы пані...*
*Клянуся, вылупіш зянкі*
*На іх убранні.*

*Там сціпласці няма спакон,*
*Але на галаве — гамон:*
*Ці гэта пудынг, ці то звон*
*Па новай модзе,*
*Ці то каптур — пужаць варон*
*На агародзе.*

*Я па друкарнях — не хадок,*
*Хоць часам крамзану радок,*
*А вось табе і мой намёк:*
*Пішы яшчэ!*
*Ты верш бярэш на payадок —*
*І ён пячэ!*

*А я вось славы не жадзён,*
*Ды хоць і просты маладзён —*
*Сябрую з Музай з даўніх дзён,*
*Ну, так, як сёння.*
*На гэтым — нізкі мой паклон.*
*Твой верны Джоні.*

**Са скотса пераклала Ганна Янкута**

# Ўільям Мэйкпіс Тэкерэй

**(1811—1863)**

## Балада пра буябес

*Ў Парыжы славяць справядліва*
*Rue Neuve de Petits-Champs*
*(дальбог,*
*Я б зрыфмаваў такое дзіва,*
*Калі прыдумаць рыфму б мог).*
*Гадоў мінула ўжо немала,*
*Ды не знікае інтарэс*
*Да той карчмы, дзе я, бывала,*
*Еў найсмачнейшы буябес.*

*А буябес — ласунак годны,*
*Ці то булён, ці то адвар,*
*Дзе ў місе — цэлы свет падводны,*
*Наш Грынвіч тут губляе твар.*
*Акунь, ялец, паболей перцу,*
*Часнок з шафранам (ну ці без) —*
*Ўсё гэта — у адной талерцы*
*І ёсць сапраўдны буябес.*

*Калі ў красе ва ўсіх праявах*
*Філосаф бачыць сэнс быцця,*
*Ён мусіць знацца і на стравах,*
*І на прыемнасцях піцця.*
*І капуцын, і францысканец*
*Не йдуць з нябёсамі ўразрэз,*
*Бо посны дзень дае ім шанец*
*Спажыць шыкоўны буябес.*

*Іду туды знаёмай сцежкай...*
*Як і раней, стаіць ліхтар,*
*І вустрычніца вунь з усмешкай*
*Ля ганку хваліць свой тавар.*
*А дзе Тэрэ? З крыўляннем міма*
*Ён падаваў далікатэс,*
*Пасля ж, праслізгваючы міма,*
*Пытаў, ці смачны буябес.*

*Заходзім — а карчма ўсё тая ж.*
*«А дзе месье Тэрэ, гарсон?»*
*Той дзівіцца (чаго пытаеш?):*
*«Даўно ён бачыць вечны сон».*
*«Такі наш лёс — усе там будзем,*
*Герой ты ці галаварэз».*
*«Дык што прынесці добрым*
*людзям?»*
*«Ці падаюць тут буябес?»*

*«О, oui, Monsieur, ніякіх зменаў!*
*А што спадарства будзе піць?»*
*«Парайце?» «Можа,*
*шамбертэну?*
*З пячаткай вось, як мае быць».*
*«Спачыў ён, значыць, —*
*і са скрухай*
*Я ў звыклы свой куток палез. —*
*Ну што ж, прысніцца*
*карчмару хай*
*Бургундскае і буябес».*

*А вось і звыклы мой куточак,*
*Знаёмы стол каля акна,*
*Ах, колькі выпілі тут бочак,*
*Пакуль жыццё я піў да дна.*
*Калісьці ж я, о cari luoghi,*
*Найпершы быў сярод гарэз...*
*Цяпер жа зноў — сівы і строгі —*
*Ў карчме чакаю буябес.*

*Дзе ты цяпер, мая сябрына?*
*Вы зніклі шмат гадоў таму...*
*Гарсон, чаму няма графіна?*
*За іх я келіх падыму.*
*Вось і ўспамін пра пагулянкі*
*Амаль адразу ж уваскрэс —*
*Як разам асушалі шклянкі,*
*Як смакавалі буябес.*

*Вось Том крыўляецца па звычцы,*
*Вось Джэк, што ўзяў някепскі*
*шлюб,*
*Агастэс вунь імчыць у брычцы —*
*Во дзе сапраўдны жыццялюб!*
*А Джэймс падаўся да Абрама —*
*Дальбог, не радуе прагрэс, —*
*Хаця сядзеў жа тут таксама*
*І піў кларэт пад буябес.*

*О, як гады імчаць няспынна!*
*Не выбрацца нам з іх ярма.*
*Яна б са мной сядзець павінна,*
*Але са мной яе няма.*
*Былыя ўспамінаю хвілі*
*І ўсмешку цёплую тваю —*
*Мы чашу на дваіх дзялілі,*
*Цяпер яе адзін я п'ю.*

*........*
*Я вып'ю ўсё, што лёс рыхтуе.*
*Даволі ж, рыфмы! Ну я вас!*
*Сябе самога пачастую*
*У памяць пра мінулы час.*
*Віват віну любое маркі,*
*І покуль я зусім не сцэз —*
*Усё прыму, што выткуць паркі.*
*А вось і пахкі буябес!*

**З англійскай мовы пераклала Ганна Янкута.**



Фота А.А

# Юльян Тувім

## Спрэчка з жонкай

*Жонцы моўлю пачціва: «Слухай,*
*Любая, я пад мухай».*

*А яна мне з пагардай: «Блазан!*
*Бачу ўжо, што ты пад газам».*

*Кажу: «Не люблю гэтых збыткаў*
*Прызнаюся, я нападпітку».*

*Адказвае: «Хлусіш, каханы.*
*Сцвярджаю, ты сёння п'яны».*

*«Не буду аспрэчваць — гульнулі,*
*Дык што я там выпіў?*
*Грамулю!»*

*Яна: «Брэшаш, быццам наняўся.*
*Ты ж, як свіння, налізаўся».*

*«Няма ў маіх словах фальшу,*
*Ну трохі закінуў за гальштук».*
*«Хлусіш ты мне штохвіліны,*
*Ізноўку набраўся ў дрызіну».*

*«Няпраўда, — кажу, — што ты*
*мелеш!*
*Насамрэч, я п'яны, як бэля».*

*«Вой, гляньце, — анёлак бязвінны!*
*Дыміцца ў цябе ўжо з чупрыны».*

*Крычу: «У-у-у, калі ж ты*
*адстанеш!*
*Ну я ў нецвярозым стане».*

*«Маніш ізноў, як наняўся!*
*Насцябаўся, лайдак, насцябаўся!»*

*«Ну гэта, — зароў я, — занадта*
*Я проста пад добраю датай!»*

*«Вой, хоць языком не мянці ты,*
*Відаць па табе, што заліты!»*

*«Адчапіся, — шапчу,— ачмута!*
*Брэшаш ты, я тузануты!»*

*З гадзіну цягнулася сварка,*
*Аж жонка пайшла да шынкаркі.*

*А я, каб дурным не застацца,*
*Таксама пайшоў, каб набрацца.*

**З польскай мовы пераклаў Алесь Емяльянаў-Шыловіч.**

# Норман МакКейг

## Цётка Джулія

*Цётка Джулія размаўляла*
*па-гэльску*
*вельмі голасна й вельмі хутка.*
*Я нічога не мог ёй сказаць,*
*бо нічога не мог зразумець.*

*Яна хадзіла ў грубых ботах,*
*але часцей басаножка.*
*— Бачу, як яе моцная*
*і брудная ад торфу нага*
*кіруе понажам, і калаўрот*
*гудзіць,*
*пакуль яна правай рукою*
*цягне з паветра чароўную пражу.*

*Толькі ў цётчыным доме*
*я мог ляжаць уночы*
*ў суцэльным змроку*
*ложка і слухаць*
*прыязны стрекат цвыркуноў.*

*Яна была і вядром,*
*і вадой, што плюхалася ў ім,*
*залевай над домам.*
*Яна была карычневымі яйкамі,*
*чорнымі спадніцамі і захавальнікам*
*драбязы ў імбрыку старым.*

*Цётка Джулія размаўляла*
*па-гэльску*
*вельмі голасна й вельмі хутка.*
*Толькі потым я штосьці пачаў*
*разумець,*
*калі яна сціпла ляжала*
*ў задушнай цямрэчы*
*пясчанай магілы*
*у Ласкентаеры.*
*Але я чую, як яна прыходзіць*
*і гукае мяне голасам кірлі*
*праз сотні ярдаў,*
*балот і тарфянішчаў*
*і ўвесь час, увесь час злуецца,*
*што не можа пачуць адказы*
*на ўсе пытанні.*

**З англійскай мовы пераклаў Алесь Емяльянаў-Шыловіч**

# Гісторыя гвалту

## (Рэцэнзія на апавяданне Евы Вежнавец «Іра ў залатых басаножках»)

**Апавяданне Евы Вежнавец складана назваць кароткім: хоць яно змяшчаецца на дзесяці старонках, але там ламаюцца некалькі лёсаў, прычым у розны час.**

Як і ў іншых творах пісьменніцы, гісторыя не разгортвацца толькі цяпер: мінулае паўстае ў старой грушы, знічшаным на яе месцы маёнтку, у вёсцы, дзе і да гэтага часу перамешаны «попел з каціньмі касцямі, абразы ды пляшка».

Гэта гісторыя гвалту ў вельмі шырокім сэнсе: не толькі пра дзявочае цела, не толькі пра смерць жывёл ад чалавека, але, здаецца, і гвалту, што перажыла і перажывае Беларусь. Прынамсі ў той Беларусі, якую малюе аўтар, бацькі не вераць у мэтазгоднасць заступніцтва за згвалтаваную дачку, міліцыянты не хочуць шукаць злодзеяў, дзеці як нешта надзённае ўспрымаюць гісторыі пра пахаваных жыўцом і потым раскапаных людзей, а адзіныя пачуцці, што называюцца ў тэксце — гэта сорам, страх, сум, жах, агіда. Пры ўсім гэтым апавяданне не назавеш змрочным: аўтар па-майстэрску і далікатна абыходзіць усе моманты, дзе можна выцісннуць слязу ў чытача. Аўтару ўдаецца кіраваць часам і прасторою ў творы — і спакойна ды мужна паказваць гэтую хаду часу і сімвалічнасць прасторы.

Не ведаю, ці можна назваць трасянку згвалтаванай мовай — пэўна, не, але ж для мяне ў апавяданні Евы Вежнавец адзін з самых удалых, сэнсаставральных і ў той жа час амаль незаўважных прыёмаў — якраз яе ўжыванне. На трасянцы гавораць усе дарослыя, на трасянку пераходзіць маленькая Таня, калі выдавочна паўтарае дарослыя словы. Толькі Іра, галоўная гераіня, наіўнае, цнатлівае, чулівае дзяўчо, размаўляе крынічнай беларускай моваю. Аўтар сутыкае гэтыя моўныя плыні, калі нехта гаворыць з Ірай:

[міліцыянт]: — А ў чым ён быў адзеты?

[Іра]: — У ботах, шапцы, штанах і клятчастай кашулі.

– А рэмень быў?

– Быў, з бліскучай спражкаю, а на ёй зорка.

– Бачыце, мамаша, — сказаў міліцыянт Ірынай маме, што стаяла ў парозе. — Дзела не выходзіць. Адна кажа, што ён у ботах быў, другая — што ў бацінках. Адна кажа, папруга ў яго была са звяздой, а другая — што без папругі быў. Хімічаць нешта вашы дзевачкі.

Іра будзе гаварыць на беларускай мове «без прымешкаў» да моманту ініцыяцыі ў апавяданні. Гэта незаўважна з першага прачытання, бо паказана праз унутранае маўленне: «Іра прыціхла, разумеючы, што апазорыла бацькоў яшчэ горш. Ну чаму яна не такая, як усе, дый яшчэ ўліпла ў такую гісторыю? Цяпер хоць на вуліцу не вылазь, ні ў магазін не сходзіш, ні на роварысь не пакатаешся». Гэта ўжо яе словы, а не адзінкавае дарослае «стыдна», якое ўспрымаецца як цытата. Так і становяцца дарослымі ў гэтым свеце.

Зрэшты, можна і па-іншаму інтэрпрэтаваць гэтую змену, бо пасля яе Іра часам зноў вяртаецца да мовы без русізмаў, і характар яе ўсё ж не змяняецца. Але важна тое, што мова, якую ўжываюць героі, для Евы Вежнавец — заўжды маркер і не выпадковая рыса.

Больш за ўсё русізмаў ужывае Дораш: у яго і «вашэбнае месца», і «пращальныя яблыкі».

Мужчынскі свет у апавяданні ўвогуле не выклікае даверу. Найперш палохае Дораш, потым — міліцыянер, а маленькая Таня выказваецца так: мужыкі «не ўмеюць і жывёлы прыбіць, блююць». І нават бацьку галоўнай гераіні сімпатызуеш толькі спачатку. Мы так і не даведаемся, што за дамова была ў яго з Дорашавай маці, але ж гэты мужчына так нічога і не зрабіў для сваёй дачкі, нават і не паразмаўляў з ёю.

Робяць учынкі у свеце гэтага апавядання, калі не сказаць у свеце Евы Вежнавец, жанчыны (для Евы і беларуская зямля — жанчына). Бабка вязе ўнучку да іншай бабкі. Сяброўка, а не сябар, пільнуе, пакуль Іра вырые каціныя косткі з зямлі. Урэшце, маленькая Іра сама заступаецца за сябе.

Яе начны паход займае ў апавяданні паўстаронкі, але што гэта за паўстаронкі! Яны прапісаны аб'ёмна, дэтальна, праўдзіва і разам з тым нібыта не ў адзіным часе. Напрыклад: «Зоры гарэлі на небе, калыхаліся, свежасцю пахла з усіх кутоў, пабрэхвалі сабакі, але не надта стараючыся, бо Іра была свая». У аўтара добрыя вочы: зоры і сапраўды нібыта калыхаюцца, калі ідзеш і глядзіш на іх адначасна. Але гэты дзеяслоў — калыхацца — ужо нешта значыў раней у творы. Ад яго становіцца балюча і страшна, бо менавіта гэтае слова стаяла замест «гвалтаваў». І нават сабакі, што прызнаюць у Іры «сваю», належаць нібыта адразу да двух планаў: яна свая, бо жыве ў іхняй вёсцы, але яшчэ — яна свая, бо ратуе жывое, бо пацярпела за жывёл ад таго, хто іх забівае.

За Ірай нібыта крадзецца котка — зразумелы сімвал, але ж котка гэтая «паласатая-насатая». Гучыць усё так натуральна, што спачатку атрымліваеш асалоду ад гэтай рыфмы родам з дзіцячых лічылак. І толькі потым задумваешся: як котка можа быць насатай? Насатая — гэта Іра, у якой «вялікія вочы, востры нос і доўгі рот нібыта змагаліся за месца» на твары і якую Дораш сам называў насатай і Бурацінкай...

Але за ўсім, як мне падаецца, усё роўна стаіць Беларусь — галоўны герой усіх твораў Евы Вежнавец. Гвалт адбываецца на месцы, дзе раней стаяў кулацкі хутар «з вялізным садам, жыла вялікая сям'я, а потым іх усіх пазвозілі, як негадзяшчых сабак, а селішча зааралі. Толькі груша расце тут са старых часоў, падае, развальваецца, а з пня ў яе зноў груша прарастае, новая, і тую грушу рушыць нельга, бо гэта чортава месца». Была сям'я — і няма больш, быў вялізны сад — і засталася адна груша, што развальваецца. Ева Вежнавец піша рэалістычнае апавяданне. Але з пня расце новая груша, якую нельга рушыць... Ева Вежнавец піша магічны і сімвалічны рэалізм.

На маю думку, адзінае, што зніжае «градус» апавядання — гэта яго традыцыйнасць. Яно выпісваецца з апорай на традыцыю беларускай літаратуры, цудоўна ўпісваецца ў кантэкст, і нават груша нам ужо знаёмая. Але гэта робіць апавяданне яшчэ і прадказальным. Калі нешта знішчылі і разбурылі на адным месцы, а потым на ім жа пахавалі кагосьці жыўцом, то нешта мусіць здарыцца і ў трэці раз. Іра стаіць з высока паднятым прыполікам сарафана, трымае ў ім мёртвых катоў, Дораш глядзіць на ножкі з вострымі каленцамі — і чытач разумее, што здарыцца далей. У гэты момант хочацца памыліцца і каб аўтар цябе здзівіў. Так, пакуль Іра ішла да Дорашавай хаты ноччу ў канцы апавядання, я спадзявалася, што здарыцца нешта нечаканае, што Іра не проста, баючыся, закапе́ць вузлік пад ганак, і Дораш памрэ, але што сюжэт «выкруціцца» нечаканым манерам, і з беларускай традыцыі, як з той грушы, вырасце яшчэ адна груша.

Нечаканасці ў аўтара адбываюцца на моўным і вобразным узроўні: не чакаеш, напрыклад, што назвы яблыкаў нешта скажуць табе пра гісторыю Беларусі, што Дораш будзе прышчэпваць яблыні цэламу лесу. Было б цудоўна, каб гэтак жа здзіўляў і абуджаў чытача і сюжэт. Хаця гавораць, што ўсе сюжэты ўжо прапісаныя, і важна не тое, пра што, а тое, як напісана.

**Кацярына Оаро**

# Напярэймы далягляду

## (Рэцэнзія на кнігу Стаса Ільіна «Ветровое стекло», Мінск: «Галіяфы», 2017)

**Сучаснага чытача мала чым можна здзівіць: айчынны кніжны рынак (перад усім маю на ўвазе кнігі нашых беларускіх аўтараў) сёння прадстаўлены самымі рознымі літаратурнымі родамі, жанрамі і формамі, здольнымі задаволіць любыя густы — ад простых да мудрагеліста-выкшталцоных. Зрэшты, час ад часу і тут здараюцца своеасаблівыя цуды.**

Адна з такіх апошніх цікавостак кнігадрукавання — аповесць Стаса Ільіна «Ветравое шкло». Піша С. Ільін пераважна па-руску. Але рускамоўнасць С. Ільіна мае цалкам іншую прыроду, чым, напрыклад, у некаторых айчынных літаратараў. Бо айчынны літаратар у сітуацыі білінгвізму часта нагадвае жанатага мужчыну, які завёў сабе яшчэ і каханку. Для С. Ільіна руская мова — ні жонка, ні каханка, а выпадковая спадарожніца, якая можа застацца і на адну ноч, і на ўсё жыццё...



Назва кнігі, вядома ж, выбрана невыпадкова і прызваная перш за ўсё звяртаць увагу на прафесію галоўнага героя (і, напэўна, аўтара), які працуе дальнабойшчыкам і найчасцей назірае за парадоксамі свету праз ветравое шкло кабіны грузавіка. З іншага боку, ветравое шкло не толькі аб'ядноўвае галоўнага героя з астатнім светам, але яшчэ і выконвае функцыю своеасаблівай нябачнай мяжы, якая надзейна аддзяляе, нават абараняе ад усяго таго, што робіцца звонку. Герой не сядзіць на адным месцы — на сваім грузавіку ён уздоўж і папярок скалясіў усю Паўночную Амерыку, пабываў, мусіць, у кожным штаце, пабачыў вялікія мегаполісы і маленькія вёсачкі, на ўласнай скуры адчуў гарачы подых пустэльні і суровы клімат поўначы, паспеў палюбавацца дзівоснымі краявідамі, якія для беларускага чытача ўяўляюцца самай сапраўднай экзотыкай.

Акрамя нязвыклых для сярэднестатыстычнага беларускага чытача амерыканскіх рэалій — ад прыродных да побытавых, у аповесці "Ветравое шкло" ўзнікае і цэлая галерэя каларытных персанажаў, якія ўвесь час сустракаюцца на шляху галоўнага героя: гэта і яго калегі-дальнабойшчыкі, і персанал на паркінгах, і выпадковыя спадарожнікі, і мноства іншых людзей — ад мясцовых жыхароў да эмігрантаў з розных куткоў свету. Цікава, што для апісання кожнага з іх аўтар знаходзіць непаўторныя фарбы, кожны персанаж атрымлівае, так бы мовіць, сваю разынку, альбо фішку, таму ўсе яны выглядаюць вельмі яскрава і запамінальна, не збіваючыся ў адну шэрую масу.

Жыццёвая праўда, якая становіцца галоўным ідэйна-эстэтычным падмуркам аповесці «Ветравое шкло», дазваляе аднесці твор С. Ільіна да жанру дакументальнай прозы, які сёння вельмі часта фігуруе пад тэрмінам «non-fiction» альбо «нявыдуманай літаратуры» і лічыцца найбольш «прасунутым» жанрам у сучасным вербальным мастацтве (некаторым нават нобелеўскія лаўры прыносіць!), але наўрад ці аўтар свядома прагнуў адпавядаць модным літаратурным тэндэнцыям, — хутчэй наадварот, згаданыя тэндэнцыі цалкам адпавядаюць творчай свядомасці маладога гарадзенскага пісьменніка. Так, менавіта, гарадзенскага, хоць стваральнік «Ветравога шкла» наўрад ці калі вернецца на сталы побыт у родны горад: з кнігі, прынамсі, бачна, што галоўны герой (а ён, фактычна, зліваецца з асобай творцы) здолеў знайсці сваё месца пад шчодрым злучанаштатаўскім сонцам. І герою, і аўтару там утульна, часам настолькі, што і чытачу неўзабаве пачынае карцець кінуць усё і выправіцца на пошук прыгодаў і славутай амерыканскай мары. Але ж і Гародня (у кнізе шмат таму прыкладаў) не адпускае С. Ільіна — час ад часу аўтар аповесці карыстаецца ўлюбёным прыёмам мадэрністаў: прыёмам рэтраспекцыі, і на старонках кнігі (ва ўяўленні галоўнага героя) з'ўляецца горад над Нёманам, з якім не зраўнююцца — цытую — «ніякія Нью-Ёркі і Чыкага». Трэба дадаць, што не толькі горад з яблыневым садам у Новым Замку не адпускае аўтара (дарэчы, вобраз яблыневага саду ў аповесці набывае глыбока сімвалічнае значэнне, становячыся своеасаблівым Эдэмам для галоўнага героя), але і сама Беларусь адыгрывае ў творы вельмі важную ролю, — ужо нават таму, што яна там ёсць, што яна там жыве, незалежная, насуперак усім стэрэатыпам, са сваёй гісторыяй, мовай, культурай, адрознай ад культуры і мовы суседзяў (у апошнім раздзеле кнігі беларуская мова нават гучыць з вуснаў выпадковых мінакоў, якіх герой убачыў у Балтыморы).

І апошняе: на самым пачатку кнігі, з анатацыі даведваемся, што герой, мауляў, не мог сябе знайсці, таму падаўся ў дальнабойшчыкі. Дачытаўшы аповесць да канца, разумееш: яе герой знаходзіцца ў пошуках сябе, але менавіта гэта цешыць, бо дае надзею на чарговае спатканне з цікавымі творамі беларуска-амерыканскага пісьменніка Стаса Ільіна.

**Анатоль Брусевіч**

# «І ўсё мацней жаданне лёту»

**Напрыканцы лета, размораныя і квёлыя пасля адпачынку, прыхільнікі беларускай літаратуры могуць нарэшце разгавецца беларускім словам. Выйшаў чарговы (89-ы) нумар часопіса «Дзеяслоў».**

Цэнтральным творам, фармуючым чарговы нумар часопіса «Дзеяслоў», безумоўна з'яўляецца пачатак новага рамана Людмілы Рублеўскай «Пантофля Мнемазіны». Ён напісаны па ўсё той жа схематычна-пазнавальнай форме яе папярэдніх твораў. Падчас нават ствараецца ўражанне, што ты чытаеш працяг ужо апрабаваных чытачамі раманаў («Ночы на Плябанскіх млынах», «З'яўленне Інфанты», «Дагератып»). Магчыма, некалі яны звядуцца ў адзіны цыкл, як, да прыкладу, раманы В. Адамчыка (параўнанне, зразумела, умоўнае). Словам, адчуваецца наследаванне караткевічаўскай формулы: на нацыянальным падмурку выснаваць прыгодніцкі антураж твора. Пры ўсім пры тым, адзначу, што тэксты Л. Рублеўскай прафесійныя і па-мастацку таленавітыя, напісаны з адмысловым майстэрствам. Нібыта нічога звышарыгінальнага: гісторыя замешаная на перапляценні сучаснага і нядаўняга беларускага часу; маладая жанчына страчвае бясследна прапалага ў замежжы мужа, пасля сямі гадоў зніknення яго вобраз пачынае з'яўляцца ў яе візіях і згадках, а тут яшчэ падаспела нечаканая спадчына, якую ён, аказваецца, пакінуў (стары дом у мястэчку). З яго гераіня і пачынае закручваць інтрыгоўны сюжэт, заснаваны на родавай лініі былога сужэнца, прозвішча якога Корвус (гэткая повязь адраджэнскай знітаванасці ў творах пісьменніцы)... Чытач патрапляе ў1930-я, ваенныя і пасляваенныя гады... Закрутак многа і, можа, нават залішне, бо нярэдка даводзіцца празмерна напружваць галаву наконт той ці іншай сітуацыі. Да ўсяго на кожным артэфакце Рублеўская пачынае акцэнтаваць увагу чытача і выкладаць ледзь не ўвесь датычны да яго вікіпедаўскі лікбез. Аднак жа трэба адзначыць, маладых прыхільнікаў сваёй творчасці пісьменніца прывязвае да старонак прозы моцна. Чым? Адмысловым сюжэтам, сучасным стылем пісьма. У словах, выразах, ідыёмах, мімалётных згадках-замалёўках, лёгка, іранічна, бесканфлікта, без асаблівых прэтэнзій на нешта грандыёзнае, а насамрэч — старонка за старонкай — складвае глыбокі пласт містычна-памятлівай беларускай прозы. Пісьменніца наўмысна падчэпліве чытача, няўзнак выдаючы свае літаратурныя зацікаўленасці. Уласна я нават замілаваўся, успомніўшы маленства, натыкнуўшыся на слова «дзёдзя» (так у вёсцы ласкава звалі свіней, асабліва прыдзецях, праўда, у нас казалі «дзюдзя»). Не памятаю ўжо, калі і кім гэтае слоўца згадвалася. Сустракаюцца і шмат іншых падобных слоў-знаходак і слоў-памятак. А вось некаторых сучасных, такіх, да прыкладу, як квэст і фанфік, у тэксце аж занадта, нераўнуючы, як спаму. Не зважаючы на дробныя суб'ектыўныя заўвагі, магу запэўніць чытача, што пачатак рамана Л. Рублеўскай захапляльны і варты ўвагі. А тое, што ён чытэльны, не выклікае сумненняў.




Вершы Людкі Сільновай лёгкія, эмацыйна-пачуццёвыя, як палёт руплівай пчалы над адцвітаючым кветнікам... Боль схаваны ўнутр метафары, вонкі — пожад жыццёвай энергіі:

*Ўсё гэта я?.. Паэт ва ўзросце*
*Складаным робіцца ці простым —*
*Як немаўля, што, без адзення,*
*Увесь — адчай, увесь — здзіўленне*
*Перад чужой магутнай сілай?..*

«Парыжскія казкі» Адама Глобуса — гэта змрочна-мройныя творчыя выявы мастака ў мажлівым свеце, у якім рэчаіснасць мяняецца згодна з жаданнем герояў і аўтара тэкстаў. Аднак, як папярэджвае чытачоў пісьменнік: «здавалася б, што гісторыя павінна была скончыцца добра, але ў яе сумнае заканчэнне»...

Што тычыцца вершаў Сяргея Ваганава, то, скажу шчыра, чытаць яго публіцыстычныя нарысы і эсэ мне цікавей. Тут сабраныя роздумы літаратара над пражытым — канкрэтнымі з'явамі, людзьмі, падзеямі... Ёсць і кранальна-разняволеныя строфы, скажам, у вершы, прысвечаным В. Казько:

*І цяпнуўшы гарэлкі, сэрца зрушу, —*
*Няхай язык што хоча, то пляце! —*
*Я б цалаваў заветраную грушу,*
*Што на Палессі кожны год цвіце.*

У кароткім апавяданні Паліны Сцепаненкі «Лядоўня ў кватэры № 0» слова «лядоўня» на пачатку тэкста ўжываецца столькі разоў, што здаецца, ты чытаеш, лежачы побач з тым самым гудлівым надакучным халадзільнікам (ужывём такое яго вызначэнне, каб не паўтарацца)... Не мой стыль, але сама задума цікавая, заснаваная на фактах нядаўняга часу. Найбольш адцеміўся наступны фрагмент: «У слове СУМленне адчуваецца сум. Адчуванне страты — у адзін момант чалавек стаў недасяглым, нібыта памёр. Мур. Паміж зняволенных і воляй». Гэткая афарыстычная набіўка (тату) нашага беларускага бясчасся...

Друкуюцца вершы берасцейца Васіля Дэбіша — шчымліва-лірычныя, зямныя, зацепленыя на шчырай сыноўняй любові да адышоўшай маці, каханай, але не заўсёды вернай жанчыны, векавечнай Бацькаўшчыны... Узнёслая песня жыцця.

Нібыта чорнай магіяй сапраўднай паэзіі павеяла ад верша «Вароны»:

*На снезе белым — чорныя вароны.*
*Галгочуць. З учарашняга яшчэ...*
*Глядзяць на свет,*
*нібыта шлюць праклёны*
*Спусцелымі палонкамі вачэй.*
*Пранізаны завеямі ліхімі,*
*Іх крылы б'юцца ў такт,*
*як ветракі.*
*І добра бачна, скамянеў пад імі*
*Глыбокі снег. Ім хлеб даю з рукі.*
*Дык не бяруць. Глядзяць —*
*нібыта судзяць —*
*З прамерзлых дрэў, сцяжынак*
*і слупоў.*
*Ніби смяюцца: «Прыйдзе час*
*і будзем*
*Мы піць нябёсы з вашых чарапоў».*

Навеяла настальгічную асацыяцыю з радком вядомага верша майго кіраўніка паэтычнага семінару на ВЛК расійскага паэта Ю. Кузняцова: «Я пил из черепа отца»...

Жыццёва-творчыя «запісы» Аксаны Спрынчан «Разынкавая мурожка», з якой высвечваюць і па-сапраўднаму мастацкія разынкі. Вось адзін з запісаў: «Мой двухпавярховы дом стаўся трохпавярховым, бо паміж першым і другім паверхам звілі гняздо малінаўкі. Калі б мой дом быў дасканалым, вядома ж, яны не здолелі б зладзіць гняздзечка.У недаробленым і непрыгожым закрасавала даробленае і прыгожае. У мой дом цяпер можна ляцяць. Хіба гэта не падарунак Нябёсаў?!».

Схіляе да разваг паэтычная нізка Сяргея Сцяпана. Мудрыя глыбокія вершы, напісаныя жыццёвым вопытам душы і плоці, амаль без метафар — як адлюстраванне стомленага духу:

*Падняцца ранкам,*
*Каву падагрэць,*
*Глядзець праз шкло*
*На чырвань арабінаў.*
*І раптам*
*З ціхім болем зразумець,*
*Што ўжо жыццё*
*Становіцца ўспамінам.*

«Тутэйшыя». Короткое содержание скачать» — так называецца апавяданне Зараславы Камінскай. Спроба разважання маладых сучаснікаў над нацыянальнай самасвядомасцю народа ды жыццёвым і творчым лёсам іх беларускага Песняра Янкі Купалы падчас універсітэцкіх іспытаў, а таксама намаганні выявіць псіхалагічны, духоўны, творчы і матэрыяльны ўмоўны падзел у жыцці паэта на пачатку сталінскіх рэпрэсій.... І хто ж галоўны герой п'есы «Тутэйшыя» — ці не сам Янка Купала? Твор можна было б развіваць і да аб'ёму аповесці ці кароткага еўрапейскага рамана...

У рубрыцы «Дэбют» — вершы Веранікі Міхалёвай. Такая мілая натхнёная родным словам і клопатам пра лёс сваёй Айчыны патрыётка, якая шукае ўласныя рыфмы на прасторах беларускага жыцця, натыкаючыся на рыфы сучаснага дзяржаўнага беспрасвецця і народнай годнасці і цярплівасці. Прыкладна так:

*Слёзы мае — ад нясцерпнага*
*вечнага болю*
*За народ свядомы,*
*што свабодным даўно*
*быць мусіў.*
*Я плачу за тых,*
*хто не дачакаліся волі.*
*Гэта слёзы малення.*
*Аб прывіднай Беларусі.*

Аксана Данільчык прапануе чытачам свае пераклады з класічнай італьянскай паэзіі канца XVIII — пачатку XX стагоддзяў (Дж. Леапардзі, Дж. Кардучы, Дж. Паскалі, К. Мікельстэдтэр і Дз. Кампана).

Друкуецца заканчэнне кнігі падарожных эсэ паляка Рышарда Капусцінскага «Кіргіз злазіць з каня». Гэтым разам пісьменнік выкладае нам свой погляд на апошнія савецкія гады эканамічнага і нацыянальна-духоўнага ў жыцці Туркменістана, Таджыкістана, Кіргізстана і Узбекістана. Як для таго часу, то напісана без «предубеждения» ды ідэалагічных націскаў. Пераклад Я. Салейчука. Пры канцы хачу прывесці цытату, якая па сутнасці завяршае публікацыю. Гэта выказванне ідэолага суфіскай дактрыны ісламу Аль-Газалі. Яно, пэўным чынам, кладзецца і на стасункі самога аўтара эсэ з чытачом. «І няхай ведае, — папярэджваў Аль-Газалі, — што карысць, якую ён атрымае з-за памылкі свайго Шэйха, калі б той памыліўся, будзе большай, чым тая карысць, якую мог бы атрымаць ад сваёй уласнай праўды, нават калі б сапраўды меў рацыю».

Працягваецца публікацыя «Кнігі Роду» (новай беларускай Біблії) з заўвагамі і каментарыямі Ірыны Дубянецкай.

Нацыянальны аспект, які высноўваецца з прачытання і разважанняў над выдадзенымі біблійнымі кнігамі Францішка Скарыны. Вельмі досведны і актуальны артыкул маскоўскага (па месцы пражывання) беларускага навукоўца Аляксея Каўкі. Вучоны піша: «Нядаўна брытанскі «The Economist» прысвяціў нашаму супляменніку адмысловы артыкул з аглядам жыццятворчага шляху «беларускага Марціна Лютэра». Скарына, у адрозненне ад нямецкага пратэстанта-рэфарматара, не зрушваў падваліны папскае царквы, аднак, гаворыцца ў артыкуле, паводле значасці зробленага ў пашырэнні друкам свяшчэнных тэкстаў, беларускага слова, кірылічнага пісьма наогул ён павінен разглядацца «як адна з найвялікшых фігур еўрапейскай культуры». Што сімвалічна праілюстравана помнікам Францішку з высока ўзнятай Святою Кнігай перад нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. Святло незгасальнае свеціць і цемра не схавае яго. Дасюль — пачатак XXI стагоддзя — у Беларусі, ужо незалежна-суверэннай, па-ранейшаму моляцца «за державу нашу российскую». Малітваў за Беларусь, Богам сцеражоную, у тутэйшых цэрквах Маскоўскай патрыярхіі пакуль не чутно».

Літаратуразнаўца і паэт Віктар Жыбуль суправаджае пачатак публікацыі захаванай спадчыны неардынарнага і неадназначнага пісьменніка і паэта Алеся Наўроцкага. Мне, як літаратару, гэта цікава, але напэўна далёка не кожнаму чытачу.

Следам друкуецца даволі глыбокі і ўдумлівы (адзін з лепшых, які мне давялося прачытаць) матэрыял Валерыя Назарава «Маленькая сага...» пра творчасць Янкі Брыля, а менавіта пра яго «Муштук і папку», з паралельнымі разважаннямі над некаторымі архіўнымі тэкстамі пісьменніка. Як піша аўтар, «пісьменнік здолеў адлюстраваць у лёсе сваёй сям'і сапраўдную гісторыю народа, які быў падзелены, правa якога на слова знішчалася ў зачатку, лепшыя сыны якога аказваліся ў гулагах і камерах смяротнікаў. Таму маленькая сага Я. Брыля, выкліканая паяўленнем горкай сямейнай рэлiквіі, з'яўляецца сама па сабе рэліквіяй нацыянальнай».

Удзячнае слова ў вянок памяці вядомага берасцейскага вучонага-літаратуразнаўцы Генадзя Праневіча напісаў крытык, яго літаратурны калега і таварыш Алесь Бельскі.

Ірына Саматой з Віцебска разважае над творчым плёнам рана адышоўшага з жыцця мясцовага краязнаўцы Міхася Райчонка.

Друкуецца заканчэнне манаграфіі Канстанціна Тышкевіча «Вілія і яе берагі» (1871 года выдання) ў перакладзе вядомага педагога і фалькларыста Уладзіміра Васілевіча.

Завяршаецца і публікацыя ўспамінаў Ліі Салавей пра сваю мядзельшчыну 1930-х, ваенных і пачатку пасляваенных гадоў пад назвай «Гавэнды майго краю». Займальнае, скажу вам, чытанне. Рэцэнзіяй Леаніда Галубовіча на кніжку бялыніцкага (па нараджэнні) паэта, які ўжо чвэрць веку жыве ў Японіі, Вячаслава Казакевіча «За мной придет Единорог» і кароткай анатацыйнай рубрыкай «Дзеяпіс» загортваецца апошняя старонка часопіса.

Далучайцеся да беларускага.

**ЛеГал**

# Прэмія нямецкіх кнігагандляроў

**Як паведаміў прадстаўнік Біржавога саюза нямецкага кнігагандлю, Прэмія міру нямецкіх кнігагандляроў (Friedenspreis des Deutschen Buchhandels) прысуджана ў 2017 годзе канадскай пісьменніцы Маргарэт Этвуд.**



Гэтая прэстыжная прэмія прысуджаецца пісьменнікам, мастакам, вучоным і грамадскім дзеячам, якія ўнеслі выдатны ўклад ва ўмацаванне міру, перш за ўсё сваёй дзейнасцю ў галіне літаратуры, навукі і мастацтва.

«Любоў да людзей, імкненне да справядлівасці і талерантнасць вызначаюць пазіцыю Маргарэт Этвуд, якая з увагай і глыбокім веданнем людзей глядзіць на свет», — адзначыў прадстаўнік Біржавога саюза.

Маргарэт Этвуд вядомая не толькі як празаік, паэтка, літаратурны крытык, але таксама як актывіст экалагічнага руху і феміністка. Большасць яе раманаў у займальнай форме распавядаюць пра лёсы жанчын.

Маргарэт Этвуд — лаўрэатка Букераўскай прэміі, якая ўручаецца за лепшы англамоўны раман года, і шматразовы яе намінант. Кнігі Этвуд перакладзены на 30 моў свету.

Прэмія міру нямецкіх кнігагандляроў, якая складае ў грашовым эквіваленце 25 тысяч еўра, была заснаваная ў 1950 годзе. Сярод яе лаўрэатаў — такія выдатныя асобы, як лекар і філосаф-гуманіст Альберт Швайцэр (Albert Schweitzer), пісьменнік і мастак Герман Гесэ (Herman Hesse), філосаф і псіхолаг Карл Ясперс (Karl Jaspers), дзіцячая пісьменніца Астрыд Ліндгрэн, літаратуразнаўца і дысідэнт Леў Копелеў, драматург і палітык Вацлаў Гавел, празаік Архан Памук і беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч. Для многіх з іх гэтая ўзнагарода стала апошняй прыступкай перад Нобелеўскай прэміяй па літаратуры.

Прэмія міру нямецкіх кнігагандляроў будзе па традыцыі ўручана Маргарэт Этвуд у апошні дзень найбуйнейшага ў свеце кніжнага кірмашу ў Франкфурце — 15 кастрычніка.

# Юбілей Кінга

**21 верасня споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння Стывена Кінга.**

Стывен Эдвін Кінг нарадзіўся ў Портлендзе ў сям'і былога капітана гандлёвага флота. У 1949 годзе, калі хлопчыку было два гады, яго бацька Дональд увечары выйшаў з хаты па цыгарэты і больш ужо не вярнуўся. Пра яго лёс Стывен і яго старэйшы брат Дэвід даведаліся толькі напрыканцы 1990-х гадоў: іх бацька завёў другую сям'ю і жыў у Пенсільваніі з жонкай з Бразіліі і чатырма дзецьмі, пакуль не памёр у 1980 годзе...

У 1949–1958 гадах сям'я Кінга часта пераязджала з месца на месца; маючы адукацыю піяністкі, маці Кінга — Нэлі Рут — бралася за любую працу, часта некваліфікаваную і нізкааплачваемую, каб пракарміць сям'ю. З-за слабога здароўя і частых пераездаў Стывен рос хваравітым дзіцем. І пачаў пісаць...

Першае апавяданне па коміксе ён напісаў у 7 гадоў. Але маці заўважыла, што ён можа лепш, і параіла стварыць нешта сваё. Ён напісаў апавяданне «Містэр Хітры Трус». А калі маці спадабаўся яго твор, напісаў працяг, за што атрымаў свой першы пісьменніцкі ганарар — па 25 цэнтаў за кожнае з 4-х апавяданняў.

У студзені 1959 года Стывен разам са старэйшым братам Дэвідам вырашылі выдаваць мясцовую газету «Лісток Дэйва», памнажаючы кожны нумар на старым мімеографе і распаўсюджваючы сярод суседзяў па 5 цэнтаў за асобнік. Дэйв адказваў за мясцовыя навіны, а Стывен пісаў рэцэнзіі на любімыя тэлешоў і фільмы, а таксама кароткія апавяданні. Прыкладна ў той жа час хлопчык азнаёміўся з творчасцю Говарда Філіпса Лаўкрафта, які стаў адным з яго найлюбімых аўтараў.

Да 14-ці гадоў Стывен актыўна пісаў апавяданні. Скончыўшы 8 клас з добрымі адзнакамі, ён паступіў у школу Лісбан-Хай і апублікаваў другую кнігу — «Зорныя захопнікі». У школе, даведаўшыся пра літаратурны талент Кінга, яго прызначылі рэдактарам школьнай газеты. А за лісткі «Ванітавыя сродкі» з апавяданнямі пра выдуманыя прыгоды настаўнікаў у жанры чорнага гумару, якія яму падабалася выпускаць, яго ледзь не выключылі са школы...

У 1966 годзе Кінг паступіў ва ўніверсітэт штата Мэн, дзе пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай — Табітай Спрус. У 1970 годзе атрымаў ступень бакалаўра, і яго прызналі непрыдатным да ваеннай службы. Першы час сям'я мела фінансавыя цяжкасці, жылі на зарплату Кінга ў пральні, студэнцкую пазыку і нешматлікія ганарары Кінга за друк яго апавяданняў у часопісах. У гэты час у іх нарадзіліся сын і дачка. У 1971 годзе Кінг ажаніўся на Табіце, восенню пачне працаваць настаўнікам англійскай мовы ў школе горада Хэмпдэн штата Мэн.

...Аднаго разу Табіта знайшла ў смецніцы чарнавік рамана «Кэры», які пісьменнік палічыў няўдалым, і прымусіла Кінга дапісаць яго. А ў 1974 годзе выдавецтва «Doubleday» выдала раман «Кэры», за які Кінг атрымаў аванс — 2500 даляраў. Затым выдавецтва прадало аўтарскія правы на «Кэры» выдавецтву «NAL» за 400 тысячаў даляраў, з якіх палову атрымаў Кінг, што дазволіла яму пакінуць працу ў школе. Увосень 1974-га Кінг пераехаў у Боўлдэр штата Каларада.

Напрыканцы 1970-х Кінг пад псеўданімам Рычард Бахман выдаў свой ранейшы раман «Змірыцца з гэтым» пад назвай «Лютасць». Студэнты-кінематаграфісты пачалі пісаць яму — у надзеі на экранізацыю яго невялікіх апавяданняў, і пісьменнік увёў «палітыку», якой прытрымліваецца і да гэтага часу: кожны можа экранізаваць адно невялікі аповед, але падпісаўшы дамову, ён абавязуецца заплаціць аўтару адзін даляр ганарару і даць на зацвярджэнне аўтару «гатовы прадукт».

У 1982 годзе з'явілася кніга «Стралок» — першы раман з цыкла «Цёмная Вежа». У 1985 годзе С. Кінг прызнаўся, што пісаў пад псеўданімам Рычард Бахман з-за боязі, што яго поспех раней быў выпадковы.

У 1989-м С. Кінг падпісаў кантракт з выдавецтвам «Вікінг», згодна з якім мусіў атрымаць 35 мільёнаў даляраў за 4 наступныя кнігі, але ў 1997-м скасаваў яго, паколькі планаваў атрымаць 17 мільёнаў за кнігу «Мех з косткамі». Таму заключыў новы кантракт з выдавецтвам «Сайман энд Шустэр», па якім атрымлівае 8 мільёнаў авансу за кнігу і 50% прыбытку ад продажу.

19 чэрвеня 1999 года С. Кінга збіла машына, пісьменнік атрымаў сур'ёзныя траўмы і ледзь не пазбавіўся нагі. Гэтую падзею ён апісаў у сваіх мемуарах «Як пісаць кнігі» і ў сёмай частцы «Цёмнай Вежы».

# Пецярбургскі ПЭН-цэнтр — самастойны член ПЭН-клуба

**Нядаўна Санкт-Пецярбургскі ПЭН-цэнтр абралі самастойным членам Міжнароднага ПЭН-клуба. Гэтае рашэнне ўдзельнікамі Кангрэса было прынята аднагалосна.**




Вераснёўскі Кангрэс Міжнароднага ПЭН-клуба ў Львове сабраў прадстаўнікоў 69 нацыянальных ПЭН-цэнтраў, кожны з якіх — праваабарончая арганізацыя, якая аб'ядноўвае пісьменнікаў, журналістаў, блогераў, рэдактараў, занятая абаронай свабоды слова ў сваёй краіне ці ў свым рэгіёне. У розныя гады міжнародную арганізацыю ўзначальвалі Герберт Уэлс, Марыс Метэрлінк, Артур Мілер і Марыё Варгас Льёса.

Рускі ПЭН-цэнтр на кангрэс у Львоў прыехаць адмовіўся. Кіраўніка Санкт-Пецярбургскага клуба Сяргея Пархоменку выканкам Расійскага ПЭН-цэнтра выключыў з арганізацыі 10 студзеня. Пасля гэтага аб выхадзе з Расійскага ПЭН-цэнтра абвясцілі Леў Рубінштэйн, Барыс Акунін (Рыгор Чхарцішвілі) і Аляксандр Ілічэўскі. Арганізацыю таксама пакінулі Вольга Седакова, Святлана Алексіевіч, Цімур Кібіраў, Эдуард Успенскі, Уладзімір Сарокін, Андрэй Макарэвіч, Алег Хлебнікаў, Ганна Берсенева, Уладзімір Сотнікаў, Міхаіл Берг. За апошнія гады з яго выйшлі Ігар Ірценьеў, Леў Цімафееў, Людміла Уліцкая, Вольга Цімафеева, Зоя Светлавая, Ірына Сурат, Барыс Херсонскі, Віктар Шэндэровіч, Уладзімір Вайновіч, Сяргей Гандлеўскі ды дзясяткі іншых аўтараў.

# Пірацтва і кнігі

**Як паведаміў сайт «Publishing Perspectives», польскімі навукоўцамі было даказана, што выдаленне пірацкіх копій кніг з інтэрнэта не павялічвае іх легальны продаж.**

Тры даследчыкі з Варшаўскага ўніверсітэта правялі даследаванне, якое, паводле іх высноў, паказвае на тое, што выдаленне пірацкіх онлайн-копій кніг не паляпшае законныя продажы выдаўцоў. Эксперымент праводзілі Міхал Краўчык, які ўзначальваў каманду, у якую ўвайшлі два даследчыкі з факультэта эканамічных навук універсітэта, Войцэх Хардзі і Джаана Ц😊ровіч. Іх аналіз ахопліваў каля 240 кніг, даступных на польскім рынку ў 2016 годзе, розных жанраў і апублікаваных 10 выдавецтвамі, якія пагадзіліся прыняць удзел у праграме.

М. Краўчык паведаміў польскаму інфармацыйнаму агенцтву: «Мы падпісалі пагадненне з прафесійным агенцтвам, якое займаецца такой даследчай дзейнасцю». Паводле яго слоў, агенцтва выдаліла пірацкія копіі каля 120 кніг з інтэрнэта. Даследчыкі пішуць: «Хоць большасць выдаўцоў падазравалі, што пірацтва адмоўна адбіваецца на легальным бізнэсе, мы не знайшлі сведчанняў значнай змены продажаў з-за таго, што пірацкія копіі даступныя ў інтэрнэце». Яны падкрэслілі: «Лёгка ці цяжка атрымаць пірацкія копіі жаданай кнігі — гэта не мае аніякага рэальнага ўплыву на яе легальны распаўсюд».

У больш ранняй працы даследчыкаў, апублікаванай у 2014 годзе на англійскай мове, «Інтэрнэт-пірацтва і кніжны рынак: палявы эксперымент» таксама асноўная ўвага была нададзена ўплыву інтэрнэт-пірацтва на продажы кніг, і даследчыкі прыйшлі да высновы: «Выдаленне несанкцыянаваных копій з'яўляецца эфектыўным метадам стрымлівання пірацтва, але гэта не мае ніякага дачынення да іх легальнага продажу».

# Продажы электронных кніг выраслі

**Попыт на электронныя кнігі ўзрос у 1,5 разы ў параўнанні з мінулым годам.**

Рынак забяспечваюць больш нізкія, чым у папяровых кніг, кошты і шырокі дыяпазон распаўсюджвання смартфонаў, пры гэтым папулярнасць спецыяльных прылад для чытання, наадварот, зніжаецца.

Напрыклад, аб'ём расійскага рынка электронных кніг сёлета вырас напалову. Пры гэтым продаж навінак у электронным выглядзе ўжо дасягае 30-50% ад накладаў папяровых кніг, гэтая доля найбольш высокая ў жанрах фантастыкі і фэнтэзі.

Рост тлумачаць у тым ліку «высокім узроўнем распаўсюджвання смартфонаў і выкарыстання мабільнага інтэрнэта».

Зніжэнне папулярнасці прыладаў для чытання электронных кніг характэрна для ўсіх рынкаў: кампанія «Euromonitor International» паведаміла пра падзенне попыту на рыдэр з 2011 па 2016 год на 40%.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by



Фота www.image5.cbsstatic.com

# Куды прывядзе «Зорны шлях»?

Алег НОВІКАЎ

**Самы чаканы серыял гэтага сезону 24 верасня ўрэшце стартаваў. «Star Trek: Discovery» — вельмі рэдкі выпадак, калі ад фільма чакаюць не толькі захапляльнага відовішча, але і стымулаў для развіцця ўсёй цывілізацыі.**




Фота www.trekmovie.com

Мабільныя тэлефоны, шлюбы паміж прадстаўнікамі розных расаў, эмансіпацыя, і нават заканчэнне «халоднай вайны»… Некаторыя заходнія культуролагі сцвярджаюць, што за ўсе гэтыя дасягненні чалавецтва павінна быць удзячнае навукова-фантастычнаму серыялу «Star Trek» («Зорны шлях»), які выходзіў у 1960–1970-я гады і распавядаў пра прыгоды ў далёкай будучыні экіпажу касмічнага карабля «Enterprise».

Эфект ад прагляду фантастычнага твору Джына Родэнберы аказаўся такі моцны, што людзі пачалі паводзіць сябе як героі серыялу, намагацца стварыць механізмы, якія пабачылі на экране. У прыватнасці, «Зорным шляхам» натхняліся заснавальнікі мабільнай сувязі, першыя праграмісты, астранаўты, кіраўнікі NASA і многія іншыя. Серыял падштурхнуў і тэарэтыкаў фізікі.

Лічаць, што серыял паўплываў нават на глабальную палітыку. Пасля таго, як амерыканцы пабачылі, што адзін са станоўчых герояў «Star Trek» мае рускае прозвішча Чэхаў, у ЗША істотна знізіліся антысавецкія настроі. Менавіта ў 1970-х гадах мы бачым беспрэцэдэнтны працэс разрадкі і пацяплення міжнароднага клімату.

**Навукоўцы шмат у чым пераўзышлі фантастаў, якія прыдумлялі арыгінальны «Star Trek». Напрыклад, у час смартфонаў смешна выглядаюць мабільнікі-раскладанкі, якімі карыстаюцца героі фільма**

Некаторыя механізмы з серыялу дасюль захапляюць вынаходнікаў. У 2010 годзе адзін з амерыканскіх фондаў прапанаваў 10 мільёнаў долараў таму, хто створыць апарат «трыкодэр», якім карыстаюцца персанажы са «Star Trek» — партатыўную сенсарную прыладу для перадачы дадзеных аналізу аб'ектаў. На іх думку, стварэнне чагосьці падобнага будзе прарывам у медыцыне, паколькі «трыкодэр» за кошт хімічнага аналізу цела чалавека дазволіць хутка ставіць дыягназ.

Праўда, трэба прызнаць, што навукоўцы шмат у чым пераўзышлі фантастаў, якія прыдумлялі арыгінальны «Star Trek». У нашы дні тэхніка фільму падаецца не занадта футурыстычнай, а хутчэй і архаічнай. Напрыклад, у час смартфонаў смешна выглядаюць мабільнікі-раскладанкі нязграбнай канструкцыі, якімі карыстаюцца капітан Кірк і яго падначаленыя.

А яшчэ людзі спрабуюць фрагментарна пабудаваць той сацыяльны лад, які адлюстраваны ў серыяле. Героі «Star Trek» не маюць патрэбы ў грошах (інстытут грошай у фільме застаўся толькі на вельмі прымітыўных або агрэсіўных планетах), што трошкі нагадвае папулярную зараз ідэю забяспечыць усіх грамадзян мінімальным гарантаваным прыбыткам.

Так ці інакш, легендарны серыял вяртаецца. 24 верасня на экраны выйшаў першы эпізод. Ці справакуе новая версія сагі нейкія прарывы, як славуты папярэднік?

Адказ на гэта пытанне складаны і залежыць ад шматлікіх фактараў. Пры ўсёй цяперашняй пазнавальнасці брэнду «Star Trek» (франшыза ўключае на сёння шэсць тэлевізійных серыялаў, у тым ліку адзін мультыплікацыйны, 13 поўнаметражных фільмаў, сотні кніг і апавяданняў, велізарную колькасць кампутарных гульняў) сітуацыя на культурным рынку іншая, чым напачатку 1970-х.

«Star Trek», які здымаў Родэнберы, быў піянерам у жанры навукова-фантастычных серыялаў, і, напэўна, таму атрымаў столькі ўзнагародаў, што афіцыйна прызнаны самым папулярным творам у гэтай галіне.

Цяпер кінапрадукцыі з кодам sci-fi (навуковая фантастыка) на рынку зашмат. Не кажучы пра тое, што ўжо пяць гадоў пра прыгоды «Enterprise» выходзяць асобныя фільмы, якія мелі сярэдні поспех у гледача. Гэтыя мінусы аўтары новага серыялу, падаецца, намагаюцца кампенсаваць якаснай працай. Пісаць сцэнары для эпізодаў серыялу быў запрошаны цэлы пул вядомых сцэнарыстаў. Перад тым, як пачаць працу, аўтары і здымачная група шмат размаўлялі з даследчыкамі космасу і астранаўтамі.

У выніку працы сцэнарыстаў было вырашана, што падзеі ў серыяле будуць адбывацца за дзесяць гадоў да пачатку арыгінальнай гісторыі, што пабачыла свет у 1966-м. Такім чынам, мы будзем сачыць за прыгодамі не звыклых чальцоў экіпажу «Enterprise», а іх бацькоў, сяброў і родных, якія падарожнічаюць на караблі «Discovery». Гэтым разам у склад экіпажу ў якасці даніны часу трапяць і прадстаўнікі сексуальных меншасцяў.

Наўрад ці тэма сексуальных меншасцяў у космасе гучыць як нешта новае. Але нельга не заўважыць адну паралель. Сёння чалавецтва, як і 50 гадоў таму, калі на экраны выходзіў першы «Star Trek», знаходзіцца ў пошуку новых азімутаў развіцця. Таму інтарэс да «Зорнага шляху» забяспечаны.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Мае істотнае значэнне і стаўленне Уладзіміра Пуціна — ён не прыбыў у Мінск і не запрасіў беларускі бок на паказальную частку вучэнняў. Генеральны штаб РФ нават не ўзгадняў пытанні адпрацоўкі баявых дзеянняў на вучэннях з Генштабам Беларусі: яны змянілі парадак праходжання вучэнняў — і не паведамілі пра тое беларускаму боку. Гэта сведчыць, што галоўная задача — напалохаць увесь свет, паказаць здольнасць узброеных сіл Расіі ў плане правядзення гібрыдных аперацый — ад «зялёных чалавечкаў», сепаратыстаў, высадкі дэсанту, лакалізацыі і да таго падобнага. Гэта сцэнар Крыму. Яны папросту паказалі ўсяму свету, як яго рэалізоўвалі.

**«Апостраф» (Украіна)**

Уся гэтая актыўнасць (заходняя падтрымка для развіцця грамадзянскай супольнасці) зусім не з'яўляецца сакрэтам для беларускага кіраўніцтва, асабліва з улікам наяўных у яго распараджэнні сілавых і праваахоўных рэсурсаў. Хутчэй, наадварот — гэта свядомы выбар Лукашэнкі, які, мяркуючы па паведамленнях з Мінска, прыводзіць да істотнага ўзмацнення нацыяналістычнага вектара ва ўнутранай палітыцы дзяржавы. (...) Змена вектару Еўропы на эканамічнае супрацоўніцтва і раскладанне нізавога і сярэдняга звяна беларускага дзяржаўнага апарату як механізм канчатковай «дэмакратызацыі» Мінска ўяўляецца ўсё больш і больш рэалістычным.

**«Life» (Расія)**

Ёсць яшчэ вялікая для Крамля праблема: нягледзячы на саюзніцкі статус, у Беларусі няма магутных прарасійскіх партый або арганізацый. Калі ў адносінах да празаходняй апазіцыі Лукашэнка ідзе на персанальны пераслед актывістаў, то ўсе спробы стварыць «прарасійскія палітычныя сілы» заканчваліся знішчэннем саміх структур. Як кажуць у Мінску, у Беларусі толькі адзін чалавек мае права любіць Расію, усе астатнія любяць роўна ў той ступені, у якой гэта асоба дазваляе.

**ТСН (Украіна)**

У гэтым кантэксце прадэманстраваная ў легендзе вучэнняў слабая ўстойлівасць афіцыйнага Мінска да гібрыдных уплываў кампенсуецца геастратэгічнымі інтарэсамі Расіі ў рэгіёне. Ацэньваючы ключавыя трэкі дзяржаўнай устойлівасці Беларусі, можна адзначыць, што на сёння афіцыйны Мінск страціў амбіцыі і магчымасці суб'ектнай гульні ў глабальных або рэгіянальных міжнародных працэсах і абсалютна інтэграваны ў геапалітычную і геастратэгічную зону інтарэсаў і кантролю Расіі.

**Delfi.ee (Эстонія)**

Нягледзячы на ўсе гэтыя рознагалоссі, вучэнні накшталт «Захаду–2017» сведчаць у большай ступені пра беларускую патрэбу ў расійскай дапамозе. Так ці інакш, Расія з'яўляецца найбуйнейшым інвестарам для эканомікі Беларусі, а што да пытанняў бяспекі, то Мінск, як і Масква, баіцца магчымага сутыкнення з сіламі NATO. Дарэчы, Лукашэнка і Пуцін выдатна разумеюць адзін аднаго як палітыкі, паколькі іх палітычнай уладзе супрацьстаіць уся ўнутрыпалітычная апазіцыя. Таму ацэньваць беларускую знешнюю палітыку варта менавіта з гэтага пункту гледжання, нягледзячы на жаданне Лукашэнкі ў адносінах з Еўропай быць самастойным.

**«Advance» (Харватыя)**

Дарэчы, у Беларусі і Чачні ёсць адна агульная праблема: чачэнскія ўцекачы, якія акупавалі чыгуначны вакзал Брэста і жывуць там гадамі, спрабуючы з'ехаць у Польшчу. Мясцовыя СМІ неаднаразова пісалі пра праблему, але вырашыць яе не ўяўляецца магчымым, таму што польскі бок прапускае ў дзень не больш двух-трох сем'яў. Уцекачы сцвярджаюць, што ў іх няма іншага шляху, таму што ў Чачні іх пераследуюць па палітычных матывах, і спакойнага жыцця там у іх не будзе. Праўда, беларускія эксперты лічаць, што абмяркоўваць гэтую далікатную тэму Лукашэнка і Кадыраў не будуць, паколькі рэпрэсіі — справа звыклая і для аднаго, і для другога лідара.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Далоў журналістаў-абжораў!

Велізарны скандал ва Украіне выклікала нядаўняе пасяджэнне парламенцкага камітэта па пытаннях рэгламенту. Усё таму, што ключавой яго тэмай стала дзейнасць журналістаў… у сталоўцы парламента. Некаторыя нардэпы прапанавалі абмежаваць час знаходжання прадстаўнікоў СМІ ў сталоўцы Вярхоўнай Рады, бо тыя праводзяць там зашмат часу. Маўляў, прадстаўнікі СМІ «не даюць нармальна паесці і пагутарыць з калегамі». У ход пайшоў такі незвычайны аргумент, як бяспека дэпутатаў. Сцвярджаецца, што, назіраючы за меню дэпутата, можна лёгка вызначыць, якія ў яго хваробы, і пасля шантажаваць. Што тычыцца журналістаў, дык яны лічаць: сапраўдная прычына незвычайнай ініцыятывы — цэны ў сталоўцы. Як правіла, яны значна ніжэй за цэны ў звычайных кавярнях, што і выклікае нараканні ў народзе. Застаецца дадаць, што скандал вакол сталоўкі выбухнуў на фоне беспрэцэдэнтнай з'явы ў Вярхоўнай Радзе. Апошні тыдзень пасяджэнні парламента наведвалі толькі 25 працэнтаў дэпутатаў. Такой нізкай дэпутацкай яўкі ў гісторыі ўкраінскага парламентарызму яшчэ ніколі не рэгістравалі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Які сцяг у Каталоніі?

Хаця Каталонія рвецца да незалежнасці, як высветлілася, у яе няма важнага атрыбуту паўнавартаснай дзяржавы. Аказваецца, да гэтага часу ў асяродді каталонцаў ідуць дэбаты наконт сцягу. У прынцыпе, у каталонскай аўтаноміі ёсць сцяг — так званая «Senyera», чатыры чырвоныя паласы на жоўтым фоне. Лічыцца, што гэты сцяг з'явіўся ў IX стагоддзі, калі першы кароль Заходне-Франкскага каралеўства Карл II Лысы на залатым шчыце графа Барселоны Віфрэда І Валасатага намаляваў чатыры паласы крывёю самога Віфрэда перад яго смерцю (Карл абмакнуў свае пальцы ў раны Віфрэда, якія той атрымаў падчас аблогі Барселоны Лобі ібн Мухамедам, маўрскім губернатарам Лейды). Менавіта гэты сцяг не так даўно вывіў на сваёй старонцы ў сацсетках лідар Краіны Баскаў, калі павіншаваў каталонцаў з рэферэндумам пра незалежнасць 1 кастрычніка. Аднак шматлікія каталонцы раскрытыкавалі той пост. Яны лічаць, што сцягам Каталоніі мае быць «Estelada» — сцяг руху за незалежнасць Каталоніі, які ўзнік як злучэнне «Senyera» з зоркай, упісанай у блакітны трохкутнік. Але на гэтым спіс варыянтаў не заканчваецца. Ёсць яшчэ «Estelada roja» (тое ж самае, што і «Estelada», толькі з чырвонай зоркай у белым трохкутніку) — сцяг каталонскіх левых, якія былі вядучай партыяй каталонскага супраціву дыктатуры Франка. Які варыянт сцяга ў выніку пераможа, сказаць цяжка. Праўда, найперш каталонцам трэба дамагчыся суверэнітэту.

**Паводле іспанскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Унук Назарбаева — наркаман

Угэтым Айсултан Назарбаеў, якому 26 гадоў, другі сын дачкі кіраўніка дзяржавы, прызнаўся на днях асабіста. Навіна актыўна абмяркоўваецца ў казахскай прэсе і сацсетках. Узнікае заканамернае пытанне пра прычыны, якія вымусілі чальца галоўнай сям'і краіны пайсці на такі крок. Ёсць думка, што прызнанне Айсултана Назарбаева прадыктавана не столькі асабістымі прычынамі, колькі палітычнай неабходнасцю. Пачатак пераходу вярхоўнай улады ў Казахстане рэзка абвастрыў і без таго складаную сітуацыю ў кіруючай эліце, якая ў значнай частцы складаецца са сваякоў Нурсултана Назарбаева. У гэтых умовах «вайна кампраматаў» практычна непазбежная, а ўжыванне наркотыкаў з'яўляецца «слабым месцам» пры любым раскладзе. Таму сенсацыйнае прызнанне ўнука кіраўніка дзяржавы можна ацаніць як своечасовае. Нават немагчыма ўявіць, што будзе, калі вайна за трон Назарбаева пяройдзе ў гарачую фазу.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЗША. Ісламскіх тэрарыстаў спарадзілі брытанцы?

Вельмі рэдка гістарычныя тэксты выклікаюць глабальны інтарэс. Але менавіта такі артыкул днямі апублікаваў амерыканскі гісторык Джонатан Лоўрэнс у нямецкай газеце «Frankfurter Allgemeine Zeitung». На думку аўтара, менавіта Захад (а дакладней, брытанцы) нясе адказнасць за цяперашні выбух ісламскага тэрору ў свеце. Пачалося ўсё сто гадоў таму, калі ў час Першай сусветнай вайны Лондан справакаваў арабаў Асманскай Імперыі на паўстанне супраць Стамбула. У выніку яно дапамагло краінам Антанты перамагчы туркаў і ліквідаваць султанат (1922 год). Пры гэтым на той час мала хто звярнуў увагу, што турэцкі султан акрамя ўсяго лічыўся лідарам ісламскага свету і, сярод іншага, кантраляваў усе рэлігійныя школы. Пры гэтым ён быў арыентаваны на дыялог ісламскага свету і Еўропы. Пасля краху султанату ў ісламе паўстаў вакуум, які паступова захапілі вельмі радыкальныя школы з Аравіі. Праз нейкі час аравійская школа ісламу сфармулявала дактрыну, якой цяпер карыстаюцца радыкальныя ісламісты.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.russian.rt.com

# Курдская міна

*Алег НОВІКАЎ*

**На рэферэндуме ў Іракскім Курдыстане больш за 92% прагаласавалі за незалежнасць. На думку экспертаў, такі вынік ускалыхне не толькі Блізкі Усход, аднак і ўвесь свет.**

«Нават станоўчае галасаванне аўтаматычна не будзе азначаць незалежнасць Курдыстана. Яно нават не будзе неадкладным пачаткам запуску працэдуры», — супакойваў крытыкаў ініцыятар рэферэндуму, прэзідэнт іракскага Курдыстана Масуд Барзані.

Варта таксама нагадаць, што ў 2005 годзе ў Курдыстане таксама праходзіў рэферэндум, на якім 98% курдаў прагаласавалі за незалежнасць, аднак ніякіх прававых вынікаў тое галасаванне не мела.

З улікам рэплікі Барзані і падзей 2005 года, курдскі рэферэндум, падаецца, не ўяўляе асаблівага інтарэсу. Аднак сусветная прэса працягвае біць у званы, пра што сведчаць загалоўкі артыкулаў, прысвечаных плебісцыту: «Танец з шаблямі», «Курдскі ўраган», «Ці выбухне рэгіён?» і гэтак далей.

Неспакойна і ў канцылярыях сталіцаў суседніх дзяржаў. За тыдзень да галасавання турэцкія войскі пачалі незапланаваныя ваенныя вучэнні на мяжы з Іракскім Курдыстанам. У Багдадзе рэферэндум завочна абвясцілі актам агрэсіі. Нагадаем, што Іракскі Курдыстан — аўтаномія на поўначы Ірака, статус якой замацаваны ў Канстытуцыі краіны.

Якія падставы для дэманстрацыі такіх эмоцый? Па-першае, мала хто верыць, што ўсё скончыцца кансультацыяй. Курды, якія за кошт Злучаных Штатаў стварылі моцную армію, што адыгрывала прыкметную ролю ў баях з Ісламскай дзяржавай, разумеюць унікальнасць сітуацыі. Такі шанец, як зараз, з'явіцца ў іх іншым разам не хутка. Лепшая ілюстрацыя на гэты конт — ігнараванне Барзані заклiку Белага дому, дзе яму прапанавалі адмовіцца ад апытання. Таму простай «кансультацыяй» усё наўрад ці абмяжуецца.

Працэс афармлення курдскай дзяржаўнасці, які так ці інакш паскорыцца пасля 25 верасня, адназначна прывядзе да шэрагу канфліктаў. Курдская адміністрацыя на цяперашні момант працуе на тэрыторыях, межы якіх у значнай ступені вызначылі поспехі ў баявых дзеяннях. Гэтыя межы, натуральна, не прызнаюць суседзі. Перш за ўсё, вайна можа пачацца з метраполіяй. Непазбежнасць вайны з Багдадам адкрытым тэкстам вызнаюць курдскія СМІ.

Наўрад ці ўсё абмяжуецца толькі Іракам. 30 мільёнаў курдаў раскіданыя на межах Сірыі, Ірана і Турцыі. І само галасаванне можа выклікаць сепаратысцкія настроі ў курдскіх камунах. У лепшым выпадку, можа паўстаць пытанне аб федэралізацыі Сірыі і Турцыі. У апошняй сітуацыя найбольш небяспечная — кіраўніцтва Турцыі ўжо 30 гадоў змагаецца з курдскай партызанкай.

Курды Сірыі яшчэ ў сакавіку 2016 года абвясцілі пра стварэнне свайго аўтаномнага рэгіёну, а цяпер рыхтуюцца да правядзення выбараў у мясцовыя органы самакіравання. Натуральна, без якой-небудзь каардынацыі з афіцыйным Дамаскам. У Іране, дзе курдская грамада складае

**Курды, якія за кошт ЗША стварылі моцную армію, што адыграла прыкметную ролю ў баях з Ісламскай дзяржавай, разумеюць унікальнасць сітуацыі**

8 мільёнаў, таксама наўрад ці абыдзецца без актывізацыі сепаратызму.

Няма сумневу, што глабальныя і рэгіянальныя гульцы пачнуць выкарыстоўваць «Курдскую вясну» ў сваіх інтарэсах. Кандыдатам нумар адзін называюць Ізраіль, які можа падтрымаць незалежнасць Курдыстана, каб насаліць Ірану. Пасля падцягнуцца арабы, якія таксама маюць не лепшыя адносіны з Тэгеранам. Магчыма, абвастрэннем паміж курдамі і іранцамі скарыстаецца і Вашынгтон для наўпростай антыіранскай вайсковай акцыі.

Наўрад ці застанецца ўбаку і Масква. Хаця афіцыйна Крэмль заклікае да вырашэння курдскага пытання сродкамі міжнароднага права, на старонках праўрадавай прэсы гучыць іншая думка. Частка расійскага палітыкуму заклікае Пуціна спрыяць суверэнітэту курдаў, што дапаможа легалізаваць сепаратысцкія рэспублікі на Данбасе.

Традыцыйна курдскай праблематыкай цікавяцца ў Арменіі. Не толькі таму, што тут існуе моцная курдская грамада. Некаторыя армянскія палітыкі дасюль фантануюць праектам Вялікай Арменіі, у склад якой павінна ўвайсці частка Усходняй Турцыі. Дапамагчы ў рэалізацыі плану чамусьці павінны курды. Напэўна, Ерэван таксама будзе нейкім чынам спрыяць актуалізацыі курдскага пытання.

Трэба адзначыць, што не ўсе палітолагі вераць у непазбежнасць эскалацыі пасля 25 верасня. Ёсць аптымісты, якія спадзяюцца, што ўсё абыдзецца, і на Блізкім Усходзе захаваецца стабільнасць. Іх галоўны тэзіс — Барзані блефуе. Тэма рэферэндуму патрэбная яму, маўляў, каб узмацніць пазіцыі на перамовах з Багдадам наконт багатых на нафту спрэчных рэгіёнаў.

Магчыма, такая версія мае грунт, аднак ці будзе здольны Барзані ўтрымаць працэс пад кантролем? Тон курдскіх СМІ, якія пісалі пра падрыхтоўку да рэферэндуму, вельмі ваяўнічы. «Ад вас, курдаў Іракскага Курдыстана, залежыць сёння будучыня ўсяго курдскага народа, яго маральны дух, імкненне да свабоды! Чым больш палохаешся звера, тым большая верагоднасць, што ён нападзе на цябе і прычыніць табе шкоду! Жэрабя кінутае! Ні кроку назад!» — пісаў адзін з курдскіх інтэлектуалаў напярэдадні 25 верасня.

Як следства, даводзіцца канстатаваць, што рэферэндум сапраўды яшчэ больш ускладніць і без таго складаны блізкаўсходні палітычны ландшафт.

# «Ямайкі» не будзе?

Алег НОВІКАЎ

**Хаця Ангела Меркель паабяцала немцам да Калядаў новы кабінет «Ямайкі» — кааліцыю кансерватараў, лібералаў і «Зялёных», — шмат хто сумняваецца ў тым, што такі ўрад паўстане. Сярод скептыкаў — Макс Вольф, актывіст нямецкай арганізацыі «Маладыя Зялёныя», які дзеліцца з «Новым Часам» сваім меркаваннем.**



Фота www.ria.ru

***— Адкуль узялася версія, што перамовы наконт кааліцыі ў фармаце «Ямайка» вырачаныя на правал? Хіба не існуюць падобныя кааліцыі на месцах, у тым ліку па ўзроўні рэгіянальных урадаў?***

— Кааліцыі, створаныя па формуле «Ямайка», — сапраўды, не такая ўжо і рэдкасць, асабліва на мясцовым узроўні. Аднак дасюль цяжка ўявіць, што па такой формуле можа быць сфармаваны федэральны кабінет. На месцах прыярытэтам для палітыкаў з'яўляюцца гаспадарчыя і інфраструктурныя пытанні. Тут кансэнсус знайсці прасцей. А вось падчас перамоваў нацыянальных лідараў узнікае канфлікт паміж рознымі ідэалагічнымі праектамі. У дадзеным выпадку вельмі часта яны супрацьлеглыя. Не кажучы пра тое, што пры падрыхтоўцы кааліцыйнай дамовы, якая фактычна адыгрывае ролю закону, партыі будуць намагацца давесці, што менавіта іх пазіцыя ў дакуменце ўлічаная.

***— Якія тэмы могуць выклікаць спрэчкі падчас кансультацый наконт праграмы новага ўраду?***

— Пачаць можна з праблемы клімату. У адрозненне ад эколагаў, лібералы ніколі не верылі ў кліматычныя змены. Як следства, партыя супраць таго, каб нямецкія фірмы і кампаніі плацілі падаткі на барацьбу з $CO_2$, памяншаючы сабекошт вытворчасці. Хапае працiўнікаў і сярод кансерватараў, асабліва сярод баварцаў. Баварскі Сацыяльна-Хрысціянскі саюз (CSU) — партнёр Меркель, увогуле будзе адыгрываць асобную ролю на гэтых перамовах. У баварцаў свае арыгінальныя погляды на шматлікія праблемы. Напрыклад, у Мюнхене кепскім тонам лічыцца падтрымліваць міграцыйную палітыку канцлера. CSU адмаўляецца ісці ў «Ямайку», калі не будзе прыняты план па барацьбе з уцекачамі.

***— На выбарах антырэкорд пабілі не толькі хрысціянскія дэмакраты і сацыял-дэмакраты, але і партыя хрысціянскіх сацыялістаў. У іх — найгоршы паказчык па колькасці галасоў за ўсю гісторыю. Ці магчыма лібералізацыя профілю партыі?***

— Паколькі галасы ў партыі Хорста Зеехофера, лідар CSU, забіралі правыя папулісты, то, хутчэй, наадварот — партыю чакае яшчэ больш правы трэнд. Гэта азначае таксама больш кансерватыўны погляд на сямейную палітыку, ідэю пашырыць паўнамоцтвы сілавікоў — што не падабаецца «Зялёным» (Bündnis 90/Die Grünen). Аднак нават калі б не было баварскага фактару, «Зялёным» будзе цяжка выпрацаваць дамову з іншымі партыямі па той жа тэме мігрантаў. Лібералы ў лепшым выпадку пагаджаюцца даваць часовы прытулак для ахвяраў вайсковых канфліктаў. «Зялёныя», у сваю чаргу, прапануюць раздаваць у зонах канфліктаў так званыя «гуманітарныя візы», якія дазволяць уцекачам законна ехаць у ЕС. Нават калі бакі неяк дамовяцца, першы ж сур'ёзны крызіс з мігрантамі адразу справакуе раскол. І такі крызіс можа з'явіцца вельмі хутка — праз пытанне, ці могуць тыя, хто прыехаў у 2015-м у Германію і атрымаў прытулак, запрашаць да сябе чальцоў сваіх сем'яў.

***— Вядома, што патэнцыйныя суб'екты ўраду маюць розныя погляды на ўкраінскае пытанне. «Зялёныя» выступаюць паслядоўнымі апанентамі Пуціна, а лібералы, наадварот, прапануюць вярнуць Расію ў «Вялікую васьмёрку». Якія яшчэ нестыковкі магчымы наконт знешняга курсу ФРГ?***

— Прэса лічыць, што будзе цяжка знайсці агульны погляд на праблему Грэцыі. Лібералы і частка кансерватараў заклікаюць да выключэння Грэцыі з зоны еўра. Эколагі, наадварот, прапануюць скарацiць грэкам доўг і прадумаць пакет інвестыцый у краіну. Чамусьці лічыцца, што міжнародны накірунак — адзін з самых неканфліктных для міжпартыйных перамоваў. У прынцыпе, усе схіляюцца да думкі, што Меркель — вельмі важная фігура еўрапейскай палітыкі, і будзе кантраляваць знешні дэпартамент. Значна больш спрэчак будзе наконт фіскальнай палітыкі. Лібералы часткова абавязаныя сваім поспехам абяцанню ўдвая скараціць падаткі. З такім радыкальным падыходам не пагодзяцца іншыя кааліцыянты.

***— «Маладыя Зялёныя» вельмі крытычна ставяцца да ідэі кааліцыі. Чаму?***

— Не толькі маладыя, аднак частка «дарослай» партыі супраць сяброўства ў кабінеце Меркель. Правальнасць такой камбінацыі ілюструе досвед сацыял-дэмакратаў, якія за часы «вялікай кааліцыі» страцілі твар, перасталі ўспрымацца як альтэрнатыўная сіла. Паколькі балансу з Меркель дасягнуць не ўдасца, падобны лёс можа чакаць і «Зялёных». Не кажучы пра тое, што «Зялёныя» — гэта суіснаванне двух фракцый: левых «фундаменталістаў» і больш правых «рэалістаў». Калі рэалісты, якія цяпер кіруюць партыяй, пойдуць на вельмі шчыльную кааперацыю з тымі ж лібераламі, не выключаны ўнутрыпартыйны крызіс.

***— Ці ёсць апаненты «Ямайкі» сярод кансерватараў і лібералаў?***

— Калі верыць прэсе, шмат паплечнікаў Меркель не бачаць перспектываў у саюзе з «Зялёнымі» праз розныя погляды на сямейную і культурную палітыку. Такой думкі прытрымліваецца і фракцыя лібералаў, якая лабіруе інтарэсы аўтамабільнай індустрыі.

***— Ці магчымае ў выпадку правалу перамоваў наконт «Ямайкі» правядзенне новых выбараў?***

— Варыянт датэрміновых выбараў у Бундэстаг не выключаецца, хаця незразумела, як да такой ідэі паставіцца грамадскасць. Ніколі ў гісторыі ФРГ не было сітуацыі, калі партыі пасля выбараў не змаглі сфармаваць урад. У мінулым ФРГ не існавала і выпадкаў, калі ўрад не меў дэпутацкай большасці. З іншага боку, усё больш немцаў разумее, што часы старой двухпартыйнай сістэмы, калі пры ўладзе знаходзіліся эсдэкі або хрысціянскія дэмакраты, засталіся ў мінулым. Так ці інакш, у выніку ўсё будзе залежаць ад сацыялагічных апытанняў. Калі рэйтынгі кансерватараў пойдуць уверх, не выключана, што Меркель сапраўды можа пайсці на новыя выбары.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Жааў Лоўрэнсу



У Анголы — новы прэзідэнт, і гэта беспрэцэдэнтная падзея, паколькі папярэдні прэзідэнт Жазэ Эдуарду душ Сантуш знаходзіўся ва ўладзе 38 гадоў. І ў прынцыпе мог спакойна кіраваць далей: яго сям'я валодае амаль усімі багаццямі краіны, кантралюе сілавую вертыкаль і ўжо доўгі час паспяхова маргіналізуе апазіцыю. Аднак у свеце пачаўся эканамічны крызіс. Прэзідэнт зразумеў, што краіну можа неўзабаве чакаць лёс Венесуэлы, якая апынулася на парозе грамадзянскай вайны. Таму Эдуарду душ Сантуш вырашыў прыняць меры, накшталт дэкаратыўнай перадачы ўлады вельмі блізкаму да сябе чалавеку. 62-гадовы Жааў Лоўрэнсу, як і Эдуарду душ Сантуш, пачынаў у шэрагах партызан-камуністаў, аднак з часам падтрымаў лінію на рынкавыя рэформы. У яго біяграфіі ёсць такія этапы, як праца на пасадзе намесніка спікера парламенту, губернатара, міністра абароны. У гэтым плане некаторыя лічаць, што ў Анголе рэалізаваная мадэль палітыка-прававой абароны былога лідара краіны і яго сям'і, якая была ў свой час у Расіі, калі Ельцын добраахвотна склаў свае паўнамоцтвы, зрабіўшы кіраўніком дзяржавы Пуціна. У абмен на гэта Ельцын атрымаў імунітэт ад разнастайных крымінальных пераследаў. Аднак ёсць і іншая думка: Лоўрэнсу з'яўляецца моцным палітыкам, які не будзе марыянеткай Эдуарду душ Сантуша.

### Георгій Квірыкашвілі



Прэм'ер Грузіі, лідар урадавай партыі «Грузінская мара» пасля амаль 9-месячнага марафону дабіўся таго, што парламент прагаласаваў за новую рэдакцыю канстытуцыі Грузіі. Асноўныя фішкі новай грузінскай Канстытуцыі — адмена наўпроставых выбараў прэзідэнта і абмежаванне яго паўнамоцтваў, пераход на прапарцыйную сістэму выбараў дэпутатаў. Неабходнасць рэформы ініцыятары тлумачылі тым, што дзеючы асноўны закон у свой час пісаўся пад прэзідэнта Саакашвілі, які планаваў пасля заканчэння прэзідэнцкіх кадэнцый кіраваць Грузіяй як прэм'ер. Цяжка сказаць, ці новая версія Канстытуцыі сапраўды ліквідуе прававую базу стварэння аўтарытарнага ўраду. Хаця б таму, што апазіцыя (як празаходняя, так і прарасійская) крытыкавала дакумент і галасавала супраць. На думку апазіцыі, новы Асноўны закон забірае ў народа права на абранне прэзідэнта. Апазіцыянеры таксама лічаць, што новая сістэма выбараў забяспечвае партыі «Грузінская мара» бяспройгрышныя выбары. Падтрымалі апазіцыю і большасць грамадскіх арганізацый краіны. Цікава, што сярод крытыкаў апынуўся і цяперашні прэзідэнт Георгій Маргвелашвілі, які быў абраны на гэтую пасаду як кандыдат ад «Грузінскай мары».

### Хасан Рухані



Прэзідэнт Ірана, які фактычна выконвае функцыі прэм'ера, не адважыўся кінуць выклік клерыкалам і даць жанчынам права наведваць футбольныя матчы. Забарона іранкам на ўваход на стадыёны паўстала пасля перамогі ў краіне Ісламскай рэвалюцыі, аўтары якой лічылі, што футбол і жанчыны — рэчы несумяшчальныя. Аргументы прыводзіліся наступныя. На трыбунах жанчыны пераймаюць ад мужчын-фанатаў вульгарныя звычкі і лексіку. Акрамя таго, футбол як гульня, дзе прысутнічае фізічны гвалт, можа кепска паўплываць на псіхіку жанчыны. Заклікі адмяніць той закон гучалі даўно, аднак на днях тэма стала вельмі балючай. Усё праз матч паміж зборнымі Ірана і Сірыі ў Тэгеране. Сярод сірыйскіх фанатаў, што прыехалі падтрымаць каманду, былі і жанчыны, якія знаходзіліся ў сірыйскім сектары. З'яўленне жанчын на стадыёне выклікала вялікую дыскусію ў тым ліку таму, што іранак, якія таксама хацелі паглядзець гульню, на стадыён традыцыйна не пусцілі. Дэбаты наконт адмены згаданага закону разгарнуліся нават у парламенце, які прыняў адпаведную рэзалюцыю. Аднак пастановы дэпутатаў усё роўна не хапіла, каб Рухані паўстаў супраць ісламскіх парадкаў. Праўда, некаторыя змены ўсё ж адбудуцца. На іранскіх стадыёнах плануюць адчыніць сектары, куды будуць пускаць сямейныя пары.

# «Ходзім мы пад месяцам высокім, а яшчэ пад ГПУ»

Наталля ГАРДЗІЕНКА

**Знаны дзеяч беларускай эміграцыі Юрка Віцьбіч неяк напісаў: «Пры незадаволенасці наяўнымі гісторыямі айчыннай літаратуры, напісанымі ці ў самой Беларусі, ці, прыкладам, ва ўсё яшчэ туманным Альбіёне, падумалася, якой цікавай магла б атрымацца кніга, каб яе напісалі эмігранты. Калі б раздзел пра Францішка Скарыну ў падручніку быў напісаны (або складзены з працаў) Вітаўта Тумаша, раздзел пра Янку Купалу належаў бы Станіславу Станкевічу; Антон Адамовіч быў бы аўтарам раздзелаў пра Андрэя Мрыя, Лукаша Калюгу ды іншых узвышэнцаў, а таксама наватарскіх, аўтарскіх — пра супраціў саветызацыі ды пра мастацкую крыптаграфію ў беларускай літаратуры. А Юрка Віцьбіч, безумоўна, расказаў бы пра ТАВІЗ, а таксама пра ягоных сяброў — Тодара Кляшторнага ды Юлія Таўбіна. Хто ведае, мо і сапраўды варта скласці гэткі падручнік». Што ж, паспрабуем?**


Юрка Віцьбіч


Юлій Таўбін

Няма, здаецца, у беларускай літаратуры больш трагічнай асобы, чым Тодар Кляшторны. Ён прыйшоў у беларускую паэзію з асаблівасцямі, якія не маглі атрымаць свайго поўнага развіцця. Тыя надзеі, якімі жыў паэт, не спраўдзіліся. Жыццё вымагала ад яго таго, чаго ён не мог даць.

Кляшторны прыйшоў у супярэчнасць з «сацыялістычным рэалізмам», якога вымагалі бальшавікі ў літаратуры. Прытрымліваючыся такога рэалізму, трэба было ісці супраць аб'ектыўнай рэчаіснасці, трэба было адважыцца ашукваць самога сябе, трэба было папросту ілгаць, чаго шчыры і сапраўдны паэт не хацеў. Адгэтуль трагізм Кляшторнага як паэта і чалавека.


Тодар Кляшторны

Ужо першы зборнік вершаў Кляшторнага гаворыць аб творчай раздвоенасці паэта. Сам назоў яго «Светацені» сведчыць пра гэта. Звонкія вершы гэтай кніжкі не затушоўваюць сапраўднага твару паэта. У «кляновых завеях» жыцця ён далей ідзе сваёй дарогай. Але паэт чуе, што яго творчасць прыходзіць у разлад з наказамі савецкай казённай крытыкі. Таму зусім зразумела жаданне Кляшторнага «некуды пайсці», пайсці ад таго, што яму абрыдла і нецікава. Пайсці абы-куды, толькі б не бачыць «сонечнай радзімы», толькі б заглушыць боль па ёй.

*Пайсьці-бы ў ноч,*
*Пайсьці далінай,*
*Пайсьці-б чорт ведае куды.*
*Ня ўсе пратаптаны пуціны,*
*Ня ўсе стаптаны гарады.*

Але ж ад жорсткай сапраўднасці нікуды не падзенешся. За кожным такім ідэйным хістаннем паэта сачыла НКВД. Дарма што ім на першы выгляд ніхто не цікавіўся. Паэт добра разумеў сваё становішча, хоць ён *«не ўмее ні плакаць, ні каяцца за няпэўна пастаўлены крок»*.

Яго не надта палохала, што *«Ходзім мы пад месяцам высокім, //А яшчэ пад ГПУ...»*, як трапна ахарактарызаваў ён стан рэчаў у Савецкім Саюзе. Гэтае двухрадкоўе зрабілася гістарычным афарызмам, які не сыходзіў з вуснаў чытаючай публікі.

Тодар Кляшторны ішоў ужо па шляху, супрацьлеглым таму, па якім ішлі так званыя «савецкія паэты». Затое гэты шлях не з'яўляецца ганебным. Гэта шлях свядомай самаахвярнасці.

У беларускай літаратуры Тодар Кляшторны лічыўся афіцыйна мяшчанскім, канарэечным, хоць і таленавітым паэтам. Чаму? Таму што ён не пісаў аб «шчаслівым і радасным жыцці» народаў СССР, аб «мудрым бацьку Сталіне». У адказ на тое, што паэта называлі «мяшчанскім, канарэечным», ён купіў за апошнія грошы канарэйку і, напіўшыся, прыносіў яе ў Дом пісьменніка ў Мінску, садзіўся за стол; у такім выглядзе заўсёды плакаў.

— Чаго ты плачаш, Тодар? — пыталіся сябры.

— Канае ў клетцы канарэйка...

Кляшторны пакуль што быў нікому не патрэбны і ўсімі занядбаны. Паэт жыў у вялікай беднасці, хадзіў вельмі дрэнна апранутым і нават галодным. Але творчай дзейнасці ён не пакідаў.

Выйшла наступная кніга вершаў — «Ветразі». Паэт дарэмна імкнуўся заплыць на ветразях у сонечную краіну.

— Нікуды не заплывеш! — думалі ў НКУС. — Мы заўсёды ў час зловім цябе «за парусa». І сапраўды, каб пазбавіць магчымасці плыць далей на гэтых ветразях у краіну мараў і летуценняў, у 1937 годзе Тодара Кляшторнага арыштавалі органы НКУС.

Дарэмна ён дбаў пра тое, каб *«праз шторм трапіць на штурм»* (яго кніга «Праз шторм на штурм»). Савецкі шторм разбіў ушчэнт «ветразі» лірычнага паэта. Дарэмна ён заліваўся салаўіным голасам у падзямеллі НКУС — свет яго, на жаль, больш не пачуў.

Яшчэ адна ахвяра бальшавізму.

Гэты верш Тодара Кляшторнага прынёс з турмы і ссылкі на волю ў сваёй галаве другі паэт — Уладзімір Клішэвіч. На вялікі жаль, страшны час выціснуў з яго памяці першы радок, але гэта не пазбаўляе верш каштоўнасці і цікавасці.

***Сад***
*Люблю твой ціхі сумны голас.*
*Жыцьцё маё пайшло наспад,*
*Мароз пачаў кранаць мой голас.*
*Ня чуць ласкавых слоў яе,*
*Ў лятунках створанай дзяўчыны*
*І ружы цьвет не для мяне*
*І цьвет каханьня мой зачынен.*
*Хоць ёсьць любоў і вера ёсьць,*
*Што мы ў жыцьці ня толькі госьці,*
*Красуй чужая маладосьць*
*Красой шчасьлівай маладосьці.*

**Менск, турма**

## «Шолах шын і шум машын»

Калі ідзеш па вуліцах Амерыкі, па якіх несупынным струменем льюцца аўтамашыны розных марак, адразу прыгадваецца паэт Юлій Таўбін. Ці ведае хто тут, што ён там, у змрочным засценку НКУС, абвінавачваўся за вось гэты несупынны рух, за святло менавіта гэтых рознакаляровых рэкламаў, за ўвесь імклівы поступ тутэйшага жыцця?

Юлій Таўбін з'яўляецца адным з найбольш культурных беларускіх паэтаў. Менавіта таму яго тэматыка аніяк не супадала з афіцыйнай тэматыкай, прызначанай бальшавіцкімі камісарамі для беларускіх пісьменнікаў.

Паэт мусіў усхваляць савецкую краіну і ганьбіць замежныя краіны. Ён на гэтае не надаваўся. Таму Юлій Таўбін спачатку эміграваў у сярэднявечча. Прыгадваецца ягоны прачулы верш «Сірано дэ Бержэрак», які б нават адзін у іншай краіне даў бы аўтару агульную вядомасць і прызнанне. Савецкая ж крытыка адразу зазначыла, што радок з гэтага вершу *«з разбітаю лютняй ідзе паэт»* мае непасрэднае дачыненне не да Сірано дэ Бержэрака, а да Юлія Таўбіна.

Праз некаторы час паэт напісаў верш пра Амерыку. У ім прыгадваюцца амаль усе штаты ў сувязі з іх гэтак непадобным на савецкую рэчаіснасць жыццём. І пасля кожнай страфы паўтараецца радок «Злучаныя Штаты». На жаль, у памяці цяпер захавалася толькі адна страфа, якая ўсё ж дае поўнае ўяўленне і пра высокамастацкасць усяго твору і пра яго напрамак:

*Шолах шын і шум машын.*
*Вашынгтон і Віскансін.*
*Злучаныя Штаты.*

Гэтым вершам паэт напісаў сабе прысуд. Прынамсі, калі праз некаторы час НКУС арыштавала Юлія Таўбіна, дык следчы, прачытаўшы яму ўвесь верш, запытаўся:

— В Америку хочешь эмигрировать? Ха-ха! В Советском Союзе не нравится? Может быть и на визу рассчитываешь? Получи-ка тем временем, контра, пять лет Колымы.

І Юлій Таўбін, які пры іншых умовах аздобіў бы сабой беларускую мастацкую літаратуру, знік назаўсёды ў жудасных савецкіх канцлагерах.



# Заходнікі і ўсходнікі

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

« Заканчэнне.
Пачатак у №№ 34-35

**Для мяне стала навіной, што на Усходняй і Заходняй частках акупаванай Беларусі існавалі розныя формы кіравання.**

## Дэмакратыя пад акупацыяй

У Заходняй Беларусі кіравалі цывільныя адміністрацыі, якія часта ўзначальвалі палякі. Пасада вясковага старасты — солтыса — была выбарнай. У некаторых вёсках сяляне дамовіліся адбываць абавязкі «старшага» па чарзе, па месяцу кожны. Солтысы лавіравалі паміж акупантамі і мясцовымі жыхарамі і не раз ратавалі аднавяскоўцаў ад смерці. Адну з такіх гісторый я сустрэла ў друку.

Немцы з аўтаматамі, аўчаркамі ачапілі вёску. Людзі стаяць, маўчаць, некаторыя плачуць, некаторыя моляцца ў чаканні смерці. І тут з натоўпу выходзіць наперад солтыс: становіцца перад фашыстамі на калені і просіць за аднасяльчан — жанчын, дзяцей, старых. Ён запэўнівае немцаў, што вёска з партызанамі не звязаная, што іх мужчын у лесе няма (што было няпраўдай). На шчасце, яму паверылі. Узрадаваныя вяскоўцы спешна сабралі для «немчуры» харч. А солтыса пасля вяртання Другіх Саветаў ніхто не выдаў, інакш яго «загналі б у Калыму», апавядае Вера Пазняк.

Бывала, што солтысы ўладжвалі канфліктныя сітуацыі і з партызанамі.

Пра сваю маладую маці расказвае Ніна Паўлаўна Пернікава (Кулік): «Ноччу ў акно хаты пагрукаліся коннікі з вінтоўкамі. Маці кінулася босая па снезе папярэдзіць сястру, што партызаны забіраюць зерне. Конныя за ёю, па слядах. Прыскакалі, грукаюцца ўжо да сястры. Здзіўчыну хацелі расстраляць. Маўляў, калі яна да вас тры кіламетры даймчала, то і да немцаў дабяжыць. Паднялася ўся вёска, людзі пабеглі да солтыса, і той уладзіў справу. Дзед, канечне, аддаў партызанам схаванае зерне: «Што хочаце бярыце, толькі не чапайце дачку...»

З Заходняй нават у Нямеччыну траплялі па-іншаму. «У нас была звычайная вярбоўка: хто хацеў, той і ехаў». Альбо солтыс развозіў па хатах павесткі з прадпісаннем збірацца на працу ў Рэйх. Ля Налібоцкай пушчы за непадпарадкаванне гітлераўцы знішчылі цэлую вёску.

## Другія Саветы — не значыць іншыя

Пры Другіх Саветах пачалася другая хваля рэпрэсій. Пры раскулачванні сям'і Сяліцкіх забралі ўсё, нават пустыя бутлі. Звезлі малацілку, нажытую «не сваёй працай». Прыязджалі падводы, чалавек з ружжом падпісваў паперы — і ўсё забіралася. Маці плакала і прасіла: «Пакіньце хоць штосьці дзецям!»

Згадвае Ніна Лявончык:

«З нашай вёскі высланы былі Аксіння і Рыгор Клямёнак з дзесяццю дзецьмі. Яны, як і многія іншыя, наймалі на сезонную працу работнікаў, але ж і самі гнулі спіны. Так працавалі, што адзенне ад солі карабацілася... Пасадзілі ўсіх на колы і павезлі. Такія былі добрыя, прыязныя людзі, а вярнуліся з высылкі — мы іх не пазналі. Недаверлівыя, з-пад ілба глядзяць, суседзяў баяцца... Нават унук выглядаў ваўчанём і з намі, дзецьмі, не лучыўся.

Далі сялянам соткі, а як іх абрабляць? Ва ўсіх жа пазабіралі вупраж, калёсы, коней... Праўда, людзі тое-сёе ад уладаў прыхавалі: хамут які, плуг, саху. Дарослыя ад агентаў пахаваюцца, а нам, дзецям, наказваюць: «Кажыце — не ведаем, дзе маці з бацькам».

У ямах на былых хутарах хавалі хатнюю жывёлу. Помню, у Юстыніных ямах рохкаюць парсючкі, мычаць цяляты, бляюць авечкі... За два кіламетры мусілі насіць жывёле ежу і ваду. Ад такога жыцця татавы браты і сёстры паз'язджалі хто куды. Прыедуць з Латвіі і дзівяцца, як бедна мы жывём...»




«Мы былі закончаныя працаголікі, — лічыць Соф'я Капуцкая. — Што на хутары, што ў калгасе. Усёй сям'ёй шчыравалі на калгасных дзялках, грабілі сена, жалі жыта, палолі лён, маці адзін час была звеннявою. Хутары сцягваліся ў вёскі. Калгасы ствараліся з цяжкасцю, старшыні кожныя паўгода мяняліся. Паставяць, было, п'яніцу, а той і на сваім падворку не гаспадар... Коні дохлі, інструмент псаваўся. Калгаснае кралі і прадавалі».

Тры з паловай гады адседзеў у турме Апанас Малец з вёскі Феліксы ля Малога Мажэйкава. Ён катэгарычна адмаўляўся ісці ў калгас. Не паважаў старшыню-гультая, які да прыходу Саветаў не злазіў з печы.

«Старшыня неяк рана і недарэчна памёр. Яго неслі на могілкі з бадзёрай піянерскай песняй: «По-гиб наш юный ба-ра-бан-щик»... Бацька пазбег раскулачвання, затое пагарэў на «спекуляцыі»: павёз з суседам прадаваць яблыкі ў Ленінград, машына, як на тое, перавярнулася, так іх застукала міліцыя.

І вось пасля адсідкі прыходзіць да нас знаёмы падатковы агент. Я памятала, як у нашай хаце ён калісьці зняў са сцяны і падраў на дробныя кавалачкі рэлігійны каляндар. Мама плакала, а бацька, зазлаваўшы, прымусіў сабраць абрыўкі. Ну, заяўляецца той самы чалавек. Як бы мірыцца. Мама прыгатавала абед. Палагаднелы прадстаўнік улады пытаецца:

— Апанас Ігнацьевіч, ці давolen ты сваёй жызняй?

— Не, я не давольны. Чаму вы раней не прыйшлі? Мы рукамі зямлю абраблялі, мучыліся, а цяпер, як арганізавалі калгас, ёсць жняяркі, малацілкі ... Усё за нас тэхніка робіць, — не то жартам, не то ўсур'ёз адказаў бацька», — успамінае Марыя Пашкевіч.

## Усё лепшае — дзецям

У былой Заходняй пры акупацыі працавала больш школ, тут школьныя будынкі радзей знішчаліся (у партызанскіх зонах яны лічыліся «стратэгічнымі аб'ектамі»). Затое стралялі настаўнікаў, прыроўніваючы іх да калабарантаў. Навучанне вялося па-беларуску, нямецкай чамусьці не вывучалі. Ніякай агітацыі за фашыстаў не праводзілася. Можа, яе замяняў партрэт Гітлера на сцяне?

Пры немцах два гады вучыўся Пётр Карповіч. Ён расказвае: «Вучні віталіся з настаўнікам воклічам «Жыве Беларусь!» і адметным жэстам — два пальцы ўгару. (Цяпер я разумею, чаму цалкам патрыятычны лозунг цяперашнія ўлады лічаць «антыдзяржаўным». — Г.К.) На нямецкай управе вісеў бел-чырвона-белы сцяг. У пачатковых класах спрабавалі ўвесці лацінку.

Адзін ці два скончаныя пачатковыя класы «эканомілі» школьнікам некалькі гадоў і дазвалялі ў мірны час раней атрымаць базавую адукацыю альбо прафесію. У некаторых школах на «Крэсах» вучні закончылі пры акупацыі па тры класы. Тры поўныя гады, напрыклад, дзейнічала школа ў маёнтку Агінскіх у Залессі. Усю вайну там стаяў гаспадарчы ўзвод пажылых аўстрыякаў. Стралялі тыя выключна па варонах, каб не развучыцца, згадвае Арсен Ліс.

Пасля вайны апалячаных беларусаў савецкая ўлада пачала вяртаць у лона рускамоўя. Першымі загаварылі «правільна» мястэчковыя габрэі. Людзі дзівіліся, як і калі тыя паспелі перавучыцца. У школах выкладалі камандзіраваныя з усходніх абласцей настаўнікі. «Можна я выйду да будэчкі?» — прасіўся вучань у прыбіральню. Настаўніца смяялася. З Расіі прыслалі ў выглядзе дапамогі падручнікі і дапаможнікі.

Пры выдачы новых пашпартоў заходнікам перайначваліся імёны, найперш — двайныя (чужая для праваслаўя традыцыя). Якая-небудзь Ягуся ў савецкіх дакументах нечакана аказвалася Марыяй, бо насамрэч звалася Ядзвігай-Марыяй, кажа Ірына Жарнасек.

«Памятаю, як пайшла атрымліваць пашпарт. Адкрыла і чытаю: «Соф'я». Не мой, кажу, пашпарт, я — Зося. І ў метрыках напісана: «Зофія». Не буду атрымліваць». — «Пагавары, пагавары, — прыстрашыў адзін з міліцыянераў. — Пасадзім зараз».

Перайменаваная Зося не паступіла ў Ашмянскае педвучылішча, бо не зразумела напісаную па-руску ўмову задачкі. А хто ж ёй напіша па-беларуску?

## Розніца ёсць?

Паміж «усходнікамі» і «заходнікамі» доўга яшчэ існаваў класавы антаганізм. Як сыты галоднага не разумее, так і галодны — сытага. Заможнасць лічылася недаравальнай — з пункту гледжання камуністычнай ідэалогіі — правінай. Нездарма адзін янушкаўскі партызан у цеснай кампаніі прызнаўся: «Я перш гэтых заходнікаў перастраляў бы, а пасля ўжо за немцаў узяўся».

Ментальнасць беларусаў «пад палякамі», безумоўна, змянілася. Былыя заходнікі і зараз падаюцца мне больш годнымі (часам — ганарлівымі), больш смелымі, больш прагматычнымі. Ніводзін народ не любіць раздзялення. Але і пасля аб'яднання ў адзін доўга яшчэ смыліць рана расколу.




Public domain

# «Польскі дакументальны фільм на Беларусі — глыбіня рэзкасці»

## Тыдзень польскага кароткага дакументальнага кіно пройдзе з 3 па 7 кастрычніка ў Мінску




**Stowarzyszenie Młodych Twórców — «Ku Teatrowi» і медыяпраект «pARTisan» запрашаюць на мерапрыемствы праекта «Польскі дакументальны фільм на Беларусі — глыбіня рэзкасці».**

### 3 кастрычніка

**17.00** — прэзентацыя альманаха «pARTtisan № 33» і падручніка «Дапаможнік кінадакументаліста» прафесаркі Гражыны Кэндзеляўскай.

«pARTtisan № 33» цалкам прысвечаны з'яве дакументальнага польскага кіно. Аўтарамі тэкстаў выступілі знакамітыя польскія крытыкі і рэжысёры (Мікалай Яздан, Кшыштаф Кесьлёўскі, Марцэль Лазіньскі, Уршуля Тэс і інш.) Акрамя агляду гісторыі школы дакументальнага кіно, альманах прэзентуе выбітных асобаў і знакавыя стужкі польскай школы, а таксама закранае шэраг прафесійных тэм, звязаных непасрэдна з працэсам стварэння фільма.

**18.00** — ілюстраваная лекцыя «Польскае кароткаметражнае дакументальнае кіно: гісторыя і найноўшыя фільмы на сусветных фестывалях і на шляху да Оскара» (частка I).

Відэапрэзентацыя фрагментаў фільмаў: «Паводка» (1947, Ежы Босак), «Музыканты» (1960, Казімеж Карабаш), «Сталяр» (1976, Войцех Вішнеўскі), «З пункту гледжання начнога вахцёра» (1977, Кшыштаф Кесьлёўскі), «Сем жанчын у розным веку» (1977, Кшыштаф Кесьлёўскі), «Некалькі аповесцяў пра чалавека» (1983, Богдан Дзіворскі), «Усе ведаюць, хто за кім стаіць» (1983, Марыя Змаж-Качановіч), «Дзень за днём» (1988, Ірэна Каменска), «Pro toto» (1987, Анджэй Ціткаў), «Сёстры» (1999, Павел Лазіньскі).

### 4 кастрычніка

**17.00** — ілюстраваная лекцыя «Польскае кароткаметражнае дакументальнае кіно: гісторыя і найноўшыя фільмы на сусветных фестывалях і на шляху да Оскара» (частка II).

Відэапрэзентацыя фрагментаў фільмаў: «Першы дзень» (2007, Марцін Саўтэр), «Там, дзе сонца не спяшаецца» (2009, Матэй Бобрык), «Poste restante» (2008, Марцэль Лазінскі), «Рагалік» (2012, Павел Земільскі), «Чалавек з пакетам» (2012, Якуб Палякоўскі), «Васямнаццатка» (2012, Марта Прус), «Наш праклён» (2013, Томаш Слівінскі), «Суперблок» (2014, Тэрэса Чэпец), «Адпраўная кропка» (2014, Міхал Шчэсняк), «Аб'ект» (2015, Паўліна Скібінска), «Повязі» (2016, Зоф'я Кавалеўская).

### 5 – 7 кастрычніка

**10–19.00** — закрытая Майстроўня кароткаметражных дакументальных фільмаў «15 хвілін: Беларусь!».

Дакументальнае кароткаметражнае кіно — гэта найперш сіла вобразу і сіла свядомага мастацкага выказвання. Адказваючы на пытанні: «Навошта я раблю фільм? Пра каго і пра што я раблю фільм? Якім чынам яго зрабіць?» — удзельнікі майстар-класаў прэзентуюць на пітчынгу свае кінапраекты, над якімі будуць працаваць далей падчас заняткаў. Індывідуальна і ў групах.

Падчас трохдзённых майстар-класаў будзе прэзентаваны метад навучання і практыкавання ў рэалізацыі свайго дакументальнага фільма, выкладзены ў кнізе «Дапаможнік кінадакументаліста» прафесаркі Гражыны Кэндзеляўскай. Кніга выкладзеная на старонцы www.docmajstrounia.com.

Удзельнікі майстар-класа абавязаныя азнаёміцца з «Дапаможнікам», а таксама падрыхтаваць свой кінапраект для пітчынгу.

### 7 кастрычніка

**19.00** — паказ фільма «Час трох чарапахаў» (Czas trzech żółwi), сустрэча з героямі і рэжысёркай.

> «Глыбіня рэзкасці (głębia ostrości, depth of field) — гэта адна з падставовых рэчаў на занятках для студэнтаў кінашкол, — цытуюць арганізатары знанага польскага аператара і рэжысёра Яцка Пэтрыцкага. — Мы хочам з дапамогай кінасродкаў данесці не толькі гісторыю, але і нашы пачуцці ад гэтай гісторыі. Калі мы наводзім рэзкасць, нешта становіцца гарачым... Або перастае быць важным, а потым зноў пачынае мець значэнне. Такім чынам аказваецца, што мы кіруем гэтым апавяданнем з дапамогай глыбіні рэзкасці».

Даведацца пра гісторыю польскай дакументалістыкі ўсе цікаўныя змогуць на ілюстраваных лекцыях «Польскае кароткаметражнае дакументальнае кіно: гісторыя і найноўшыя фільмы на сусветных фестывалях і на шляху да Оскара». А стваральнікі альманаха «pARTtisan № 33», цалкам прысвечанага з'яве дакументальнага польскага кіно, прэзентуюць выбітных асобаў, знакавыя стужкі, а таксама шэраг прафесійных тэм, звязаных непасрэдна з працэсам стварэння фільма.

Атрымаць практычныя веды і асновы кінематаграфічнага майстэрства ў выкладчыкаў PWSFTviT (Вышэйшая Дзяржаўная Школа Кіно, Тэлевізіі і Тэатра імя Леона Шылера ў Лодзі) прафесіяналы(-кі) і аматары(-кі) змогуць падчас прэзентацыі падручніка «Дапаможнік кінадакументаліста» і III Майстроўні кароткаметражных дакументальных фільмаў «15 хвілін: Беларусь!». За тры дні 12 аўтараў(-ак) распрацуюць свае кінапраекты і адшукаюць магчымасці іх вытворчасці. Колькасць удзельнікаў абмежаваная. Усё неабходнае для ўдзелу ў Майстроўні шукайце на www.15minutesbelarus.net. Удзел бясплатны.

Усе падзеі Тыдня польскага кароткага дакументальнага кіно пройдуць у Прэс-клубе (г. Мінск, вул. Веры Харужай 3, офіс 601).

Уваход вольны.

За падрабязнасцямі і актуальнымі навінамі запрашаем у суполку падзеі ў Facebook.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №916

Падпісана да друку 29.09.2017. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Кошт свабодны.